Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Аддзел культуры Пружанскага райвыканкама
Музей-сядзіба "Пружанскі палацык"

Навукова-практычная канферэнцыя

# "Заходнебеларускі рэгіен у паўстанні 1863 – 1864 гг."

**Зборнік дакладаў**

***12 – 13 красавіка 2013 г.***



**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

**Аддзел культуры Пружанскага райвыканкама**

**Музей-сядзіба "Пружанскі палацык"**

# Навукова-практычная канферэнцыя

# "Заходнебеларускі рэгіен у паўстанні 1863 – 1864 гг."

## Зборнік дакладаў

## 12 – 13 красавіка 2013 г.

**Брэст 2013**

**УДК 940**
**ББК 63.3(4 Беі)51**

**Рэцэнзент:** ***А.М. Вабішчэвіч, доктар гістарычных навук, дацэнт***



Даклады навукова-практычнай канферэнцыі прысвечаны гістарычным падзеям паўстання 1863 – 1864 гг. ў Заходнебеларускім рэгіёне. Разлядаецца шэраг актуальных пытанняў.

Зборнік прадстаўляе цікавасць для выкладчыкаў і настаўнікаў гісторыі, студэнтаў і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй краю.

**На вокладцы: левая частка трыпціху Уладзіміра Крукоўскага "Памяці Каліноўскага" (1983 г.)**

ISBN 978-985-493-267-5

# ЗМЕСТ

*А.М. Вабішчэвіч*

## ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГАДОЎ У ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІХ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫХ ДАСЛЕДАВАННЯХ

Інтарэс заходнебеларускіх даследчыкаў да падзей паўстання 1863–1864 гг. быў выкліканы агульным уздымам грамадскай цікаўнасці да іх у рамках фарміравання беларускай нацыянальна-дэмакратычнай ідэалогіі ў 1920-я гг. Менавіта тады ў савецкай Беларусі даследаванні І. Цвікевіча і У. Ігнатоўскага палажылі пачатак навуковаму асэнсаванню паўстання, асобы яго кіраўніка К. Каліноўскага. Важнае значэнне мела пашырэнне базы крыніц.

Ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці акцэнт быў зроблены на навукова-асветніцкую працу. Выключная ўвага надавалася асобе К.Каліноўскага. У “Гісторыі беларускай літаратуры” М. Гарэцкага (Вільня, 1920) ён паказаны як нацыянальны герой, “выдатная і магутная постаць”. Падкрэслівалася, што гэты беларускі рэвалюцыянер-паўстанец выступаў за скасаванне панскіх прывілеяў, прызнанне нацыянальна-культурных інтарэсаў беларусаў. “Мужыцкая праўда”, на думку М. Гарэцкага, заклікала беларускіх сялян “скідаць ярмо маскоўскіх катаў, ...ісці ў паўстанцы, каб бараніць і унію, веру дзядоў”[1]. Менавіта К. Каліноўскі надаў паўстанню на Беларусі класавы характар і разгарнуў рэвалюцыйны тэрор[2]. Аналізуючы агітацыйную літаратуру (у тым ліку і пракламацыі К. Каліноўскага), М. Гарэцкі прыйшоў да высновы, што беларускамоўны друк пашыраўся і ім карысталіся дзеля абуджэння грамадскай свядомасці (“калі хацелі зачапіць струны беларускай душы”[3]).

Да 70-годдзя паўстання і гібелі К. Каліноўскага заходнебеларуская хрысціянска- і нацыянальна-дэмакратычная інтэлігенцыя наладзіла ў Вільні шэраг урачыстасцей. У прыватнасці, на святочнай акадэміі 25 сакавіка 1933г. лідэр БХД ксёндз А. Станкевіч прачытаў асобны рэферат, які быў выдадзены брашурай “Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасці Беларусі” (Вільня, 1933). Гэты біяграфічны нарыс пра К. Каліноўскага з аналізам яго светапогляду, выдавецкай дзейнасці высока ацэнены і сучаснымі даследчыкамі[4]. Выразна і безапеляцыйна падкрэслівалася нацыянальная ідэнтыфікацыя кіраўніка паўстання – беларус. Пры гэтым адзначалася, што К. Каліноўскі называў беларусаў звычайна “мужыкамі”, “братамі-мужыкамі”, а не этнонімам “беларусы”. А. Станкевіч не меў ніякіх ілюзій наконт таго, што К. Каліноўскі быў “палітычным рамантыкам”. Гэта вынікала з агульнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага ўздыму ў Еўропе і царскай Расіі ў сярэдзіне XIX ст. “Вялікі барацьбіт за волю народа”, “змагар за палітычную самастойнасць Беларусі і Літвы” – так узнёсла названы кіраўнік паўстання[5]. Паводле А. Станкевіча, К. Каліноўскі галоўнай рухаючай сілай паўстання бачыў сялянства і падвяргаў сумненню яго пасняховасць у выніку далучэння буйных землеўласнікаў. З прагматычных меркаванняў ён вырашыў выкарыстаць выступленні “белых” дзеля задавальнення ўласных палітычных планаў[6]. Незалежніцкія погляды К.Каліноўскага абгрунтаваны на падставе аналізу папярэдніх прац: успамінаў аднаго з кіраўнікоў “белых” Я. Гейштара (паводле А. Станкевіча, “сепаратыстам заве Каліноўскага”, хаця Я. Гейштар выказваўся адносна “самастойнасці

---

[1] Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / Уклад. і падрыхт. Тэксту Т.С. Голуб. – Мінск: Маст. літ., 1992. – С. 230.

[2] Там жа. – С. 229.

[3] Там жа. – С. 231.

[4] Конан, У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі / У. Конан. – Мінск: Выд-ва “Про Хрысто”, 2003. – С. 43.

[5] Станкевіч, А. Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасці Беларусі. – Вільня, 1933. – С. 21.

[6] Там жа. – С. 18.

Літвы"[7]), царскага генерала В. Ратча ("малюе Каліноўскага як выразнага і сталага барацьбіта за палітычную самабытнасць Беларусі і Літвы"), польскіх гісторыкаў В. Пшыбароўскага ("у паўстанні Каліноўскі бачыў ... незалежнасць Літвы, а пасля сацыяльную рэвалюцыю"), Б. Ліманоўскага ("быў шчырым народнікам"), а таксама беларускага гісторыка У. Ігнатоўскага, рускага дарэвалюцыйнага даследчыка П. Бранцава, літоўскага вучонага А. Янулайціса.

А. Станкевіч высока ацаніў значэнне "Мужыцкай праўды", якую назваў першай беларускай газетай, што "будзіла народ наш да вольнасці сацыяльнай і нацыянальнай". Для пацвярджэння сваёй пазіцыі адносна таго, што "Мужыцкая праўда" была менавіта газетай, а не пракламацыяй (лістоўкай), прыводзіў наступныя аргументы: быў парадкавы нумар; адзіная назва; ідэйны змест ("беларуска-нацыянальны"); у канцы кожнага нумара была ўказана цана. Спасылаўся пры гэтым на польскіх даследчыкаў (Е. Гансяроўскага, Б. Ліманоўскага), якія лічылі "Мужыцкую праўду" газетай. А. Станкевіч таксама змясціў інфармацыю пра пашырэнне "Мужыцкай праўды" ў заходнебеларускім рэгіёне. Першыя яе нумары распаўсюджваліся ў Брэсцкім павеце. А экзэмпляры апошняга нумара (№ 7) "Мужыцкай праўды" былі знойдзены царскай паліцыяй каля памесця Ківатычы Пружанскага павета (цяпер на тэрыторыі Кобрынскага раёна, не захавалася) восенню 1864 г. і кваліфікаваны як "польскія рэвалюцыйныя пракламацыі".

У дадзенай працы А. Станкевіч выказаў уласную версію аб аўтарстве беларускіх вершаваных твораў агітацыйнага характару 1860-х гг. пад агульнай назвай "Гутарка двух суседаў", якія і цяпер нярэдка лічацца ананімнымі. На думку А. Станкевіча, іх аўтарам мог быць і К. Каліноўскі. Гэтай пазіцыі прытрымліваўся і польскі гісторык Г. Масціцкі[8].

Асобныя публікацыі пра К. Каліноўскага, газету "Мужыцкая праўда" змяшчаліся і на старонках заходнебеларускага друку[9]. Нацыянальна-рамантычны вобраз К. Каліноўскага актыўна прапагандаваўся ў асяроддзі нешматлікай заходнебеларускай інтэлігенцыі, студэнцкай і вучнёўскай моладзі. І гэта рабілася ў супрацьвагу разгорнутай у БССР у 1930-я гг. кампаніі ідэйнага астракізму адносна К. Каліноўскага і іншых дзеячаў гісторыі, культуры Беларусі.

У кнізе "Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення" (Вільня, 1934) А. Станкевіч разглядаў постаць К. Каліноўскага, "прадвесніка незалежнасці", у адным шэрагу з "Мужыцкай праўдай" і часопісам "Гоман", што выдаваўся нелегальна ў 1884 г. у Пецярбургу. Грамадска-палітычнае жыццё беларускіх зямель пададзена ў геапалітычным кантэксце XIX ст. Ідэі еўрапейскага Асветніцтва ("рамантызм літаратурны і навуковы") паўплывалі на працэсы нацыянальнага адраджэння ("рамантызм палітычна-народны")[10]. К. Каліноўскі залічаны да пачынальнікаў беларускага палітычнага вызвалення, рэвалюцыйных народнікаў. На яго ідэйна-палітычнае самасцвярджэнне, паводле А. Станкевіча, аказалі рэвалюцыйна-дэмакратычныя погляды А. Герцэна, М. Бакуніна, М. Кастамарава, Т. Шаўчэнкі і інш. Літаратуразнавец У. Конан справядліва называў А. Станкевіча піянерам у раскрыцці сацыяльна-псіхалагічных перадумоў шляхецка-каталіцкага этапу беларускага руху ў XIX – пачатку XX ст., сярод якіх ім выдзелены збядненне фальваркавай шляхты, якая па свайму становішчу набліжалася да сялянства, традыцыі ўніяцтва, апазіцыйнага да царызму[11].

А. Станкевіч рабіў акцэнт на тым, што К. Каліноўскі фактычна быў супраць паўстання, бо "не верыў у яго ўдачу", гэта супярэчыла яго дэмакратычнаму светапогляду.

---

[7] К. Калиновский: из печатного и рукописного наследия: сборник / Ин-т истории партии при ЦК КП Белоруссии, Фил. Ин-та марксизма-ленинизма при ЦК КПСС. – Минск: Беларусь, 1988. – С. 166.

[8] Polska zbrojna. – 1937. – 22 stycznia.

[9] Віч. Першы змагар за справу адраджэння беларускага народу //Шлях беларускага студэнта. – 1939, №3; Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі і яго "Мужыцкая праўда" //Шлях моладзі. – 1933, №2; 70-леццe беларускай прэсы – "Мужыцкая праўда" 1863 г. //Беларуская крыніца. – 1933. – 5 лютага.

[10] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. – Вільня, 1934. – С. 12-13.

[11] Конан, У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі. – С. 43.

Калі ж паўстанне ўсё ж пачалося, то вымушаны быў выступіць “у імя дабра народу”[12]. Як і іншыя заходнебеларускія аўтары, паўстанне 1863–1864 гг. называў польскім. У кнізе асветлены не толькі сацыяльна-класавыя, але і нацыянальныя аспекты паўстання. “У Каліноўскага не было… беларускага нацыяналізму ў сучасным разуменні, – адзначаў А. Станкевіч, – але ў яго, як і ў многіх са шляхты, былі яшчэ жывыя традыцыі ВКЛ”[13]. У дадзеным даследаванні таксама пацверджана, што К. Каліноўскі адчуваў сваю кроўную повязь з беларускім (ліцвінскім) народам. Абвяргалася яго антыруская непрыязнасць: “не меў нацыянальнай нянавісці да Расіі”[14]. “Палякам не называў ён сябе ніколі, бо гэткім ён не пачуваўся”[15]. Таму і з’яўляецца зразумелым адмаўленне нейкіх дачыненняў К. Каліноўскага да адозвы “Да мужыкоў зямлі польскай”, падпісанай псеўданімам “Яська – гаспадар з-пад Вільні”. А. Станкевіч лічыў, што выказванне з адозвы – “мы спрадведку палякі, на польскай зямлі жывём і польскі хлеб ямо” – гучала яўным дысанансам з усімі яго публічнымі выступленнямі (у тым ліку ў друку). “Краю нашага… Каліноўскі не называе польскім, … заўсёды Польшчы яго процістаўляе”[16]. Зыходзячы з гэтага, і было выказана меркаванне, што пад прыкрыццём імя К. Каліноўскага тую адозву выдалі прадстаўнікі “белых”, для якіх беларускія землі былі часткай былой (выключна польскай) дзяржавы – Рэчы Паспалітай[17]. У вышэйпададзенай брашуры “Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасці Беларусі” А. Станкевіч ужо падвяргаў сумненню аўтарства той (“нейкай дзіўнай”) адозвы, якая магла быць звернута да палякаў-католікаў. Дапускаў таксама, што К. Каліноўскі мог назваць беларусаў менавіта палякамі па палітычных меркаваннях – калісьці былі пад панаваннем Польшчы. Не выключаў і магчымасці падлогу[18]. Гэтая пазіцыя (аб падробцы – устаўленні згаданага выказвання ў тэкст К. Каліноўскага) стала пераважнай у сучаснай гістарычнай думцы Беларусі[19]. Літаратуразнавец Г. Кісялёў лічыў, што летам 1863г. магчыма ў Варшаве ў адной з друкарняў Нацыянальнага ўрада і была надрукавана пры нявысветленых акалічнасцях гэтая адозва супярэчлівага характару, якая можа быць падробкай[20].

А. Станкевіч пастараўся акрэсліць погляды К. Каліноўскага аб дзяржаўна-палітычным уладкаванні беларусаў і суседніх народаў. К.Каліноўскі прызнаецца прыхільнікам федэрацыі (канфедэрацыі) беларускіх, літоўскіх зямель з Польшчай, аднак выказваюцца яго сумненні адносна сутнасці такой федэрацыі. На падставе аналізу тагачасных гістарычных даследаванняў і публікацый крыніц А. Станкевіч зрабіў выснову што К. Каліноўскі “Беларусь, Літву і Польшчу … разумеў як незалежныя дзяржавы, злучаныя паміж сабой саюзнымі дагаворамі і палітычнай дружбай”[21].

А. Станкевіч таксама выступіў з вострай крытыкай беларускага савецкага гісторыка С. Агурскага, які адмаўляў дачыненне К. Каліноўскага да друкавання “Мужыцкай праўды”, называў яго “міфічным героем”, спрабаваў даказаць, што паўстанне 1863–1864 гг. мела рэакцыйны, памешчыцка-клерыкальны характар. А. Станкевіч упэўнена заявіў аб тым, што “Мужыцкая праўда” была тыповай беларускай народніцкай газетай, у якой яшчэ панавалі традыцыі ВКЛ. У 1930-я гг. у выніку разгрому нацыянал-дэмакратызму ў БССР істотна змяніліся метадалагічныя падыходы ў ацэнцы паўстання – яны аказаліся звышідэалагізаванымі.

---

[12] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. – С. 24-25.

[13] Там жа. – С. 23.

[14] Там жа. – С. 25.

[15] Там жа. – С. 24.

[16] Там жа. – С. 27.

[17] Там жа. – С. 31.

[18] Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасці Беларусі. – С. 41-43.

[19] Луцкевіч, А. Барацьба за вызваленьне. – Вільня: Інстытут беларусістыкі – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. – С. 625.

[20] Кісялёў, Г. Здарэнне з Яськам-гаспадаром // Рэжым доступу: http://arkushy.narod.ru/kalinouski/library/kisialiou_zzjh.htm.

[21] Станкевіч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення. – С. 29.

У рабоце “Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення” А. Станкевіч спасылаўся на ліст К. Каліноўскага свайму паплечніку, аднаму з кіраўнікоў паўстання Б. Длускаму. Копію таго адшуканага ліста яму даслаў даследчык з-пад Слоніма Р. Кярсноўскі. “Ужо больш 12 гадоў я збіраю матэрыялы па гісторыі паўстання ў Літве, – прызнаваўся ён у перапісцы, – і больш за ўсё цікаўлюся гераічнай постаццю Канстанціна Каліноўскага, постаццю, якая дагэтуль у гісторыі належным чынам не ацэнена і асветлена вельмі аднабакова”[22]. Якраз Р. Кярсноўскі змясціў у 1930-я гг. у польскім друку шэраг публікацый пра паўстанне.

Нягледзячы на тое, што большасць прац заходнебеларускіх дзеячаў выразна ўкладвалася ў агульнае рэчышча нацыянальна-дэмакратычнай гістарычнай канцэпцыі, аднак па шэрагу важных пытанняў не было адзінства. А. Луцкевіч аспрэчваў пазіцыю А. Станкевіча і іншых заходнебеларускіх дзеячаў адносна таго, што “Мужыцкая праўда” была газетай. Пра гэта выразна выказаўся ў адной з публікацый пад красамоўнай назвай “Праўда аб “Мужыцкай праўдзе” на старонках “Гадавіка Беларускага навуковага таварыства” (Вільня, 1933). Паводле яго ацэнкі, гэта быў “цыкл адозваў пад адным агульным загалоўкам, змешчаным зверху дробным друкам, з чарговымі нумарамі (як, да прыкладу, у прыказах або цыркулярах улады)”[23]. У якасці аргументаў залічэння “Мужыцкай праўды” да адозваў называў неперыядычнасць выдання, адсутнасць інфармацыйнага матэрыялу, прапагандысцкі характар нумароў, а таксама спасылаўся на К. Каліноўскага, які называў “гэтыя лістоўкі сваімі пісьмамі” і не прэтэндаваў называць іх газетай. А. Луцкевіч тлумачыў пазіцыю сваіх апанентаў (“некаторых беларускіх дзеячаў, далёкіх ад навуковай працы і навуковага падыходу”) іх жаданнем пашырэння сярод насельніцтва прывабнай думкі, што “беларусы ўжо 70 гадоў назад мелі сваю прэсу, якая ... для кожнага народу з’яўляецца ў пэўнай меры паказчыкам яго культурна-нацыянальнай даспеласці”[24].

Ацэнкі А. Луцкевічам паўстання 1863–1864 гг., якое лічыў таксама польскім, можна прасачыць на падставе яго рэфератаў, прысвечаных народавольцам-беларусам і іх органу “Гоман”, якія прадстаўляліся з нагоды 50-годдзя выхаду часопіса ў свет (1934 г.) і на VI-м Агульнапольскім з’ездзе гісторыкаў у Вільні (1935 г.)[25]. К. Каліноўскі названы “шчырым народнікам”, які “творыць цэлую паўстанцкую літаратуру на беларускай мове (7 адозваў), заклікаючы беларусаў падпарадкавацца “польскаму ронду” і далучыцца да паўстанчага руху ў імя здзяйснення польскага дзяржаўнага ідэалу”, “дае доказ прызнання ... нацыянальных правоў беларусаў”[26]. І ў якасці пацвярджэння прыводзіў спасылку на згаданую раней адозву “Да мужыкоў зямлі польскай”, дачыненне да якой К.Каліноўскага не аспрэчваў. Паводле А. Луцкевіча, у ёй пад палякамі К. Каліноўскі меў на увазе “грамадзян Польшчы”. Пры гэтым А. Луцкевіч уступіў у палеміку з А. Станкевічам і іншымі дзеячамі нацыянальна- і хрысціянска-дэмакратычных поглядаў, якія лічылі К. Каліноўскага барацьбітом за незалежнасць Беларусі, Літвы і рабілі гэта быццам на падставе словаў рэвалюцыянера ў адозве аб тым, што “не бязмозглая Варшава”, а “мы самі будзем будаваць мужыцкую Беларусь”[27]. А. Луцкевіч лічыў беспадстаўным спрошчанае тлумачэнне ідэі дзяржаўнай незалежнасці ў той час, “як гэтая ідэя яшчэ фактычна не існавала”. “І “мужыцкасць” Беларусі проціпастаўляецца тут выразна не Польшчы як дзяржаве, а кіраўнічаму цэнтру паўстання ў Варшаве, які хварэў

---

[22] Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН Беларусі. – Ф. 4. – Воп.1. – Спр.34. – Арк.1.

[23] [А. Л.] Праўда аб “Мужыцкай Праўдзе” // Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч; уклад., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. – Мінск: Кнігазбор, 2006. – С. 311.

[24] Там жа.

[25] Biblioteka Akademios mokslio Lietuvos. Skyriuus manuskriptai (Бібліятэка АН Літвы. Аддзел рукапісаў) (BAML SM). – F. 21. – B. 339. Луцкевіч А. Народавольцы-беларусы і іх орган “Гоман” (1934 г.); BAML SM. – F. 21. – B. 340. Луцкевіч А. Народавольцы-беларусы і іх орган “Гоман” (1935 г.). Рэфераты былі апублікаваны А. Смалянчуком, А. Сідарэвічам.

[26] Луцкевіч, А. Барацьба за вызваленьне. – С. 448, 462.

[27] Там жа.

на “панскасць”[28]. Канфлікт К. Каліноўскага з варшаўскім кіраўніцтвам паўстання тлумачыўся ім выключна розніцай падыходаў да вырашэння сацыяльных праблем, арганізацыйнымі захадамі – імкненнем зрабіць больш незалежным ад лагеру “белых” у Варшаве паўстанцкі рух на беларускіх землях. Выступленне К. Каліноўскага супраць цэнтралізатарскай палітыкі Варшавы тлумачыў сацыяльна-псіхалагічнай прычынай – супярэчнасцю паміж палякамі-“варшавякамі” і “крэсовымі” палякамі (спольшчанай шляхтай), а таксама сацыяльным радыкалізмам лідэра “чырвоных” К. Каліноўскага ў адрозненне ад плыні “белых”. У яго разуменні К. Каліноўскі збіраўся будаваць “мужыцкую Беларусь” у складзе Польшчы. У рэфераце для VI-га з’езда польскіх гісторыкаў А. Луцкевіч пастараўся дакладна сфармуляваць погляды К. Каліноўскага адносна пытання аб дзяржаўнасці беларускіх зямель: “у сваіх адозвах выразна гаворыць пра самастойнае аўтаномнае будаванне Беларусі ў складзе адноўленай Польшчы”[29]. Таму ў адрозненне ад сваіх заходнебеларускіх апанентаў залічваў К. Каліноўскага менавіта да “прадстаўнікоў беларускага аўтанамізму ў Польскай дзяржаве”[30]. Якраз такую пазіцыю заняў У. Ігнатоўскі: у манаграфіі “1863 год на Беларусі. Нарыс падзей” (Мінск, 1930), дзе адзначыў, што К. Каліноўскі выступаў за “асобага віду аўтаномію для Беларусі ў федэрацыйнай Рэчы Паспалітай”. Аднак яшчэ ў канцы 1920-х гг. А. Луцкевіч быў больш схільным у ацэнках К. Каліноўскага як выразнага “незалежніка”. Пра гэта сведчыць напісаная ім у турэмным зняволенні ў Лукішках у Вільні ў снежні 1927г. прадмова да ўспамінаў пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду. З К. Каліноўскім звязваецца першая актыўная праява палітычнага руху ў XIX ст., ён называецца сярод пачынальнікаў разгляду беларускага пытання як самастойнага, а не часткі польскага пытання, які “стараецца збудзіць прыспаныя сялянскія масы дзеля барацьбы за палітычнае вызваленне Беларусі і Літвы (былога Вялікага Княства Літоўскага) – у імя нацыянальнай і рэлігійнай свабоды…”[31]. Такую пэўную пераацэнку асобы К. Каліноўскага неабходна звязваць з эвалюцыяй поглядаў А. Луцкевіча, даволі складанымі ўзаемаадносінамі яго як з БХД, так і з заходнебеларускімі камуністамі. Як прыхільнік пераважнага развіцця ў заходнебеларускім руху менавіта культурна-асветніцкай працы, А. Луцкевіч прызнаў не менш важным у параўнанні з грамадска-палітычнай дзейнасцю К. Каліноўскага і асветніцтва, якім займаліся іншыя актыўныя ўдзельнікі паўстання: у якасці яскравага прыкладу прыведзены выдадзены А. Аскеркам ў Варшаве ў 1862 г. беларускі буквар “Элементаж для добрых дзетак каталікоў”.

Сялянства ў большасці не падтрымала паўстанцаў, нярэдка рэзка адмоўна да іх ставілася (“як ворагі “панскага” паўстання”)[32]. Паводле А. Луцкевіча, краёвая шляхецкая інтэлігенцыя (“спольшчаная і культурна, і палітычна”) не змагла распазнаць сацыяльную прычыну актывізацыі беларускага сялянскага руху, накіраванага супраць мясцовых памешчыкаў (“краёвага абшарніцтва”). У якасці доказу спаслаўся на адно з паведамленняў віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва аб становішчы сялян у Магілёўскай губерні: іх антыпаўстанцкая дзейнасць прызнавалася для царызму небяспечнай і падлягала абмежаванню[33].

У супрацьвагу рамантызаванаму вобразу нацыянальнага героя, які прысутнічаў у заходнебеларускіх гістарычных даследаваннях, у шэрагу твораў заходнебеларускай літаратуры (“Смерць Кастуся Каліноўскага” М. Машары, “Каліноўскі” М. Танка) быў прадстаўлены вобраз К. Каліноўскага як тыповага рэвалюцыянера. Нягледзячы на нацэленасць на бескампрамісную барацьбу з “беларускай буржуазна-нацыяналістычнай” і “польскай шавіністычнай” прэсай, дзеячы заходнебеларускага камуністычнага руху разглядалі К. Каліноўскага не як кіраўніка польскага руху, а як змагара з сацыяльным і нацыянальным прыгнётам беларусаў, што пераклікалася з ацэнкамі дзеячаў БХД.

---

[28] Там жа.

[29] Там жа. – С. 462.

[30] Там жа. – С. 449.

[31] Луцкевіч, А. Да гісторыі беларускага руху. – Выд. 2-е, дапоўн. і папраўл. – Вільня: Інстытут беларусістыкі – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. – С. 170.

[32] Там жа. – С. 462.

[33] Там жа. – С. 449.

Асобныя аспекты паўстання 1863–1864 гг. на беларускіх землях разглядаліся ў шматлікіх польскіх краязнаўчых публікацыях. Звычайна іх аўтары асвятлялі падзеі паўстання з пазіцыі тагачаснай польскай грамадска-палітычнай думкі ў кантэксце польскага нацыянальна-вызваленчага руху 1795–1918 гг. У гістарычным нарысе М. Разанава "Пружанскі павет" (Пружаны, 1935) прыведзены сціплыя звесткі пра разгортванне паўстанцкага руху на тэрыторыі Пружанскага павета. Паводле ацэнкі аўтара, польскі элемент прымаў актыўны ўдзел у паўстанні[34]. "Польская моладзь ідзе са зброяй у руках да паўстанцаў; старэйшае пакаленне займаецца забеспячэннем атрадаў зброяй, амуніцыяй, правіянтам, а таксама грашыма; кабеты шыюць для паўстанцаў бялізну і адзенне; ствараюцца ў бяспечных месцах склады тых прадметаў ... У атрадах побач з памешчыкамі сустракаем шматлікую шляхту з ваколіц", – так адлюстраваны полаўзроставы, сацыяльны склад прыхільнікаў паўстання[35]. Аднак адсутнасць належнай падрыхтоўкі і нешматлікая падтрымка з боку мясцовага насельніцтва (асабліва сялян) прывялі да заняпаду паўстання[36]. Як і ў іншых польскіх краяўнаўчых працах, у гэтай манаграфіі пераважна акцэнтавалася ўвага на адмоўнай ацэнцы ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, негатыўных выніках нацыянальнай палітыкі царызму, асабліва пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг. Таму знаходжанне заходнебеларускіх зямель у складзе Польскай дзяржавы ("адноўленай Польшчы-Маці") пасля 1921 г. прадстаўлялася ў якасці перспектыўнай магчымасці для іх цывілізацыйнага развіцця[37].

У цэлым, у заходнебеларускіх гісторыка-краязнаўчых даследаваннях у 1921–1939 гг. былі прадстаўлены некалькі канцэптуальных праектаў паўстання 1863–1864 гг. Краязнаўчыя працы польскіх аўтараў у асноўным укладваліся ў русла ***польскай гістарыяграфічнай канцэпцыі***. У большасці заходнебеларускіх гістарычных публікацый была выкладзена ***беларуская нацыянальна-дэмакратычная канцэпцыя***, якая распрацоўвалася да канца 1920-х гг. і ў Савецкай Беларусі. Выразным было дамінаванне нацыянальна-дэмакратычных пазіцый у асвятленні важнейшых падзей гісторыі Беларусі, у тым ліку паўстання 1863–1864 гг. Хоць паўстанне прызнавалася польскім, але выдзяляўся яго беларускі нацыянальна-вызваленчы характар. Быў створаны рамантызаваны вобраз нацыянальнага героя К. Каліноўскага, беларускага рэвалюцыянера-народніка, які змагаўся з сацыяльным і нацыянальным прыгнечаннем. Аднак некаторыя ключавыя пытанні не атрымалі адназначнай ацэнкі, выклікалі палеміку. Калі большасць заходнебеларускай нацыянальна- і хрысціянска-дэмакратычнай інтэлігенцыі лічыла К. Каліноўскага "незалежнікам", што выступаў за існаванне Беларусі, Літвы і Польшчы ў федэрацыі незалежных дзяржаў (найбольш выразна яе пазіцыю выклаў А. Станкевіч), то яе невялікая частка (А. Луцкевіч і яго прыхільнікі) выказвала больш памяркоўную ацэнку – К. Каліноўскі быў "аўтанамістам", які адстойваў аўтаномію Беларусі ў складзе федэрацыйнай Рэчы Паспалітай. Таксама вяліся спрэчкі адносна прызнання "Мужыцкай праўды" газетай ці цыклам пракламацый (лістовак). Асобныя ўзнятыя тады дыскусійныя пытанні (у прыватнасці, наконт аўтарства адозвы "Да мужыкоў зямлі польскай") так і не знайшлі канчатковага вырашэння і ў сучаснай гістарычнай навуцы.

Прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку (найперш дзеячы КПЗБ) у сваёй дзейнасці менш увагі надавалі вывучэнню і прапагандзе айчыннай гісторыі, у тым ліку і падзей паўстання 1863–1864 гг., бо разглядалі нацыянальнае пытанне не асобна, а толькі ў цеснай сувязі з вырашэннем сацыяльных праблем беларускага насельніцтва, з уз'яднаннем у межах адзінай Савецкай Беларусі. Таму можна вылучыць ***асобную канцэптуальную пазіцыю*** менавіта ***заходнебеларускіх камуністаў,*** якая разыходзілася з ацэнкамі беларускай савецкай гістарыяграфіі 1930-х гг. з яе манаполіяй класавага падыходу. Дзеля супрацьдзеяння польскай ("шавіністычнай") і беларускай

[34] Rozanów, M. Powiat Prużański (szkic historyczny). – Prużana, 1935. – S. 20.
[35] Ibidem. – S. 22–23.
[36] Ibidem. – S. 27.
[37] Ibidem. – S. 31.

нацыянальна-дэмакратычнай (“буржуазна-нацыяналістычнай”) канцэпцыям пераважна ў мастацкай літаратуры быў створаны вобраз К. Каліноўскага як тыповага рэвалюцыянера, але змагара з сацыяльным і нацыянальным прыгнётам беларуса.

*Н.П.Галімава*

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЕ БЕЛАРУСІ НАПЯРЭДАДНІ І ПАСЛЯ ПАЎСТАННЯ 1863 – 1864 ГГ. (НА ПРЫКЛАДЗЕ СЛОНІМСКАГА ПАВЕТА)

Прадметам нашага даследвання з'явіліся эканамічныя працэсы на тэрыторыі Слонімскага павета ў XIX ст. Пры даследванні былі выкарыстаны дакументальныя матэрыялы, у пераважнай большасці архіўныя – статыстычныя крыніцы і крыніцы справаводства дзяржаўных устаноў Гродзенскай губерні і Слонімскага павета.

Зыходнай базай для развіцця прамысловасці былі хатнія і адыходныя промыслы. Перавага ў дарэформеннай Беларусі паншчыны над аброкам прывяла да таго, што адыходныя промыслы не набылі тут такога развіцця, як у Расіі. Хатнія промыслы былі састаўной часткай сялянскай паўнатуральнай гаспадаркі. У сваёй большасці сяляне займаліся кавальскай справай, вырабам скуры, апрацоўкай драўніны, кравецтвам і шавецтвам. Менавіта дзякуючы промыслам, сялянін мог падтрымліваць гаспадарку ў стабільным стане. Неабходнасць дадаткова займацца іншымі справамі існавала і ў часы Рэчы Паспалітай: па падліках гісторыка Ахмяньскага сяляне маглі пакрыць за кошт уласнай вытворчасці зерня толькі 56,6% яго гадавой патрэбы. Такім чынам, жыхары былі забяспечаны хлебам уласнай вытворчасці толькі на 6–8 месяцаў[1]. Таму дапаможныя занякі і промыслы адыгрывалі вялікую ролю для эканомікі, бо сялянская гаспадарка не дасягнула такога развіцця, каб можна было забяспечыць сваё існаванне і пры гэтым выплачваць яшчэ падаткі без дапамогі дадатковых заняткаў.

Мноства лясоў давала мясцовым жыхарам магчымасць шукаць сабе заробак на лясных плошчах. Такія промыслы складалі вырубку і дастаўку лесу, гонку смалы і дзёгця, гатаванне дошак, лыка, калёс, саняў, дугаў, драўлянага посуду, абпальванне вугля. Так, бандарны промысел забяспечваў сялянскую гаспадарку смалой і дзёгцем. Жыхары вёсак славіліся вырабам куфараў, якія ўпрыгожвалі разьбой. Даволі шырокае распаўсюджванне атрымала ганчарства, бо радовішчы гліны і запасы паліва для апрацоўкі посуду былі паўсюдна, а "круг" мог зрабіць кожны жыхар.

Гісторык і краязнаўца П.Баброўскі, аналізуючы гандлёвую кан'юнктуру Гродзенскай губерні, адзначаў важную ролю горада Слоніма ў сістэме гандлёвых сувязей не толькі губерні, але і ўсяго Заходняга эканамічнага рэгіёна Расійскай імперыі. Дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму месцазнаходжанню, Слонім, па словах П. Баброўскага, – адзін з важных "передаточных пунктов торговли с хлебородной Волынской губернией". Слонім, размешчаны на захадзе Гродзенскай губерні, разам з Беластокам – важнай гандлёва-прамысловай кропкай на захадзе губерні, Гродна – у яе паўночнай паласе і Брэстам – на поўдні, набыў дастатковую сілу "для приёма туземных произведений, хлеба, дерева, стремящихся сухим путем из ближайших ... местностей и располагал достаточными средствами для приобретения предметов роскоши из Риги, Вильни, Москвы и Варшавы"[2].

Актывізацыі гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасці мясцовага купецтва і ажыўленню гарадскога гандлю спрыяла наяўнасць добраўладкаванай гарадской прыстані – адной з буйнейшых у Гродзенскай губерні. Слонімская прыстань была "правильно устроена и совершенно удобна для выгрузки, склада и нагрузки разного рода товаров"[3]. Тут мелася некалькі свірнаў, у якія засыпаўся да адкрыцця навігацыі хлеб, што прывозіўся большай

---

[1] Копысский, З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVII – XVIII вв. / З.Ю. Копысский. – Минск, 1996. - С. 58.

[2] Бобровский, П.В. Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерня / П.В. Бобровский. – СПб., 1836. – С. 1074.

[3] Там жа. – С. 869.

часткай зімой з вакольных мясцовасцей. Кожны год на Слонімскай прыстані грузілася і па Шчары міма Слоніма праходзіла некалькі соцень суднаў з рознымі таварамі. Напрыклад, у 1857 г. тут грузілася 15 суднаў і 280 плытоў. Цана груза складала 76480 рублёў[4].

У XIX ст. ў Слонімскім павеце набіралі моц і развіццё мястэчкі. Беларускае мястэчка – гэта своеасаблівая з'ява ў гістарычнай сістэме паселішчаў. Мястэчкі на працягу ўсяго перыяду іх функцыянавання аказвалі велізарнае ўздзеянне на фарміраванне сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага і культурнага аблічча беларускага краю.

Слонімскі павет вылучаўся густой сеткай мястэчак. Па колькасці і шчыльнасці размяшчэння гэтых паселішчаў на Гродзеншчыне Слонімскі павет саступаў толькі Ваўкавыскаму. Гэта дастаткова яскравы паказчык значнага ўзроўню эканамічнага развіцця рэгіёна. Вось спіс населеных пунктаў Слонімскага павета, якія ў першай палове XIX ст. трывала мелі статус мястэчка: Азярніца, Быцень, Вензавец, Галынка, Дварэц, Дзятлава, Дзярэчын, Дзявяткавічы, Жыровічы, Здзітава, Казлоўшчына, Косава, Моўчадзь, Ружаны. У некаторых крыніцах мястэчкамі Слонімскага павета таксама названы Дзераўная, Наваельня, Раготна. Пасля 1831 г. казённымі мястэчкамі сталі Ружаны, Дзярэчын, Дзятлава. На тэрыторыі Слонімскага павета былі прадстаўлены ўсе тыпы мястэчак у залежнасці ад іх прыналежнасці да пэўнага віду ўладання: прыватнаўласніцкія, духоўныя і дзяржаўныя.

У 1833 г. сярэдняя колькасць насельніцтва мястэчак павялічылася да 800 чалавек. Зразумела, што рэальная лічба жыхароў многіх мястэчак рэзка адрознівалася ад сярэдніх паказчыкаў. Узровень заселенасці мястэчак Слонімскага павета характарызуе табліца 1.

Табліца 1. Колькасць двароў і насельніцтва ў мястэчках Слонімскага павета

| Мястэчкі | Год | Колькасць двароў | | | Колькасць насельніцтва | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усіх | У тым ліку | | Усіх | У тым ліку | |
| | | | Хрысціянскіх | Іўдзейскіх | | хрысціян | іўдзеяў |
| Азярніца | 1829<br>1878<br>1829 | 75<br><br>105 | 57<br><br>50 | 18<br><br>55 | 415<br>808<br>697 | 302<br>458<br>298 | 113<br>350<br>339 |
| Быцень | 1840<br>1878<br>1908 | 144 | | | 1405<br>1926<br>Каля 2500 | <br>426 | <br>1500 |
| Вензавец | 1829<br>1829 | 53<br>36 | 50<br>23 | 3<br>13 | 267<br>401 | 235<br>118 | 32<br>283 |
| Галынка | 1840<br>1878 | | 21 | | <br>923 | 398 | <br>525 |
| Дварэц | 1829 | 52 | 32 | 20 | 254 | 193 | 61 |

[4] Там жа. – С. 280.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1840 | 68 | | | 391 | 325 | 66 |
| | 1878 | 77 | | | 625 | 455 | 170 |
| | 1908 | | | | Каля 800 | | |
| Дзярэчын | 1829 | 145 | 51 | 94 | 693 | 240 | 453 |
| | 1840 | 119 | 47 | 72 | 978 | 338 | 640 |
| | 1878 | | | | 2269 | 554 | 1725 |
| | 1809 | 172 | 91 | 81 | | | |
| Дзятлава | 1829 | 201 | 98 | 103 | 1091 | 514 | 557 |
| | 1840 | 171 | | | 962 | 472 | 490 |
| | 1893 | | | | 3233 | | |
| | 1908 | | | | Каля 400 | | |
| Дзераўная | 1840 | 43 | | | 331 | | |
| Жыровічы | 1829 | 53 | 40 | 3 | 178 | 156 | 22 |
| | 1840 | 65 | | | 399 | | |
| | 1893 | 40 | | | 516 | | |
| | 1908 | | | | 600 | | |
| | 1840 | 79 | | | 594 | | |
| Здзітава | 1893 | 57 | | | 644 | | |
| | 1908 | | | | Каля 800 | | |
| Наваельня | 1840 | 6 | | | 41 | | |
| Казлоўшчына | 1829 | 20 | 15 | 5 | 118 | 79 | 39 |
| | 1878 | 14 | | | 75 | | |
| | 1829 | 190 | 83 | 107 | 806 | 356 | 450 |
| Косава | 1840 | 137 | 54 | 83 | 1292 | 507 | 785 |
| | 1878 | | | | 2130 | 851 | |
| | 1908 | | | | 2700 | | |
| | 1829 | 89 | 60 | 29 | 347 | 297 | 50 |
| Моўчадзь | 1840 | 90 | | | 688 | 350 | 338 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1878<br>19081829 | 133 | 53 | 80 | 1128<br>1500<br>1323 | 297 | 1026 |
| Ружаны | 1840<br>1878<br>1908 | 272 | 117 | 137 | 1953<br>2767<br>3000 | 422<br>962 | 1531<br>1805 |

Як відаць з прыведзеных даных, па колькасці насельніцтва мястэчкі Слонімскага павета адрозніваліся вялікай разнастайнасцю. Буйнымі з'яўляліся Дзятлава, Косава, Ружаны, Дзярэчын, Быцень. Іх можна аднесці да мястэчак гарадскога тыпу. Сярэднімі па ступені заселенасці былі Моўчадзь, Азярніца, Здзітава, Галынка, Дварэц. Астатнія – Вензавец, Дзераўная, Жыровічы, Наваельня, Казлоўшчына – з'яўляліся дробнымі паселішчамі пераважна аграрнага характару[5].

Адметнай рысай мястэчак з'яўлялася іх этнаканфесійная і саслоўная стракатасць. На жаль, наяўныя крыніцы не даюць магчымасці зрабіць поўны аналіз структуры насельніцтва мястэчак Слонімскага павета. У асноўным, дакументы першай паловы XIX ст. даюць звесткі па дзвюх рэлігійных групах – хрысціянах і іўдзеях. Канцэнтрацыя яўрэйскага насельніцтва ў мястэчках і гарадах была характэрна для ўсёй тэрыторыі беларускага краю, што было абумоўлена перш за ўсё гвалтоўным перасяленнем царскім урадам яўрэяў з сельскай мясцовасці, а таксама запатрабаваннямі ў прадпрымальных людзях з боку высокаразвітага гандлю выгадна размешчанай Беларусі. Удзельная вага яўрэяў сярод насельніцтва мястэчак Беларусі была высокай у цэлым, аднак вагалася паміж рознымі мястэчкамі ў залежнасці ад сацыяльна-палітычных і рэлігійных абставін. Гэта добра відаць на прыкладзе разглядаемых населеных пунктаў. Так, у 1829 г. у Ружанах яўрэі складалі – 78% насельніцтва, у Галынцы – 70%, Дзярэчыне – 65%, Быцені – 57%, Косаве – 55%, Дзятлаве – 52%, Моўчадзі – 49%, Казлоўшчыне – 33%, Азярніцы – 27%, Дварцы – 24%, Вензаўцы – 12%. Пражыванне яўрэяў у Жыровічах было забаронена ў часы Яна Казіміра (1648 – 1668). Па дакументу, які захоўваўся яшчэ ў канцы XIX ст., яўрэям не дазвалялася нават спыняцца тут на начлег[6]. Відаць, такія ўмовы выконваліся не заўсёды, таму што ў 1829 г. у Жыровічах існавалі 3 яўрэйскія двары[7].

Да сярэдзіны XIX ст. прамысловасць Беларусі знаходзілася на дробнатаварнай і мануфактурнай ступенях развіцця. Суконная і палатняная мануфактуры ў Ружанах былі заснаваны ў 1785 г. уладальнікам мястэчка князем Сапегам. У пачатку XIX ст. яны насілі ўжо характар капіталістычных прадпрыемстваў. Да гэтага часу яны знаходзіліся ў арэндным трыманні ў мяшчаніна Я. Ляйбовіча. На суконнай мануфактуры ў 1801 г. працавала 26 наёмных рабочых, на палатнянай – 15. Прадпрыемствы хутка развіваліся. У 1822 г. на адным з іх было занята 138 чалавек, выраблена прадукцыі 44760 аршынаў. Другая суконная мануфактура належала купцу Я. Пінесу, у 1828 г. колькасць занятых на ёй склала 159 чалавек, а выраб прадукцыі – 28600 аршынаў, прымяняліся 23 машыны, 27 ткацкіх станаў і 29 іншых "прыстасаванняў"[8].

[5] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 3. – Спр. 536. Ведомость о количестве дворов и населения в имениях Слонимского уезда. – Арк. 30.

[6] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 11. – Воп. 1. – Спр. 40. Ведомость о количестве евреев в имениях Слонимского уезда на 1829 г. – Арк. 19-28.

[7] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 4. – Спр. 663. Ведомость о количестве православных, католиков, униятов, протистантов и мусульман за 1837 г.. – Арк. 5-8.

[8] Лютый, А.М. Мануфактуры ў гарадах і мястэчках Беларусі / А.М. Лютый /Народная асвета. – 1993. – № 12. – С. 65.

Буйнымі былі суконныя прадпрыемствы ў Косаве. Адно з іх належала памешчыку і прамыслоўцу Пуслоўскаму. Менавіта яно стала першай фабрыкай на Беларусі: тут у 20-я гг. XIX ст. пачаў прымяняцца паравы рухавік. Другое прадпрыемства было заснавана ў 1825 г. купцом Файнзільбергам. На ім таксама прымяняліся машыны: у 1828 г. налічвалася 45 прадзільных, 8 часальных машын і 2 прэсы. Існавала ў Косаве і суконная мануфактура купца Ясіноўскага. Ёсць звесткі, што ў 1840 г. на ёй было занята каля 360 рабочых[9].

На тэрыторыі Слонімскага павета ў пачатку XIX ст. былі распаўсюджаны харчовыя прадпрыемствы, у першую чаргу – вінакурэнне. Прычынай гэтай з'явы было тое, што адным з важнейшых прывілеяў шляхты яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай было права прапінацыі. Трэба дадаць, што памешчыкі спецыялізавалі сваю гаспадарку на вытворчасці тэхнічных культур (бульбы, ільну). У памешчыцкіх маёнтках значна павялічыліся плошчы пад бульбу, якая там жа перапрацоўвалася на спірт. Так, у мястэчках Слонімшчыны ў 1829 г. усяго іх налічвалася тут 46: у Дварцы – 2, Азярніцы – 4, Косаве, Дзятлаве, Мошчадзі і Быцені – па 10. У 1840 г. паказаны 32 "вінакурні": у Дварцы, Наваельні, Здзітаве – па 1, Косаве – 2, Казлоўшчыне – 3, Дзярэчыне – 4, Ружанах – 6, Дзятлаве – 10. У 1829 г. на местачковых "вінакурнях" Слонімскага павета выраблялася 28240 вёдзер віна[10].

Гарбарная вытворчасць, якая развівалася ў Ружанах, насіла дробнатаварны характар. На прадпрыемствах гэтай галіны працавала не болей за 4 – 5 чалавек. Невялікімі былі і капялюшныя майстэрні, што існавалі ў мястэчку. Паводле дакумента 1840 г. у Жыровічах існаваў цагельны "завод"[11].

Гандлёвае жыццё на Слонімшчыне было прадстаўлена ўсімі формамі, характэрнымі для перыяду станаўлення капіталістычных адносін. На жаль, адсутнасць звестак не дае магчымасць прааналізаваць аб'ём унутранага гандлю павета ў гэты час. Захаваліся толькі звесткі па гораду Слоніму за 1829 г. Абарот унутранага гандлю склаў у тым годзе 50 000 руб[12].

Дакументы па гісторыі гандлю ў Слоніме апавядаюць, што ў старажытнасці ў горадзе існавалі 2 кірмашы – Троіцкі і Ражэственскі. У XIX ст. застаецца толькі адзін – Троіцкі. Ён дзейнічаў кожны год 7 чэрвеня ў дзень Св. Троіцы. Гандлёвыя аперацыі праводзіліся на гарадскім рынку і лаўках (магазінах). Звычайна кірмаш наведвала да 3000 чалавек. У справаздачы горада за 1839 г. гаворыцца, што на Троіцкім кірмашы ў гэтым годзе прадавалася сукно і палатно, коні і рагатая жывёла і інш., абарот склаў 1500 руб. асігнацыямі[13]. У горадзе ў той час налічвалася 7471 жыхароў. На працягу 1839 г. было скарыстана гавядзіны 32520 пудоў, бараніны 370, цяляціны – 2010, усяго 34890 пудоў мяса. Звыш таго за год было прывезена ў горад 1000 пудоў свініны і сала. Скарыстана мукі жытняй 2020 кулёў. Віна хлебнага, водкі і спірту 20000 вёдзер у год[14]. У 30-я гг. сюды прывозілі тавараў на суму 1020 руб., у 1840-я – на 4685 руб., у 4,6 раза больш, у 1850-я – на 7655 руб. (больш папярэдняга дзесяцігоддзя ў 1,6 разы). Колькасць прададзенага тавару

---

[9] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 20. – Спр. 232. Ведомость о суконной фабрике стоящей в Гродненской губернии Слонимского уезда в имении Косава принадлежащая помещику Пусловскому за 1820 г. – Арк. 57.

[10] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 4. – Спр. 646. Ведомость о количестве фабрик в Слонимском уезде в 1829 и 1840 гг.

[11] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 3. – Спр. 422. Ведомость о горбарной і копелюшной мастерской в имении Ружаны и цегельном заводе в Жировичах на 1840 г. – Арк. 139.

[12] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 3. – Спр. 536. Ведомость о состоянии внутренней торговли в г. Слониме за 1829 г. – Арк. 30.

[13] Швед, В.В. Торговля в Беларуссии в период кризиса феадолизма (1830–1850 гг.) / В.В. Швед. – Гродно: ПКФ «ОРБИКС», 1995. – С. 153.

[14] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 4. – Спр. 11. Статистические сведения о торговли на 1830-1835 гг. – Арк. 7.

складала адпаведна 28%, 36%, 21%. Як бачна, у 50-я гг. XIX ст. вызначылася скарачэнне збыту[15].

Даволі ажыўлены гандаль быў ў базарныя дні: па чацвяргах і нядзелях. На базары (“торжки”) з’язджаліся, галоўным чынам, сяляне навакольных вёсак. Прадметамі куплі-продажу былі харчовыя прыпасы, жывёла, гаспадарчыя прылады і інш.[16]. Развіццё прамысловасці, рост гарадоў і гарадскога насельніцтва ў даследуемы перыяд стваралі ўмовы для пашырэння на Беларусі сеткі стацыянарнага гандлю. У Слоніме, згодна ведамасці аб стане гарадоў, мястэчак і пасадаў Гродзенскай губерні, у пачатку 1830-х гг. налічвалася 151 лаўка[17]. У 1840 г. іх было ўжо 173, а ў 1856 г. – 175[18]. Лаўкі, як правіла, адчыняліся ў перыяд кірмаша, а пасля яго зачыняліся, і іх, якія дзейнічалі, заставалася няшмат – дзве, тры, іншы раз болей. Акрамя лавак, у горадзе ў 1830-я гг. функцыяніравала 3 карчмы, 18 піцейных дамоў, 3 складачныя магазіны[19]. Сярод установаў стацыянарнага гандлю патрэбна адзначыць яшчэ галантарэйны магазін і 3 аптовыя лаўкі з аршынным таварам на вуліцы Ражанскай, “лепшую” лаўку з аршынным таварам на вуліцы Маставой, а таксама вінныя скляпы на вуліцы Рынкавай і Бернардзінскай[20]. Звестак аб развозна-разноснай форме гандлю значна менш. Вядома толькі, што кожны год на Зэльвенскі (Анненскі) кірмаш, які адбываўся з 25 ліпеня па 25 снежня, са Слоніма прыязджала пані Вагабрынская. У базарныя дні значную частку ўдзельнікаў куплі-продажу складалі сяляне.

Такім чынам, у канцы XVIII – першай палове XIX ст., дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму месцазнаходжанню і разгалінаванай сістэме шляхоў зносін, на Слонімшчыне даволі хуткімі тэмпамі развіваўся як унутраны, так і знешні гандаль. Дзейнасць мясцовага купецтва не абмяжоўвалася толькі гандлёвымі аперацыямі, але і закранала такую форму эканамічнай актыўнасці, як прадпрымальніцтва.

Пасля рэформы 1861 г. найбольш распаўсюджаныя промыслы ператвараліся ў асобныя галіны прамысловасці, якія ў будучым забяспечылі прамысловую спецыялізацыю разглядаемага рэгіёна. У першыя парэформенныя дзесяцігоддзі рост прамысловасці быў павольны, дробныя прадпрыемствы, негледзячы на будаўніцтва фабрык і заводаў, на працягу амаль усяго перыяду пераважалі па колькасці.

У гэты час жывёлагадоўля пачынае займаць сур’ёзнае месца ў гаспадарчай дзейнасці мясцовага насельніцтва і пэўным чынам спрыяе ўзнікненню і развіццю адпаведных прамысловых прадпрыемстваў. Так, суконная галіна прамысловасці на тэрыторыі Слонімскага павета была прадстаўлена прадпрыемствамі. Існавала 2 вялікіх прадпрыемствы ў мястэчках Косава і Быцень. У Косава суконная фабрыка належыла У. Пуслоўскаму. На ёй працавала 8 чалавек, якія выраблялі прадукцыю на суму 187400 срэбра. У Быцені ўладальнікам падобнага прадпрыемства з’яўляўся К. Патоцкі. Тут працавала 30 чалавек, а прадукцыі яны выраблялі на суму 8400 рублёў[21]. Такім чынам, можна з упэўненнасцю адзначыць, што суконная фабрыка Пуслоўскага з’яўлялася лідэрам у сваёй галіне.

Найбольш буйным і даволі перспектыўным быў завод памешчыка Пуслоўскага ў маёнтку Блізная, ён год за годам набіраў эканамічную моц. Так, за 1869 г. на гэтым

---

[15] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 4. – Спр. 11. Статистические сведения о торговли на 1837-1840 гг. – Арк.79, 82.

[16] Гуд, П.А. Беларускі кірмаш / П.А. Гуд. – Мінск : Полымя, 1996. – С. 50.

[17] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 19. – Спр. 1017. Ведомость о состоянии городов и имений в Гродненской губернии на 1830 г. – Арк. 19.

[18] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 27. – Спр. 252. Ведомость о состоянии городов и имений в Гродненской губернии на 1840 и 1856 гг. – Арк. 17.

[19] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии в период кризиса феодолизма (1830–1850 гг.) / В.В. Швед. – Гродно: ПКФ «ОРБИКС», 1995. – С.116.

[20] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 3. – Спр. 422. Ведомость о наличии магозина и оптовых лавок в г. Слониме. – Арк. 144.

[21] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 22. – Спр. 1824. Ведомость о суконной фабрике в имении Быцень влодельца Констанцина Потоцкого. – Арк. 108.

заводзе было выпрацавана прадукцыі колькасцю 379885,75 у градусах на суму 3789 рублёў 85 3/4 кап[22]. У наступныя гады вытворчасць гэтага завода значна павялічылася. У 1884 г. было выкурана віна колькасцю 24403 вядра і 996120 градусаў, а сума прадукцыі складала 12200 рублёў. На заводзе працавала 8 рабочых[23]. Ужо ў 1899 г. сума вытворчасці складала 32000 рублі, а колькасць рабочых была 9 чалавек[24].

На заводзе, які знаходзіўся ў маёнтку Івацэвічы памешчыка І. Юндзіла, працавала ў 1884 г. 7 чалавек, за год тут выпрацоўвалася 12348 вёдзер 77 – 85% спірту на суму 10000 руб. За год тут перапрацоўвалася 57600 пудоў бульбы, 3840 пудоў ячменю[25]. У 1899 г. на гэтым заводзе ўжо працавала 12 чалавек, а сума вытворчасці складала 13102 руб.[26] Збыт прадукцыі гэтых вінакурных заводаў ажыццяўляўся за мяжой і ў Расіі, а таксама прадукцыя рэалізоўвалася ў межах воласці. Такім чынам, вінакурная вытворчасць атрымала шырокае развіццё на тэрыторыі сучаснага Слонімскага раёна.

У гэты час таксама працуюць і прадпрыемствы па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, у першую чаргу цагельныя заводы. З цэглы будаваліся ў асноўным памешчыцкія дамы, іх гаспадарчыя пабудовы, цэрквы.

Вялікім попытам у мясцовага насельніцтва і на рынках Беларусі карысталіся скуры. У мястэчку Ружаны гарбарны завод належаў яўрэю Л.Гарбару. У яго працавала 3 чалавекі. Завод быў абсталяваны 2 ступамі, 8 чанамі, медным катлом для варкі дубовай кары на 30 вёдзер, нажамі для абчысткі скур. Калі ў 1848 г. тут выраблялася 400 скур на суму 600 рублёў, то ў 1869 г. – 500 скур на суму 1500 рублёў[27]. Сыравіну для вытворчасці куплялі оптам у памешчыкаў і сялян па розным цэнам у залежнасці ад памераў і якасці. Асаблівым попытам карысталіся скуры танкарунных авечак. Улічваючы гэта, мясцовыя памешчыкі займаліся авечкагадоўляй, якая давала немалы прыбытак, бо акрамя продажу скур, памешчык меў яшчэ воўну і мяса.

---

[22] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 22. – Спр. 1824. Ведомость о винокурном заводе помещика Пусловского в имении Близная на 1869 г. – Арк. 3.

[23] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 14. – Воп. 3. – Спр. 36. Ведомость о винокурном заводе помещика Пусловского в имении Близная на 1884 г. – Арк. 207.

[24] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 14. – Воп. 3. – Спр. 36. Ведомость о винокурном заводе помещика Пусловского в имении Близная на 1899 г. – Арк. 202.

[25] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 14. – Воп. 1. – Спр. 413. Ведомость о винокурном заводе помещика И. Юндила в имении Ивоцевичи на 1884 г. – Арк. 5.

[26] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 14. – Воп. 1. – Спр. 413. Ведомость о винокурном заводе помещика И. Юндила в имении Ивоцевичи на 1899 г. – Арк. 43.

[27] НГАБ у г.Гродна. – Фонд 1. – Воп. 21. – Спр. 326. Ведомость о горбарном заводе стоящего в Гродненской губернии Слонимского уезда в имении Ружаны принадлежал еврею Лейцыгу Гарбару. – Арк. 55-56.

*А.В. Кенда*

# ЗМЕНА МЕНТАЛІТЭТУ СЯЛЯНСКА-МЕСТАЧКОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА ПРУЖАНШЧЫНЫ Ў КАНЦЫ XVIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX СТСТ. ЯК ПРЫЧЫНА ЯГО НЯЎДЗЕЛУ Ў ПАЎСТАННІ 1863 ГОДА (НА ПРЫКЛАДЗЕ МЯСТЭЧКА МАЛЕЧ ПРУЖАНСКАГА ПАВЕТА)

Паўстанне Кастуся Каліноўскага 1863 г. з'яўляецца адным з самых спрэчных у гісторыі паўстанняў на Беларусі. Даследчыкі да гэтага часу не могуць пагадзіцца ні аб характары паўстання, ні аб яго нацыянальнай накіраванасці, ні аб яго выніках. Спрэчным да апошняга часу з'яўлялася таксама пытанне яго сацыяльнага складу. Савецкая гістарыяграфія ў свае часы стварыла міф аб сялянскім складзе паўстання. Так, У. Ігнатоўскі яшчэ ў 1926 г. адзначаў у "Кароткім нарысе гісторыі Беларусі": "польскае паўстанне 1863 году...значна ўскалыхнула і Беларусь, зрабіўшыся тут, з аднаго боку, рухам сялянскім, пакіраваным проці паноў, з другога боку, палітыка-вызваленчым, незалежніцкім рухам, пакіраваным проці царызму" і "Сяляне пачынаюць прыслухоўвацца да поклічу чырвоных і прымаюць дзейны ўдзел у паўстанні"[1]. На самой жа справе, большасць удзельнікаў паўстання складала патрыятычная шляхта, "польская па духу, літоўская па нараджэнню", як гаварылі ў часы Рэчы Паспалітае.

Не падтрымалі паўстанне Каліноўскага і сяляне Пружанскага павета. Больш таго, яго не падтрымалі жыхары мястэчка Мальча, якое на першую чвэрць XIX ст. лічылася адным з самых актыўных цэнтраў неспакою ў рэгіёне. Прычыны неўдзелу сялян і мяшчан у паўстанні 1863 г. на прыкладзе Малеча мы паспрабуем высветліць ніжэй.

Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай 1795 г. на тэрыторыях, далучаных да Расійскай імперыі кардынальным чынам змяніўся сацыяльна-прававы стан амаль што ўсіх слаёў грамадства. Але найбольшыя змены адчулі на сабе сялянска-мяшчанскія слаі насельніцтва. Былыя каралеўскія сяляне станавіліся прыватнаўласніцкімі, у адносінах да іх пачынала дзейнічаць рэкруцкая павіннасць, чаго не было ў часы Рэчы Паспалітай. Магдэбургскае права ў гарадах і мястэчках было скасавана. Жыхары невялікіх мястэчак, за выключэннем габрэяў, пераводзіліся ў стан сялян, часта таксама прыватнаўласніцкіх. Безумоўна, не стала выключэннем і Пружаншчына.

Цяжэй за ўсё новыя змены перанеслі былыя мяшчане Малеча. Справа ў тым, што Малеч быў адзіным мястэчкам на Пружаншчыне, якое атрымала Магдэбургскае права і статус горада яшчэ ў 1645 г. Нягледзячы на каралеўскі прывілей, мясцовыя магнаты Хадкевічы, якія трымалі Блудзеньскае староства з горадам Мальчам, здолелі дамагчыся абмежавання дзейнасці прывілея. Такім чынам, Магэбургскае права ў Малечы да канца XVIII ст. так і не было да канца рэалізавана.

18 кастрычніка 1791 г. сойм Польшы прыняў першы ў гісторыі дзяржавы закон аб гарадах, які адразу ж быў уключаны ў Канстытуцыю 3 Мая. Гэта быў менавіта той момант, пра які ўдзельнік тых падзеяў, М.К .Агінскі пісаў у сваіх мемуарах: "Іншы пункт зусім не падаваўся больш лёгкім для прыняцця: гэта была просьба мяшчанаў быць залічанымі ў шэраг грамадзянаў. Да таго часу ўладарыла выключна адна шляхта: заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлада былі ў яе руках. Убачаць пазней (і, зразумела, гэта адна з пастановаў, якія склалі найбольшы гонар сойма), што гэты форум, у якім брала ўдзел адна шляхта, не кіраваўся іншымі развагамі, акрамя справядлівасці і выгады, якія вынікалі для дзяржавы – сойм непасрэдна пазбавіў сябе сваіх вылючных прывілеяў, каб падзяліць іх з жыхарамі гарадоў. Няма сумневу ў тым, што калі б гэты сойм не быў перапынены і

[1] Ігнатоўскі, У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. – Мн.,1992. – С. 169 – 170.

назаўсёды абмежаваны, рабства сялянаў знікла б…”[2]. Згодна з законам аб гарадах, жыхары гарадоў і мястэчак, якія мелі гарадскі статус, ураўноўваліся ў правах недатыкальнасці са шляхтай, а тыя з іх, кто меў маёнткі коштам звыш 2000 злотых або вайсковае званне штабс-капітана, капітана і ротмістра, атрымоўвалі права на шляхецтва[3]. Многія невялікія мястэчкі, якія мелі гарадскі статус у часы Рэчы Паспалітай, стараліся падцвердзіць гэты статус дакументальна. Да роспуску Чатырохгадовага сойма гэтыя правы паспелі падцвердзіць 74 гарады[4]. Аднак сяляне не атрымалі ніякіх выгодаў ні ад закона аб гарадах, ні ад самога Чатырохгадовага сойма. Становішча іх не палепшылася, таму менавіта гэтая праслойка насельніцтва Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў больш за ўсё чакала пераменаў да лепшага, якія маглі прынесці, ды так і не прынеслі падзелы дзяржавы.

З канца XVIII ст. у мястэчку Малеч пачынаецца шэраг хваляванняў, накіраваных, галоўным чынам, на вяртанне былых прывілеяў і мяшчанскіх правоў. Так, ужо ў 1798 г. малецкія сяляне падаюць скаргу губернатару на прыгнёт іх уладальнікамі маёнтка Блудзень Здзяхоўскімі, на падкаморыя Грабоўскага і земскага суддзю Вышаноўскага. У прыватнасці, здзяхоўскага сяляне абвінавачвалі ў нанясенні жорсткіх пабояў, аддачы сялян на ваенную службу і нават у знікненні некаторых з сялян. Яны сцвярджалі, што крыўдзіцелі адабралі ў сялян некаторыя пакосныя лугі. Па ўсёй бачнасці, скарга засталася без увагі[5].

Хваляванні ў Малечы адбываліся і ў 1805-1807, 1813, 1818-1821, 1823 гг.[6] Агульным для ўсіх выступленняў былі патрабаванні аб вяртанні мяшчанскіх прывілеяў “наравне с городами”, а таксама адзінства ў выступленні. Як адзначалі расійскія чыноўнікі, нават непаўналетнія дзеці далучаліся да бунту. Патрэбна адзначыць, што выступленні былых мяшчанаў за вяртанне сваіх прывілеяў адбываліся не толькі ў Малечы. Падобныя хваляванні праходзілі таксама ў іншых мястэчках Гарадзенскай, Мінскай і Віленскай губерняў: Дывіне, Мілейчыцах, Скідзелі, Гарадцы, Камянцы, Крошыне, Мастах, Воўпе, Крэве, Крынках, Лагішыне, Давыд-Гарадку, Капылі, Петрыкаве, Глуску, Янішках, Маркаве, Мядзелі, Гайне, Пераброддзі, Парэччы, Гародне[7]. Усе гэтыя населеныя пункты мелі ці Магдэбургскае права, ці гарадскі статус, ці каралеўскія прывілеі. Мястэчкі, якія не мелі гэтага, у выступленнях не ўдзельнічалі. Не ўдзельнічалі ў такіх выступленнях і сяляне па той простай прычыне, што змагацца ім не было за што. Болей таго, ёсць верагоднасць, што вясковыя сяляне у час хваляванняў станавіліся на бок расійскіх уладаў, а не местачковых сялян (былых мяшчан). Так, у час хваляванняў у Малечы ў 1823 г. у рапарце саветніка Батвінкі было адзначана: “зачинщики…возбудившие все общество…с помощью мальчанского еврейского общества и крестьян окрестных деревень удержаны были под арестом”[8]. Нягледзячы на тое, што ўсе сяляне знаходзілася ў роўным сацыяльна-прававым становішчы і займалася тымі ж сельскагаспадарчымі заняткамі, адзінства паміж імі не было, так як яшчэ помніліся старыя прывілеі і правы, існаваў негалосны падзел на “прывілеяваных” і “непрывілеяваных”. Ускосна сведчаць пра гэта і запісы ў метрычнай кнізе Малецкай царквы за 1799 г., дзе у адносінах да жыхароў мястэчка Мальча ўжываўся зварот “славетныя”, а да жыхароў навакольных вёсак – “працавітыя”[9].

Наступным паўстаннем, у якім удзельнічалі малецкія сяляне, можна лічыць выступленне 1831 г. Нягледзячы на тое, што вядомы толькі адзін малецкі жыхар Сямён

---

[2] Агінскі, М.К. Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1794 года // ARCHE. – №6. – 2011. – С. 495.

[3] Юхо, Я.А. Кароткі нарыс дзяржавы і права Беларусі. – Мн.,1992. – С. 219 – 220.

[4] Кенда, А.В. Малечская хроника (1427-1941). – Брест., 2012. – С. 19.

[5] НГАБ у г.Мінску. – Ф. 1780. – Воп. 1. – Спр. 23. – Арк. 407 – 411.

[6] НДАБ у г.Гродне. – Ф. 6. – Воп. 1. – Спр. 24. – Арк. 12, 71 – 72, 100 – 101; Спр. 1360. – Арк. 255, 323.

[7] Саркіна, І. Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIXст. – Вільня., 2010. – С. 81.

[8] Память: Историко-документальная хроника Березовского района. – Мн., 1987. – С. 24.

[9] РДГА ў Санкт-Пецярбургу. – Ф. 823. – Воп. 2. – Спр. 82. – Арк. 432.

Казлоўскі, які знаходзіўся ў атрадзе Тытуса Пуслоўскага[10], цалкам верагодна, што іх было больш. Тым не менш, з упэўненасцю можна сказаць, што масавага ўдзелу малецкіх сялян у гэтым паўстанні не было. Прычынай гэтаму ў першую чаргу было тое, што паўстанне ставіла мэту аднаўлення Рэчы Паспалітай, а старое пакаленне людзей, якія жылі у гэтай дзяржаве і мелі ментальнасць Рэчы Паспалітай, пакрысе сыходзіла. Згодна "Польскаму слоўніку біяграфічнаму", у атрадзе Тытуса Пуслоўскага ўдзельнічалі сяляне з другіх паветаў, што былі ў папярэдніх паўстаннях[11]. Прыход новага пакалення сялян, не жыўшых пры часах Рэчы Паспалітай і не памятаўшых ранейшых мяшчанскіх прывілеяў і правоў ужо наперад часткова вызначаў іх няўдзел у паўстанні 1863 г. за ідэі, якія для новай плыні сялян лічыліся абстрактнымі і не вартымі ўвагі.

Патрэбна адзначыць, што вынікі паўстання 1831 г. сталіся адной з прычын паражэння паўстання 1863 г. Менавіта пасля паўстання 1831 г. была ліквідавана ўніяцкая царква як адзін з асноўных падмуркаў ментальнасці мясцовага насельніцтва ў духу Рэчы Паспалітай. Замена ўніяцкай царквы на праваслаўную цягнула за сабою змену ўсёй выхаваўчай дзейнасці новых пакаленняў мясцовых сялянаў у другім ментальным напрамку – усходнім. Менавіта з гэтага часу пад уплывам праваслаўнай царквы пачынаюць стварацца антаганісцкія настроі, якія супрацьпастаўляюць селяніна-праваслаўнага пану-каталіку, штучна прывіваецца нянавісць да ўсяго польскага, пачынае нараджацца народны фальклор, дзе той жа праваслаўны селянін супрацьпастаўляецца пану-паляку.

У цяперашні час сучасныя даследчыкі выдзяляюць мноства прычын паражэння паўстання 1863 г. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Адсутнасць падтрымкі паўстання з боку мясцовага сельскага і мяшчанскага насельніцтва бадай ці не самая галоўная з іх. І менавіта ў змене ментальнасці мясцовага насельніцтва адказ на тое, чаму не спрацавала праграма Кастуся Каліноўскага, разлічаная на тых жа сялян; чаму насельніцтва не адгукнулася на заклікі "Мужыцкай праўды", напісанай на іх роднай гаворцы; чаму часта здараліся выпадкі дапамогі сялянаў расійскім уладам у вышуку паўстанцаў. Паўстанне 1863 г. і каталік Кастусь Каліноўскі з'уяляліся чужымі для сялянскага менталітэту, якім удала маніпулявалі і перайначвалі на свой лад расійскія ўлады з дапамогай праваслаўнай царквы. Дзеля ісціны трэба адзначыць, што і самі паўстанцы спрыялі развіццю такога менталітэту, арганізоўваючы напады на праваслаўныя цэрквы і забіваючы праваслаўных святароў. Гэта, а таксама захады расійскіх уладаў па змяншэнні сацыяльнага напружання сярод сялянскага насельніцтва краю (такія, як змяншэнні выкупных плацяжоў за зямлю, уведзеных пасля адмены прыгоннага ладу ў 1861 г.) прывялі да таго, што сяляне паўстанне 1863 г. не падтрымалі.

Тым не менш, нават са зменай ментальнасці мясцовае насельніцтва не страціла актыўнасці ў барацьбе за свае правы, што яскрава бачна на прыкладзе жыхароў мястэчка Мальча. Так, 14 красавіка 1861 г. 320 малецкіх сялян узнялі бунт, зачыншчыкам якога быў вольнаадпускны Падольскага палка С. Барушка. Яны сцярджалі, что будуць выконваць толькі двухдзённую павіннасць са збруяй, і што яны вольныя ад інвентарнай павіннасці. С. Барушка "возмутил крестьян и заставил их броситься на нижних чинов местной инвалидной команды", але "был схвачен приставом 2-го стана Щотковским"[12].

Другі бунт паспрабаваў узняць шляхціц Г. Багушэвіч, які ў тым жа 1861 г. прыехаў у мястэчка Малеч. Да гэтага ён жыў у суседняй вёсцы Кабакі, дзе "самавольна" адкрыў школу і навучаў дзяцей. У Малечы, згодна рапарту старшыні Малецкай валасці Каленіка Прыгодзіча, Багушэвіч "пьянствовал, превратно толковал крестьянам их

[10] Ильин, А. Повстанцы-берестейцы // Гістарычная брама. – 2001. – №1. – С. 21.

[11] Polski Słownik Biograficzny. T. 29. – Wrocław., 1986. – S. 421 – 422.

[12] Крестянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861-1862) / под редакцией И.Н.Лущицкого. – Мн., 1959. – С. 199 – 200.

права, призывал к беспорядкам, а 2 декабря Богушевич в пьяном виде с трубкой появился в волостной канцелярии, привязался к сельскому писарю и ругал посредника Пашковского, станового пристава Левицкого и помещика Завадского с угрозами преследования… Богушевич также утверждал, что вся земля – это собственность крестьян». Гілярый Багушэвіч быў арыштаваны і адпраўлены ў пружанскую турму толькі 24 кастрычніка 1862 г.[13]

Нягледзячы на тое, што малецкія сяляне былі завадатарамі бунту 1861 г., у паўстанні 1863 г. яны не ўдзельнічалі, хаця менш чым у кіламетры на ўсход ад мястэчка знаходзіўся маёнтак Габрыелін кіраўніка паўстання ў павеце Ф. Влодка Шчаснага, у якім існавалі майстэрні па вырабу зброі[14].

Такім чынам, напрыканцы XVIII ст. існаваў пераломны момант у гісторыі як дадзенага рэгіёна, так і ўсёй Беларусі ў цэлым. Гэтым пераломным момантам была праца Вялікага сойму 1788 – 1791 гг., у ходзе якой разглядалася і пытанне пра змяненнне юрыдычнага стану мяшчанаў і сялянаў Рэчы Паспалітай. Несвоечасовае заканчэнне сойма не паспела вызваліць сялян з-пад сацыяльнага прыгнёту, што ў сваю чаргу не паспела прывіць сялянству менталітэт грамадзян Рэчы Паспалітай і абумовіла іх пасіўны настрой і няўдзел у шэрагу паўстанняў ад пачатку XIX ст. да 1863 г. Доля мяшчанаў, меўшых такі статус, была вельмі нізкай сярод насельніцтва для стварэння сур'ёзнага супраціву новай уладзе.

Шляхецкае паўстанне 1831 г. прывяло да змены канфесійнага аблічча краіны. Паўсюднае ўвядзенне праваслаўя дазволіла расійскім уладам напрамую ўздзейнічаць на мясцовае сялянскае насельніцтва праз царкву, што не магло не адбіцца на змене накірунку сялянскай ментальнасці з заходняга на ўсходні напрамак (і менавіта тут крыюцца карані сучаснай кансерватыўнай ментальнасці жыхароў беларускіх правінцый). Гэтаму спрыяў і адыход старэйшых пакаленняў, якія нарадзіліся ў часы Рэчы Паспалітай, добра іх помнілі і мелі грамадзянскія пазіцыі. Так паступова фарміравалася новая сялянская ментальнасць, што і прывяла да адсутнасці падтрымкі мясцовым сельскім насельніцтвам паўстанняў, якія неслі ў сабе ідэі, накіраваныя на вырашэнне больш глабальных праблемаў, чым праблемы лакальнай мясцовасці. У той жа час ідэалагічная апрацоўка з дапамогай царквы вызывала недавер з боку сялянства да "паноў", "каталікоў" і "палякаў", прывяла да ігнаравання паўстання 1863 г., накіраванага супраць расійскага самадзяржаўя і стварыла падмурак для дальейшай русіфікацыі далучаных у выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай тэррыторый.

[13] НГАБ у г. Гродне. – Ф.1. – Воп. 6. – Спр. 112. – Арк. 2 – 3.
[14] Кенда, А.В. Малечская хроника… - С. 42.

*П.І. Гарбуль*

# ДЗЕЙНАСЦЬ ПАЎСТАНЦКІХ АТРАДАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ Ў 1863 Г.

У ноч з 22 на 23 студзеня 1863 г. Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве выдаў Маніфест з заклікам да нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Польшчы, звярнуўся да насельніцтва Літвы і Беларусі з адозвай далучыцца да паўстання. 1 лютага Літоўскі правінцыяльны камітэт заявіў аб пачатку паўстання ў Літве і Беларусі. Быў узяты курс на разгортванне масавага народнага выступлення з прыцягненнем у атрады розных слаёў насельніцтва, найперш сялян. Арганізацыя і кіраўніцтва баявымі дзеяннямі ў ваяводствах ускладваліся на ваенных начальнікаў, якія адначасова з'яўляліся і камандзірамі найбольш буйных атрадаў і злучэнняў. Для каардынацыі дзеянняў цывільных і ваенных паўстанскіх улад у ваяводствы прызначаліся камісары. На пасаду гродзенскага ваяводскага камісара пасля роспуску ЛПК у пачатку сакавіка 1863 г. быў накіраваны К. Каліноўскі.[1]

Па ўсёй Беларусі пачалося стварэнне паўстанцкіх атрадаў. Першыя з іх з'явіліся ў Гродзенскай губерні, у склад якой уваходзіла большая частка сучаснай Берасцейшчыны. Баявыя дзеянні тут ахопліваюць перыяд з канца студзеня да верасня 1863 г. Найбольш актыўнымі яны былі ў Кобрынскім і Пружанскім паветах. Аднымі з першых на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці распачалі барацьбу з царызмам атрады пад камандаваннем Рамана Рагінскага, Браніслава Рыльскага, Станіслава Сангіна. Яны прыйшлі на Пружаншчыну з Польшчы у канцы студзеня 1863 г. з мэтай уцягнуць у паўстанне мясцовае насельніцтва. Пасля цяжкага паражэння ад урадавых войск 7 – 8 лютага 1863 г. каля вёскі Сямяцічы, паўстанцы невялікімі групамі адышлі да мястэчка Высокае, дзе спыніліся на адпачынак. На адбыўшымся ваенным савеце было вырашана, што частка баявых груп вернецца ў Польшчу, а астатнія прадоўжаць барацьбу ў Беларусі.

Атрад паўстанцкага камісара Падляшскага ваяводства Р. Рагінскага, колькасцю ў 150 чалавек, накіраваўся ў Белавежскую пушчу. Да атрада пачалі далучацца мясцовыя жыхары, пераважна дробная шляхта і сяляне. Паўстанцы напалі на Палавецкае валаснае ўпраўленне ў Брэсцкім павеце, увайшлі ў Белавежскую пушчу і спыніліся на адпачынак каля вёскі Каралёў Мост Пружанскага павета. 11 лютага яны былі атакаваны рускім карным атрадам пад камандаваннем флігель-ад'ютанта графа І. Носціца, які налічваў 8 рот пяхоты Пскоўскага і Рэвельскага палкоў, 85 казакаў 24-га Данскога палка і 4 гарматы. Сілы аказаліся няроўнымі. Паўстанцы, страціўшы некалькі дзесяткаў чалавек, адышлі і рушылі да мястэчка Шарашова, якое занялі 12 лютага[2]. Закупіўшы тут адзенне, абутак, порах, Р. Рагінскі накіраваўся да Пружан. Аб'яднаўшыся з атрадам С. Сангіна, на наступны дзень паўстанцы захапілі горад, забралі з цэйхгаўза зброю (200 карабінаў), амуніцыю, патроны і порах, у касе павятовага казначэйства ўзялі каля 11 тысяч рублёў, выпусцілі з турмы 9 вязняў, напалі на кватэру гараднічага.[3]

З Пружан Р. Рагінскі павёў свой атрад у Кобрынскі і Пінскі паветы, дзе спрабаваў узняць сялян на барацьбу, але беспаспяхова. Каля вёскі Боркі Пінскага павета

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч. Ч. 1. / Рэдкал.: М.П. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1994. – С. 325.

[2] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Брэста. У 2 кн. Кн.1 / Рэдкал.: Р.Р. Бысюк [і інш.]. – Мінск: БЕЛТА, 1997. – С.107

[3] Бараноўскі, І. За праўду і волю…// Брестский курьер. – 2003. – №46 ноябрь.

паўстанцы Р. Рагінскага (85 чалавек) у канцы лютага 1863 г. сутыкнуліся з рускім атрадам (2 роты пяхоты і 70 казакаў) пад камандаваннем Альбертава і былі разбіты. Р. Рагінскаму разам з ад'ютантам Юрашкевічам удалося выратавацца і адысці ў балоты пад Тураў, дзе яны хаваліся да пачатку сакавіка. Урэшце іх высачылі і схапілі ў маёнтку дробнага шляхціча Млынскага. З Турава Р. Рагінскага перавезлі ў Брэст. Адтуль – у Варшаўскую крэпасць. Ён быў засуджаны да смяротнага пакарання, замененага па хадайнічанні генерала І. Носціца на пажыццёвую катаргу. У 1896 г. Р. Рагінскі быў амнісціраваны з нагоды ўвацарэння Мікалая ІІ.[4] Памёр ў 1915 г.

Аб'яднаны атрад С. Сангіна і Б. Рыльскага 15 лютага быў разбіты пераўзыходзячымі сіламі царскіх войск каля вёскі Рэчыца Пружанскага павета. С. Сангін загінуў у баі, а Б. Рыльскі трапіў у палон.

У ходзе паўстання на Брэстчыне пачалі фарміравацца мясцовыя партызанскія атрады. Па дадзеных І. Бараноўскага, у Брэсцкім павеце ў канцы студзеня дзейнічала паўстанцкая група Касінскага.[5] Яна знішчала тэлеграфы, разбурала масты, рэквізіравала ў дзяржаўных установах грошы, вяла агітацыю сярод сялян. Пад націскам урадавых войск, пасланых з Брэсцкай крэпасці, Касінскі вымушаны быў перайсці на тэрыторыю Польшчы.

І. Бараноўскі сцвярджае, што за Заходнім Бугам, але для дзеяння на тэрыторыі Брэсцкага павета, у сакавіку-красавіку быў створаны адносна вялікі (300 чалавек) атрад пад камандаваннем былога паўстанца Р. Рагінскага, выхаванца духоўнай семінарыі Стасякевіча. Начальнікам штаба ў атрадзе быў памешчык Кобрынскага павета, адстаўны капітан К. Нарбут, які ў далейшым сам узначаліў атрад у 80 коннікаў. Доктарам у атрадзе Стасякевіча з'яўляўся стрыечны брат К. Каліноўскага Іван. Супраць паўстанцаў Брэсцкага павета ўлады разгарнулі актыўную барацьбу: горад і крэпасць былі прыведзены ў баявую гатоўнасць, за жыхарамі горада ўсталявалі строгі нагляд, арыштавалі 5 рабочых картоннай фабрыкі на Кобрынскім фарштаце за спробу далучыцца да паўстанцаў. 14 мая атрад Стасякевіча пацярпеў паражэнне каля вёскі Чэрск Брэсцкага павета. Рэшткі яго ўвайшлі ў атрад Я. Ваньковіча, які дзейнічаў у Брэсцкім павеце з мая 1863 г.

Кіраўнік атрада Ян Ваньковіч быў сынам вядомага ў Беларусі мастака Валенція Ваньковіча. Да паўстання ён працаваў паручнікам корпуса ляснічых у Белавежскай пушчы. У 1861 г. увайшоў у гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю, створаную К. Каліноўскім. З пачатку паўстання і да з'яўлення на Брэстчыне пад псеўданімам "Ляліва" змагаўся на Падляшшы.

Праз некалькі дзён пасля заснавання атрад Я. Ваньковіча перабазіраваўся ў Кобрынскі павет, адтуль накіраваўся на Пружаншчыну для злучэння з мясцовым атрадам Ф. Улодэка, разам з якім удзельнічаў у баі з карнікамі каля вёскі Пескі Слонімскага павета 30 мая 1863 г. У пачатку чэрвеня абодвы атрады рушылі ў Пінскі павет, дзе атрад Ваньковіча сустрэўся з кобрынскім атрадам Р. Траўгута.[6]

Рамуальд Траўгут служыў афіцэрам у рускай арміі, прымаў удзел у абароне Севастопаля падчас Крымскай вайны. У 1862 г. у званні падпалкоўніка выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў маёнтку Востраў Кобрынскага павета. У 1863 г. ён далучыўся да паўстання пад псеўданімам "Крукоўскі", прыняў камандаванне атрадам, у якім налічвалася каля 160 чалавек. Атрад правёў некалькі паспяховых баёў. Паўстанцы Р. Траўгута разбілі атрад карнікаў пад камандаваннем капітана Керсноўскага, страты якога склалі 70 чалавек. Сам камандзір атрада не рашыўся вярнуцца ў Кобрын, дзе базіраваўся штаб дывізіі, а, баючыся ваеннага суда, скончыў жыццё самагубствам. Пасля гэтай перамогі аб Р. Траўгуце стала вядома далёка за межамі Кобрыншчыны. Супраць яго былі накіраваны чатыры роты пяхоты і дзве сотні казакаў. На іх ўзбраенні меліся дзве гарматы. 13 мая ўрадавыя войскі атакавалі паўстанцаў Р. Траўгута, якія

[4] Карпович, О. Их примирил Брест // Брестский курьер. – 2008. – №18 май.
[5] Бараноўскі, І. За праўду і волю…// Брестский курьер. – 2003. – №46 ноябрь.
[6] Бараноўскі, І. За праўду і волю…// Брестский курьер. – 2003. – №46 ноябрь.

базіраваліся паблізу Антопаля ў Белінскіх лясах. Атрад панёс вялікія страты (жывымі засталіся толькі 23 чалавекі) і адышоў на Піншчыну, дзе аб'яднаўся з брэсцкім атрадам Я. Ваньковіча. Злучаны атрад (усяго 100 чалавек) на чале з Р. Траўгутам, яшчэ некаторы час дзейнічаў у Пінскім павеце. Але ў сутычцы з урадавымі войскамі каля вёскі Калоднае быў разбіты. Пасля паражэння камандзір, ратуючы людзей, падзяліў атрад на некалькі частак, кожная з якіх самастойна прабіралася ў Брэсцкі і Кобрынскі паветы. Сам Р. Траўгут, паранены ў апошняй сутычцы, доўга хварэў. Потым Р. Траўгут і Я. Ваньковіч з дапамогай кур'ера паўстанцаў Э. Ажэшкі ў ліпені 1863 г. выехалі ў Варшаву. Я. Ваньковіч прадоўжыў барацьбу ў паўстанцкіх арганізацыях у Галіцыі, у сакавіку 1864 г. яго арыштавалі аўстрыйскія ўлады. Пазней Я. Ваньковіч жыў у Парыжы і Кракаве. Памёр у 1899 г. Р. Траўгут у кастрычніку 1863 г. узначаліў Нацыянальны ўрад у Варшаве і стаў кіраўніком паўстання ў Польшчы ў званні генерала. 30 сакавіка 1864 г. Траўгут быў арыштаваны і паводле прысуду ваеннага суда 5 жніўня 1864 г. павешаны ў Варшаўскай цытадэлі.[7]

У Пружанскім павеце ў красавіку 1863 г. быў створаны паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам памешчыка Фелікса Улодэка, у якім знаходзілася каля 300 чалавек. Атрад Ф. Улодэка прымаў удзел у буйнейшай бітве паўстання 1863 г. на тэрыторыі Беларусі, што адбылася 22 мая 1863 г. каля мястэчка Мілавіды Слонімскага павета. У дадзеным сражэнні ўдзельнічалі некалькі атрадаў паўстанцаў з Гродзенскай губерні, агульнай колькасцю каля 800 чалавек. Узначаліў аб'яднаныя сілы палкоўнік А. Лянкевіч.[8] Вясной-летам 1863 г. атрад Ф. Улодэка здзейсніў рэйд па тэрыторыі Пружанскага, Кобрынскага, Слонімскага і Пінскага паветаў, падчас якога каля вёскі Новы Двор Пінскага павета злучыўся з іншымі атрадамі: слонімскім, гарадзенскім, ваўкавыскім, аб'яднаным атрадам Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў. 30 жніўня аб'яднаныя сілы паўстанцаў былі разбіты, рэшткі іх атрадаў адышлі ў Польшчу.[9]

Актыўна дзейнічаў на Пружаншчыне атрад пад камандаваннем аднаго з бліжэйшых наплечнікаў К. Каліноўскага, начальніка гродзенскага ваяводскага штаба паўстання Валерыя Урублеўскага. Атрад быў сфарміраваны ў красавіку 1863 г. і з'яўляўся адным з самых вялікіх і баяздольных у Беларусі. У пачатку лета ў ім налічвалася 400 чалавек. Паўстанцы В. Урублеўскага паспяхова вытрымалі нечаканы напад трох рот карнікаў ва ўрочышчы Мерачоўшчына. Каля мястэчка Лыскава ў начным баі яны нанеслі значныя страты ўрадавым войскам, а на наступны дзень, 2 чэрвеня, захапілі Ружаны, абяззброілі знаходзіўшыхся ў мястэчку салдат.

Атрад В. Урублеўскага працягваў змагацца і пасля таго, як Выканаўчы аддзел Літвы 28 жніўня 1863 г. аддаў загад спыніць ваенныя дзеянні ў краі. Аднак 7 студзеня 1864 г. ён быў атакаваны і разбіты казакамі. Цяжка параненага камандзіра падабралі сяляне, прынеслі ў маёнтак, гаспадары якога падлячылі В. Урублеўскага і дапамаглі выехаць за мяжу. У Парыжы ён узначаліў польскую эміграцыю, удзельнічаў у абароне Парыжскай Камуны. Пасля паражэння камунараў ад'ехаў у Лондан, дзе пазнаёміўся з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Па іх прапанове быў абраны ў Генеральны савет І Інтэрнацыянала. Потым вярнуўся ў Парыж. Памёр у 1908 г.

У межах Пружанскага павета дзейнічаў яшчэ адзін паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Густава Стравінскага, аснову якога складалі сяляне мястэчка Лыскава і яго ваколіц.

Летам 1863 г. становішча паўстанцаў у Гродзенскай губерні рэзка пагоршылася. Супраць іх была кінута 40-тысячная царская армія пад камандаваннем генерала Манюкіна. У паўстанцкіх атрадах на тэрыторыі губерні налічвалася толькі каля 1700

---

[7] Татаренко, А. Генерал повстанцев // Народная воля. – 2002. – 12 ліпеня.

[8] Корнеў, П.І. Паўстанне 1863 – 1864 гг. на Берасцейшчыне ў памяці нашчадкаў // Паўстанне 1863 года і яго гістарычнае значэнне. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, 10 – 11 кастрычніка 2003 года. – Брэст: Выдавец Лаўроў С.Б. – С. 69.

[9] Бараноўскі, І. За праўду і волю…// Брестский курьер. – 2003. – №46 ноябрь.

чалавек. К. Каліноўскаму і яго паплечнікам не ўдалося прыцягнуць да паўстання шырокія сялянскія масы, перавесці яго ў рэчышча сялянскай рэвалюцыі. Кола барацьбітаў з кожным днём звужалася. Найбольш падрыхтаваныя камандзіры атрадаў загінулі або трапілі ў палон, самыя баяздольныя атрады былі разбіты. Рэшткі паўстанцаў пераходзілі на тэрыторыю Польшчы.

Усяго ў Беларусі і Літве налічвалася каля 15 тысяч паўстанцаў. На тэрыторыі сучаснай Беларусі яны правялі 46 баёў з царскімі войскамі, з якіх 2/3 адбыліся на Гродзеншчыне і Віленшчыне. Змагацца ім давялося супраць рэгулярнага войска, у склад якога ўваходзілі 318 рот салдат, 48 эскадронаў кавалерыі, 18 казацкіх соцень. На іх узбраенні мелася 120 палявых гармат.[10] Перавага ўрадавых сіл стала абсалютнай. Далейшае супраціўленне паўстанцаў было асуджана на паражэнне. У канцы жніўня 1863 г. арганізаваная ўзброенная барацьба ў беларуска-літоўскім краі, у тым ліку і на тэрыторыі Берасцейшчыны, была спынена.

[10] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX стст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч [і інш]; Рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш]. – Мінск: Экоперспектива, 2005. – С. 239.

*О.В. Карпович*

# 1863 ГОД В ПРУЖАНСКОМ УЕЗДЕ: ЭПИЗОДЫ ВОССТАНИЯ

Пружанский уезд в январе 1863 г. принял первый в Беларуси повстанческий отряд. Это было соединение комиссара Подлясского воеводства (в составе Бельского, Седлецкого, Луковского и Радзинского уездов) Р. Рогинского, созданное по распоряжению Варшавского Центрального Национального комитета (ЦНК) и пробившееся с боями из Польши.

11 февраля (30 января) вблизи усадьбы Королёв Мост Пружанского уезда произошло столкновение отряда Р. Рогинского с превосходящими силами правительственных войск под командованием генерал-майора И. Ностица. В ходе боя часть повстанцев была рассеяна и отошла в Польшу, другая, во главе со Ф. Стасякевичем, двинулась в направлении Брест-Литовска. В столкновении, которое закончилось трагически для Рогинского, по разным сведениям, погибло и попало в плен от 37 до 85 повстанцев, был потерян обоз. Ностиц писал в мемуарах о 50 погибших повстанцев и 3 взятых в плен, свои потери он оценил в 13 раненых нижних чинов[1]. Рогинский с остатками отряда укрылся в лесу на берегу р. Лесная. Вечером 12 февраля (31 января) его отряд, соединившись с небольшим формированием акцизного чиновника Бельского уезда С. Сонгина, достиг местечка Шерешево. В сельском правлении было конфисковано 93 руб. казённых денег, которыми были оплачены одежда и продукты, поставленные партизанам. Как писал Рогинский, при занятии Шерешево «все местечко сбежалось нас накормить, а евреи доставили остальное. Когда же я заявил, что плачу за все, дали нам то, в чем больше всего ощущалась надобность: пороху, патронов и множество пистонов для ружей»[2]. Забегая вперед, отметим, что отряд Сангина вскоре был разгромлен. 3 (15) февраля 1863 г. отряд попал в засаду близ фермы Речицы Пружанского уезда, организованную подполковником Вимбергом. Погибло 11 повстанцев (в т.ч. Сангин), 16 попало в плен, несколько человек утонуло, сумело спастись лишь 8 повстанцев[3]. К данным по потерям с обеих сторон следует относиться с осторожностью. Русские и повстанцы всячески завышали чужие потери, занижая свои. Зачастую эти непроверенные данные попадали в официальную литературу. Так, сборник материалов Муравьевского музея (1915 г.) в сведениях об этом сражении приводит фантастические цифры о 83 убитых, 34 раненых и 14 взятых в плен повстанцах Сангина[4]. В действительности, его отряд не превышал 50 человек.

После этого объединённый отряд под общим командованием Рогинского на 15 фурманках двинулся на Пружаны, которые и были захвачены 13 (1) февраля. Повстанцы недолго оставались без денег: в местном казначействе было «экспроприировано» 10808 руб. 85 коп., документы и амуниция. Была обезоружена местная немногочисленная воинская команда и захвачено 200 карабинов и 1720 патронов. Не обошлось без кровопролития: «убиты 2 рядовых инвалидной команды и 1 отставной ...и ранены 9 человек, из коих один, находившийся на часах у дверей казначейства, получил 10 ран»[5]. Из тюрьмы было выпущено 9 арестантов, которые не

---

[1] Gora, S. Poczatki powstania styczniowego na Litwe i Bialorusi oraz dzialania oddzialu Romana Roginskiego na tych terenach w okresie od 7 lutego do 3 marca 1863 r. // Studia i materially do Historii Wojskowosci. – 1985. – T. 28. – S. 205.

[2] Рогинский, Р. Из воспоминаний повстанца // Исторический вестник. – 1906. – Т. 105. – С. 448.

[3] Gora, S., Указ. соч. – S. 206.

[4] Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края: в 2-х ч. Ч. 1. – Вильно., 1915. – С. XL

[5] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: материалы и документы. – М.: Наука, 1965. – С. 343.

присоединились к повстанцам. Рогинский в своих мемуарах вспоминал о том, что в Пружанах к нему в отряд вошло 2 человека. Ими были бухгалтер казначейства Стравинский, который «нанес удар шашкой по голове» безоружному солдату местной инвалидной команды и писарь уездного суда Глебович «выстрелом в горло» убивший рядового Колесникова[6]. Помимо этого, Рогинский «силой увел в мятеж» местных дворян братьев Ф. и А. Пульховских и дворянина Брестского уезда Малевского, которые бежали из отряда той же ночью, о чем чистосердечно доложили военному начальству[7].

В городе действовала подпольная организация, благодаря усилиям которой так легко был захвачен уездный центр. По горячим следам было установлено, что непосредственную помощь Рогинскому оказывало почти все городское руководство во главе с уездным предводителем дворянства В. Швыковским. Как свидетельствуют архивные материалы, «главными агентами» революционного повстанческого комитета в Пружанском уезде были В. Швыковский, уездный казначей Н. Горецкий, уездный исправник капитан И. Руммель, городничий штабс-капитан Б. Койшевский, уездный судья А. Вислоух, начальник городского острога Ивановский, начальник Пружанской дворянской опеки Ф. Бортновский и ряд других. Среди добровольных помощников упоминаются ветеринарный врач Г. Берендт, фельдшер О. Михневич, частнопрактикующий врач И. Михальский, городской врач Л. Домбровский, уездные врачи В. и А. Окинчицы, т. е. люди весьма влиятельные и не бедные[8]. Впоследствии В. Швыковский (1817–1900) был вынужден бежать за границу и после скитаний оказался в Бельгии, где устроился работать садовником. В 1867 г. Швыковский по амнистии вернулся на родину, ему было возвращено имение. В 1895 г. он продал его графине Клейнмихель. Бортновский был выслан в Ярославскую губернию. Глебович и Стравинский были убиты в сражениях с правительственными войсками[9].

Но нападение на город было бы невозможным при обеспечении должного уровня готовности военными властями. Здесь следует подробно остановиться на действиях тех, на кого была возложена обязанность по обеспечению безопасности. Территория Гродненской губернии в оперативном плане входила в зону ответственности 2-й пехотной дивизии под командованием генерал-лейтенанта З.С. Манюкина. В подчинении Манюкина находилось в разное время от 3 до 4 воинских отрядов. Одним из таких был Брестский отряд под командованием генерал-майора графа И.Г. Ностица, которого 1 марта 1863 г. сменил генерал-майор А.Ф. Эггер. В сферу деятельности Брестского отряда входили Брестский, Кобринский и Пружанский уезды. За охрану Пружан отвечала местная команда внутренней стражи под командованием поручика П. Головни. По некоторым данным, военный гарнизон в Пружанах составлял 250 человек, но не исключено, что эти цифры завышены. Однако, не вызывает сомнения, что он проявил себя не лучшим образом. Так, поручик Головня при нападении на город «обнаружил трусость и, спасая только себя, бежал из города, переодевшись в крестьянскую одежду». Впоследствии он был лишен офицерского звания и дворянства, изгнан из армии и выслан вглубь России. Его помощник фельдфебель Пухальский разжалован в рядовые и отдан в Оренбургскую арестантскую роту. Кроме того, унтер-офицер Пружанской команды внутренней стражи Я. Бабенко «исполнял приказы Рогинского, показал повстанцам, где находится цейхгауз». Городничий Койшевский «привел в казарму партию мятежников, где солдаты в то время спали, вторую повел к казначейству, третью часть – к острогу, и сам требовал, чтобы часовой отворил калитку для впуска мятежников»[10]. Позднее сам Койшевский «по дряхлости лет» был оставлен под полицейским надзором[11]. Несмотря на

---

[6] Восстание в Литве... - С. 344.
[7] НИАБ в Гродно. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 204. – Л. – 11–11об.
[8] Там же. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. – 1138.
[9] Там же. – Ф. 1. – Оп. 31. – Д. 62. – Л. – 5–7.
[10] Восстание в Литве..., - С. 344
[11] НИАБ в Гродно. – Ф. 1. – Оп. 31. – Д. 62. – Л. 1–3

неблагоприятные условия, гарнизон оказал сопротивление, было убито 3 повстанца и 9 ранено. Потери инвалидной команды составили 7 человек убитыми и умершими от ран: Зезюлин Иван, Колесников Василий, Кузьмин Пантелей, Русин Степан, Филиппович Клемент, Чайковский Лаврентий[12].

В бою с правительственными войсками в составе отряда Р. Рогинского в январе 1863 г. был ранен Т. Самульский. Когда Рогинский захватил Пружаны, Самульский был оставлен на лечение у помещика Морачевского. 3 (15) февраля Морачевский доставил Самульского к пружанскому приставу, который и посадил повстанца под арест в местный острог для дальнейшего разбирательства. Через некоторое время Самульский был выпущен и отдан на поруки отставному подпоручику С. Трембицкому и жил в его доме в Пружанах. За время пребывания на свободе Самульский развернул работу по вербовке местных жителей, в первую очередь чиновников, в отряды, нередко угрожая последним «лишить жизни». Вербовка шла в учреждениях по месту службы. В мае 1863 г. Самульский и Трембицкий ушли из Пружан в отряд Влодека. С. Трембицкий был арестован 5 (17) сентября 1863 г. и на допросах утверждал, что Самульский ушел из его дома без ведома хозяина и он, боясь ответственности, был вынужден уйти в леса, где через какое-то время его нашли повстанцы Влодека. Впоследствии Трембицкий был приговорен к 6 годам каторги, следы Самульского теряются в Польше[13]. Характерно то, что сам чиновник Глебович, который убил солдата при захвате городка отрядом Рогинского, вскоре вернулся из отряда и некоторое время находился в Пружанах, откуда бежал лишь 20 апреля вместе с другими лицами[14].

Нападение повстанцев на город стало возможным, благодаря ошибкам самого графа Ностица, который, преследуя Рогинского, должен был позаботиться о разведке и обязан был укрепить гарнизоны в уездных городах. Позднее он так и сделал, оставив в Пружанах роту Ревельского пехотного полка и сотню 5-го Донского казачьего полка под общим командованием майора Бубнова.

24 апреля 1863 г. в Пружанском уезде организовал отряд крупный помещик, владелец имений в Брестском (Мотыкалы) и Пружанском уездах (Кабаки) Ф.А. Влодек, вскоре к его отряду присоединился отряд Т. Самульского (до 40 человек). Отряды Влодека и Самульского пополнились, в том числе, и за счет чиновников Пружан, членов местной повстанческой организации. Так, 20 апреля место своей службы самовольно оставили 10 пружанских чиновников. Всего же из Пружанского уезда в отряды ушло 59 человек: беспоместных дворян – 16, чиновников – 10, студентов – 2, помещиков – 11, 2 ямщика, 15 крестьян и 4 мещанина. По другим данным, в отряды ушло до 70 человек[15]. В том числе из имений Сельцы, Ясеневец и Богуславец графа Замойского бежало в общей сложности 17 его служащих – 7 дворян, 2 лакея, 2 повара, 2 псаря, писарь, однодворец, кучер и землемер[16]. Несмотря на то, что собственные отряды в Пружанском уезде стали появляться только в апреле, население начинало уходить в леса еще в марте. К концу марта из своих мест проживания «отлучилось неизвестно куда» 7 крестьян, 14 дворян (из которых 9 помещиков) и мещанин[17].

20 апреля (2 мая) Влодек с небольшим отрядом (по разным источникам от 18 до 30 человек) напал на почтовую станцию Свадбичи, конфисковал 18 лошадей, 6 повозок, 2 пистолета, саблю, а также «взял насильно 8 ямщиков»[18].

Отряд Влодека провел несколько столкновений с правительственными войсками. Так, 2 (14) мая близ Михалино Пружанского уезда (по другим данным

---

[12] http://zapadrus.su/bibli/arhbib/85-spisok-pogibshih-russkih-soldat-v-1863.html

[13] Повстанческое движение в Гродненской губернии 1863–1864 гг.– Брест: Академия, 2006. – С. 23, 44, 155.

[14] НИАБ в Гродно. – Ф. 1715. – Оп. 1. – Д. 2. – Л. 25–26

[15] Там же. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 1138. – Л. 485–490.

[16] Там же. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 204.

[17] Там же. – Ф. 1717. – Оп. 1. – Д. 4. – Л. 28–30.

[18] Архивные материалы Муравьевского музея…Ч. 1. – С. 409.

Слонимского уезда) произошло 2 сражения отрядов штабс-капитана Евдокимова и есаула Евстратова с отрядом Влодека. По сведениям повстанца И. Арамовича, правительственные войска потеряли 30 штуцеров, 7 коней и барабан, потери в личном составе составили 176 человек, из которых 65 раненых, при этом свои потери оценены в 5 человек убитыми и 4 ранеными[19]. Между тем, сведения властей говорят о 10 убитых и 30 раненых нижних чинов и офицеров; потери повстанцев оценены в 50 человек убитых. Эти данные почти подтверждает непосредственный участник боя, командир роты Ревельского пехотного полка штабс-капитан Евдокимов в рапорте от 4 (16) мая, говоря о 24 раненых (сам Евдокимов был ранен в руку) и 9 убитых нижних чинов[20]. По всей видимости, эти данные, с большей вероятностью, соответствуют действительности, о чем свидетельствует список представленных к награде 10 нижних чинов командиром Ревельского пехотного полка полковником бароном Бринкеном на имя генерала Эггера[21].

В течение лета 1863 г. в Пружанском уезде произошло минимум 6 столкновений с правительственными войсками:

1) 4 (16) июня близ сел. Устроль произошел бой отряда Духинского с подразделением подполковника Блюменталя в составе трех рот Ревельского пехотного полка, роты Кутузовского пехотного полка и сотни Донского казачьего полка. Правительственные войска потеряли 11 человек убитыми и 17 ранеными, потери повстанцев они оценили в 80 человек убитыми (очевидно, завышенные);

2) 8 (20) июня близ Березовых болот рота капитана Штеккера провела бой с отрядом Влодека, в ходе которого последний, по сведениям повстанца И. Арамовича, потерпел поражение, а его потери составили 11 человек убитыми;

3) 27 мая (9 июня) близ усадьбы Королев Мост столкновение отряда Керсновского с ротой Ревельского пехотного полка капитана Пищемукова, в ходе которого было убито 2 и ранено 9 нижних чинов. Потери повстанцев составили 4 человека убитыми и трое пленными. По данным польского историка С. Зелинского, повстанцы потеряли 22 человека убитыми;

4) 15 (27) июня неподалеку от Шерешево все тот же капитан Штеккер провел бой с повстанческим отрядом (очевидно, это был отряд Врублевского). По официальным сведениям, повстанцы потеряли 16 человек убитыми и 3 пленными;

5) 30 августа (10 сентября) в урочище Березовка сражение отряда Врублевского (до 300 человек) с подразделениями Староингерманландского и Псковского пехотных полков под командованием майора Шульженко[22];

6) 18 (30) августа близ мест. Глубокий Кут (в 23 км южнее Шерешево) повстанцы Врублевского провели бой с отрядом правительственных войск. Потери польские источники не сообщают, равно, как и официальные российские документы ничего не говорят об этом сражении.

Отдельно следует упомянуть нападение 4 (16) июня отряда К. Кобылинского из 56 человек на местечко Ружаны (Слонимский уезд). Местная инвалидная команда численностью в 47 человек не смогла противостоять повстанцам, в результате чего последние захватили 23 карабина, 2 двустволки и 2 палаша[23].

В отрядах Пружанского и соседних уездов находилось немало отставных и действующих офицеров русской армии. Одним из них был Г. Стравинский («Млотек»), поручик Муромского пехотного полка, бежавший из части 24 июля 1863 г. и

---

[19] Арамовіч, І. Мары. Успаміны пра партызанскі рух у Гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. // ARCHE. – 2010. – № 12. – С. 29–30.

[20] НИАБ в Гродно. Ф. 1715. – Оп. 1. – Д. 9. Л. – 120об.

[21] Черепица, В.Н. Действия Брестского отряда российских войск в южной части Гродненской губернии // Звенья цепи единой. Большие и малые события в истории Гродненщины XIX–XX столетий – Гродно: ГрГУ им. Я. Купалы, 2009. – С. 367–368.

[22] Архивные материалы Муравьевского музея... Ч.1. – С. XL–XLV.

[23] Арамовіч, І. Указ. соч. – С. 34.

организовавший отряд в Волковысском уезде. К нему присоединился прапорщик 3-й полевой артиллерийской бригады С. Окинчиц. В апреле 1863 г. он перешел на сторону повстанцев и находился в отряде Ф. Влодка, а затем присоединился к Стравинскому. Двоюродный брат Л. Окинчица, Александр являлся окружным врачом Пружанского и Слонимского уездов, проживая в Шерешево. По некоторым сведениям, он входил в состав Пружанского повстанческого комитета. В апреле 1863 г. он вступил в отряд Г. Стравинского, который 10 дней спустя покинул по состоянию здоровья и проживал в имении матери, в деревне Немковичи Пружанского уезда, где и был арестован[24].

Повстанцам активную помощь продовольствием, фуражом и продуктами оказывали, не присоединяясь при этом к отрядам, помещики окрестных территорий. Так, по свидетельству многих очевидцев, помогал отрядам Врублевского и Влодека крупный помещик, владелец имений в Брестском и Пружанском уездах Пусловский.

Свои имения предоставляли для размещения повстанцев такие крупные владельцы как граф Любецкий и помещик Скирмунт. Повстанец отряда Врублевского Л. Беркусевич показывал на допросе, что он «по записке Врублевского получил… от помещицы Шемиот 70 руб., хлеба и сыру, …от помещика имения Островок Тарновского 11 руб»[25]. После захвата Пружан отряд Рогинского расположился на отдыхе в имении Линево помещика Б. Трембицкого, где был готов ужин на 120 человек. Об одном из снабженцев отрядов Врублевского и Влодека – чиновнике Пружанского земского суда дворянине Ф. Снежко-Блоцком, который одновременно продолжал службу в суде, упоминает повстанец отряда Врублевского С. Пацевич. Снежко-Блоцкий выполнял очередной рейс в отряды с товаром 23 июня, когда был схвачен конным разъездом казаков в дер. Лихосельцы Пружанского уезда. Вместе с ним были арестованы дворянин Чайковский из мест. Свислочь и мещанин Василевский из Пружан. У них изъяты «слиток свинца весом 1 пуд 5 фунтов, 2 мешка с новыми сапогами – всего 23 пары, … 10 ящиков сигар, 20 пачек папирос, табаку около 3 фунтов»[26]. Нередко были случаи, когда повстанцы, стремясь вывести из-под удара властей местных помещиков за оказание помощи, фамилии последних зашифровывали под номерами.

В июле-августе под ударами правительственных войск повстанческие отряды начали терпеть поражения, из отрядов в массовом порядке стали бежать повстанцы, воспользовавшись «Манифестом о Всемилостивейшим прощении бывших участников восстания, добровольно явившихся из мятежных отрядов». Так, к сентябрю 1863 г. из отрядов бежал 41 человек, в том числе 16 дворян и 19 крестьян[27]. Под воздействием этих мер, стремясь запугать рядовых членов отрядов, некоторые командиры начали устраивать террор по отношению к мирному населению силами так называемых «жандармов-вешателей». Прославляемый ныне В. Врублевский, в то время поручик Корпуса лесной стражи (и заместитель начальника Сокольского егерского училища), оставил свой немалый кровавый след, в том числе и на территории Пружанского уезда. Так, по сведениям многих арестованных повстанцев, он «послал отряд из 20 человек в мест. Шерешево, которым велел сжечь бровар и убить 5 человек» мирных жителей по обвинению в помощи властям. План был перевыполнен: 19 (31) августа 1863 г. были повешены А. Найгас, Ф. Юделевский, семья лесного стрелка Беловежской пущи – Анна, Героним и Иосиф Седуны и крестьянин Я. Зайончковский.  В лесу, близ Шерешево, позднее были повешены еще 4 человека. 3 (15) июля 1863 г. в имении Котра этого же уезда были повешены православный священник Р. Рапацкий и крестьянин К. Швед[28].

---

[24] Карпович, О.В. Окинчицы: стремление к свободе // Асоба ў гісторыі: гераічнае і трагічнае. Матэрыялы Трэцяй міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі студэнтаў, ліцэістаў, аспірантаў і маладых вучоных, 23–24 лістапада 2007 – Брэст: Альтернатыва, 2008. – С. 118.

[25] Повстанческое движение… - С. 247.

[26] Восстание в Литве… -  С. 376.

[27] НИАБ в Гродно. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 666. – Л. 159а–159б.

[28] Там же. – Ф. 3. – Оп. 1. – Д. 18. – Л. 30б., 70об.–10об.

Уже после полного подавления восстания власти еще долгое время выявляли не только активных участников восстания, но и лиц, им сочувствующих. Так, из Пружанского уезда на конец 1864 г. было выслано 27 крестьян во внутренние регионы России. Половина из них была отправлена «под надзор губернатора» в Калужскую и Тульскую губернии[29]. В список конфискованной собственности влиятельных помещиков Пружанского уезда вошли имения Валериана Юндзилла (продано за 50000 руб. серебром), Иосифа Стравинского (42000 руб. серебром), Станислава Стравинского (15000 руб. серебром), Александра Доманского (7500 руб. серебром) и Эдмунда Корсака (3355 руб. серебром)[30]. По подозрению в «политической неблагонадежности» в Пружанах было уволено 39 чиновников «присутственных учреждений»[31]. В 1868 г. под надзором полиции по Пружанскому уезду за участие в восстании состояло 76 человек, в том числе 26 дворян, 9 помещиков, 7 евреев, 17 мещан, 10 крестьян, 7 представителей шляхты[32]. Обязательной продаже подверглись имения помещиков Люциана Крашевского (Долгое), Вацлава Дерамера (Линовка), Ивана Василевского (Давидовичи), Розалии Остроменцкой и Феликса Ястржембского (Вежки), Константина Извицкого (Осеки), Александра Жуковского (Лукомерж)[33].

Во время массовых общественно-политических потрясений нередко находятся люди, пытающиеся тем или иным способом свести счеты со своими противниками. Не исключением стало и восстание 1863 г., когда зачастую по ложным доносам власти арестовывали невиновных лиц. Вот и в Пружанском уезде в сентябре 1863 г. по доносу крестьянина И. Глушко за помощь беглым повстанцам был арестован владелец имения Крыницы Ф. Дзеконский и четверо его служащих, посаженные в Пружанский острог. Разобрав дело арестованных, местная уездная военно-следственная комиссия пришла к выводу, что донос на помещика и его служащих был ложным, о чем военный начальник Пружан и отмечал в своем рапорте. Тем не менее, перечисленные лица были отданы под суд, который и состоялся 14 февраля 1864 г. По решению суда, служащие Дзеконского были отданы на поруки Сухопольскому сельскому обществу и возвращены на прежнее место жительства в дер. Крыницы, судьба самого Дзеконского, которого перевели в Гродненский тюремный замок, так и не была определена. Лишь 26 августа 1864 г., после прошения жены Эрнестины на имя гродненского губернатора, просидев за решеткой почти год помещик был выпущен под поручительство и возвращен в свое имение. Извинения за незаконный арест, ему, разумеется, никто не принес[34].

---

[29] Там же. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 231. – Л. 13–45.

[30] Schmidt, W. Geneza prywatnej rosyjskiej wlasnosci ziemskiej w b. guberniach Wilenskiej, Grodzienskiej i Minskiej (1793–1875). – Warszawa, 1923. – S. 78–80.

[31] НИАБ в Гродно. – Ф. 1. – Оп. 6. – Д. 511. – Л. 12–14, 25–29, 38–40.

[32] НИАБ в Гродно. – Фонд 1. – Оп. 34. – Д. 3558. – Л. 155–165.

[33] Список имений Северо-Западного края, подлежащих обязательной продаже в 2-годичный срок на основании Высочайшего повеления 10 декабря 1865 года. Ч. 1. Гродненская губерния. – Вильно, 1866.

[34] Папко, В.М. Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX–XX стст. – Брэст: Альтэрнатыва, 2009. – С. 45–47.

*Н.С. Пракаповіч*

## ХРОНІКА ПАЎСТАННЯ 1863 – 1864 гг. НА ПРУЖАНШЧЫНЕ

Падзеі паўстання 1863 – 1864 гг. выклікаюць шмат пытанняў сярод навукоўцаў і аматараў гісторыі. Можна сцвярджаць, што гэты перыяд адзін з найбольш складаных і спрэчных. Не апошнюю ролю ў складванні такой сітуацыі адыгралі ідэалагічныя штампы і падыходы, якія панавалі ў грамадстве і гістарычнай навуцы на працягу апошніх 150 год. Негледзячы на існаванне пэўнай колькасці літаратуры па азначаным пытанні, яно застаецца да канца нераспрацаваным, так як доўгі час асноўнымі крыніцамі аб выступленні былі працы савецкіх гісторыкаў і архівы перыяду Расійскай імперыі, матэрыялы якіх асвятлялі падзеі аднабакова. Да пачатку 1990-х гг. складаным прадстаўлялася карыстанне замежнымі крыніцамі, успамінамі ўдзельнікаў. Сёння такая магчымасць з’явілася, у тым ліку дзякуючы лічбаванню гістарычных крыніц і з’яўленню іх у сетцы Internet.

У дадзенай рабоце зроблена спроба скласці прыкладную храналогію развіцця паўстанцкага руху на Пружаншчыне ў 1863 г. на аснове польскіх крыніц, мемуарнай літаратуры і беларускіх выданняў, матэрыялаў Нацянальнага гістарычнага архіва і фондаў музея-сядзібы “Пружанскі палацык”.

Падрыхтоўка да выступлення ў Польшчы і Літве пачалася з канца 1850-х гг. Рэвалюцыйныя арганізацыі былі створаны студэнтамі Масквы, Пецярбурга, замежных універсітэтаў, у эміграцкіх колах. Сярод іх удзельнікаў – Ф. Зянковіч з маёнтка Мокрае Пружанскага павета. Ён займаўся падрыхтоўкай экспедыцыі па дастаўцы марскім шляхам з Англіі ў Літву ваеннага кантынгенту і зброі[1]. Для гэтага быў зафрахтаваны карабель “Уорд-Джэксан”[2]. Потым Зянковіч быў сакратаром Выканаўчага аддзела Літвы (ліпень 1863 г.)[3]. У пачатку 1860-х гг. рэвалюцыйныя гурткі з’явіліся ў розных гарадах заходніх губерняў. Важную ролю ў іх стварэнні іграў кіраўнік паўстання: Каліноўскі наведваўся “ў Пружаны і ў Кобрын і яшчэ бог ведае куды”[4]. У паліцэйскія ўстановы Гродзненскай губерніі з лета 1862 г. паступалі звесткі аб выкрыцці сярод сялян газеты “Мужыцкая праўда”. Магчыма, з мэтай яе распаўсюджання восенню 1862 г. Каліноўскі бываў у Ружанах: у данясеннях адзначалася, што на мясцовай паштовай станцыі спыняўся Вікенцій Каліноўскі і Чарноцкі[5].

Паўстанцкія атрады на Пружаншчыне з’явіліся пасля абвяшчэння Цэнтральным нацыянальным камітэтам (ЦНК) паўстання ў Варшаве 22 (10) студзеня і Літоўскім правінцыяльным камітэтам (ЛПК) у Вільні 1 лютага (20 студзеня) 1863 г.

Адным з першых аддзелаў, які рушыў на усход, быў атрад Р. Рагінскага. 6 – 7 лютага (25 – 26 студзеня) ен ўдзельнічаў у Сямяціцкай бітве, пасля якой “з малой групай смела рушыў у глыб Літвы, ідучы праз Пружанскі павет”[6]. 11 лютага (30 студзеня) рэгулярныя войскі і “мяцежнікі” сутыкнуліся каля маёнтка Каралеўскі Мост. Імперскія дакументы сведчаць: “…Рускі атрад складаўся з 5 рот Пскоўскага палка, 3 рот Рэвельскага палка з 85 казакамі 24-га Данскога палка з 4 гарматамі наразной 5-й батарэі, пад кіраваннем флігель-ад’ютанта графа Носціца і падпалкоўніка Вімберга. Паранена 12 чалавек. Склад шайкі не указаны. Яе начальнік Рагінскі. Забіта 12,

---

[1] Зялевіч, А. Сібірыяда мокраўскага шляхціца // Раённыя будні. – 2011. – 6 студзеня. – С. 9.

[2] Dubiecki, M. Echa z powstania styczniowego. – Zamość, 1922. – S. 85.

[3] Барыс, С. Сістэма кіравання паўстаннем 1863 – 1864 гг. ў Літве і Беларусі // Беларускі гістрычны часопіс. – 2003. - №7. – С. 24.

[4] Пракаповіч, Н. Хроніка паўстання: зіма 1863г. // Раённыя будні. – 2013. – 22 лютага.– С. 5.

[5] Церахава, В. Ад Ражанны да Ружан // Раённыя будні. – 1996. – 20 жніўня.

[6] Limanowski, B. Powstanie narodowe 1863 i 1864 r. – Lwòw, 1900. – S. 76.

патанула 5, у плен узятыя 4 і на наступны дзень 16"[7]. Пасля бітвы частка атрада на чале з Ф. Стасюкевічам вярнулася ў Польшчу[8].

12 лютага (31 студзеня) аддзел у 200 чал. на чале з Р. Рагінскім і С. Сангіным увайшоў у мястэчка Шарашова. Захавалася данясенне віленскаму генерал-губернатару У. Назімаву: "...на змярканні прыйшлі ў ... Шарашова мяцежнікі..., узброеныя двухствольнымі паляўнічымі стрэльбамі, пісталетамі, кінжаламі і іншай зброяй, з іх 8 з шумам уварваліся ў кватэру станавога прыстава, арыштаваўшы яго, паставілі ля дома каравул, астатнія ж размясціліся каля ... рымска-каталіцкага касцела. ...адзін мяцежнік называў сябе начальнікам, аддаваў загады, купляў у мястэчку паўшубкі, боты, бялізну і розныя прыпасы, за якія плаціў ... наяўнымі грошамі. У шарашоўскім сельскім праўленні мяцежнікі разбілі скрыню з грошамі і ўзялі 93 рублі, а ў тры гадзіны апоўначы пайшлі, забраўшы з сабой 15 аднаконных і параконных падвод, трымаючы шлях свой да павятовага горада Пружаны..."[9]. У Шарашове паўстанцы здабылі 6 пудоў пораху. Рагінскі успамінаў: "Шарашова нечакана дало нам усе, нават з лішкам: шмат ботаў, бялізны, прадуктаў. Усе мястэчка збеглася, каб нас накарміць"[10].

13 (1) лютага атрад Рагінскага каля 100 (у расійскіх данясеннях ад 60 да 2000 чал.) захапіў Пружаны. Наогул, да дакументаў перыяду трэба адносіцца асцярожна. Афіцыйныя звесткі і успаміны паўстанцаў розняцца. Інфармацыя аб стратах і колькасці ўдзельнікаў супярэчлівая. Па данясенні афіцыйных улад у Пружанах "мяцежнікі" абяззброілі варту, забілі 3 вартавых і паранілі 9 чалавек, з цэхгауза вынеслі зброю і порах, амуніцыю, "1720 патронаў, у казначэйстве забралі 10 808 рублеў 85 капеек"[11], распусцілі рэкрутаў, падпалілі астрог, напалі на дом гараднічага. Мясцовыя ўлады не здолелі супраціўляцца – у горадзе амаль не было войскаў. Спрабавала абараняцца інвалідная каманда паручніка П. Галаўні. У непадрыхтаванасці горада да сустрэчы паўстанцаў пазней абвінавацілі шарашоўскага прыстава, які "не толькі не чыніў супраціўлення мяцежнікам, але не здолеў папярэдзіць улады горада Пружаны, што ў Шарашове мелі пастой паўстанцы"[12]. У ходзе дазнання было высветлена, што ад Шарашова да Пружан паўстанцы прайшлі вакольнымі дарогамі з дапамогай памешчыкаў Шамета і Кернажыцкага з маёнтка Чахец. У рапарце Гродзенскаму губернатару ад 3 красавіка 1863 г. указвалася, што "...перад нападам паўстанцаў на Пружаны ў мясцовага маршалка адбыўся збор гараджан ... для абмеркавання розных спраў, ... у тым ліку схілення яўрэяў да грашовых ахвяраванняў на падтрымку паўстання"[13]. Начальнікам Пружанскага павета быў прызначаны М. Жукоўскі з маёнка Лукомер, які пражываў у гарадскім доме М. Біранбаума, а памочнікам – М. Скачыньскі з Галенаў[14].

У той жа дзень аддзел рушыў на Кобрын. Па дарозе атрад раздзяліўся: С. Сангін накіраваўся пад Сямяцічы. Ён 15 (3) лютага прыняў бой каля в. Рэчыца Пружанскага павета, дзе камандзір загінуў. Афіцыйная хроніка сведчыць: "3 лютага. Справа каля маёнтка Рэчыца, Пружанскага павета. Рускі атрад складаўся з 2-й стралковай і 3-й і 7-й лінейных рот Пскоўскага палку з казакамі, пад камандаваннем палкоўніка Вімберга. Забіта 2, паранена 3. Склад шайкі 250 чалавек. Начальнік яе Рыльскі (ён забіты). Забіта

---

[7] Церахава, В. Пружаны: Гістарычны нарыс. – Пружаны, 2004. – С. 22.

[8] Zdański, K. Przyczynki do dziejòw powiatu Brzesko-Litewskiego i ziem nim obętych. – Warszawa, 1936. – S. 80.

[9] Сядова, І. Вуліцы майго дзяцінства. Чырвонаармейская. Частка 1 // Раённыя будні. – 2010. – 22 красавіка. – С. 5.

[10] Церахава, В. Узгад. сач. – С. 23.

[11] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пружанскага раена. – Мн., 1992. – С. 27.

[12] Rozanow, M. Powiat Prużański (szkic historyczny). – Prużana, 1935. – S. 21 – 22.

[13] Там жа. – S. 22.

[14] Там жа.

83, паранена 34, палонена 14”[15]. 25 – 26 лютага пад в. Боркі на Ганцаўшчыне аддзел Рагінскага быў разбіты рускім атрадам Альбертава[16].

Пасля адыходу паўстанцаў у Пружанах застаўся Т. Самульскі. Успаміны аб ім непрывабныя. Паўстанцкі лекар А. Акінчыц называў Самульскага “чалавекам сумніўнай сумленнасці”[17] і намякаў, што ён пацярпеў ад уласных амбіцый. Гэта пацвярджаюць іншыя дакументы: “Самульскі быў галоўным памочнікам і арганізацыі банды. Раней ён знаходзіўся з бандзе Рагінскага, якую разбілі, быў паранены і аддадзены на парукі памешчыку Швыкоўскаму, знаходзячыся ў якога лёгка вербаваў людзей у банду. Сабраўшы 40 чалавек, далучыўся да Улодака і, паранены ім з-за імкнення камандаваць бандай, пакінуў Пружанскі павет і накіраваўся ў Каралеўства Польскае, у Бельскі павет, да свайго бацькі”[18].

Далейшае фарміраванне атрадаў ішло вясной 1863 г. Сіганалам да ўступлення ў іх былі загады з Варшавы ці Вільні, якія перадаваліся членам паўстанцкіх арганізацый з указаннем месца і часу збору. Такая арганізацыя была ў Пружанах. Яе частка ўвайшла ў групу Самульскага. Але афіцыйна кіраўнікам пружанскага атрада быў прызначаны Ф. Улодак (Шчасны, Самуха, Здзіхоўскі) – уладальнік маёнткаў ў Пружанскім (Габрыэлін каля в. Кабакі) і Берасцейскім (в.Матыкалы) паветах[19]. Месцам збору атраду з’яўлялася карчма Пінюкі каля Сяльца, куды першыя дабраахвотнікі прыбылі 20 (8) красавіка[20].

Адначасова на поўначы Пружаншчыны ў лесе пад Гутай Быхаўца (уладальнік Магілеўцаў) складваўся ваўкавыскі атрад. У канцы красавіка там сабралася каля 200 чалалек на чале з Г. Стравінскім (Млотакам)[21]. Потым атрад перайшоў ў гушчар Вялікі Вугал каля леса Гундусаў пад Лыскавам.

Самульскі з навербаванымі пружанцамі з балота Дзікое адправіўся на злучэнне з Улодакам. Аднак апошні, не дачакаўшыся групу, з атрадам каля 20 чалавек напаў на пошту у в. Свадзьбічы, забраў коней і брычкі[22]. Пасля гэтага яго рух ў Альховае Балота, дзе спыніўся Самульскі, быў перарэзаны рускімі і аб’яднання атрадаў не адбылося. Таму Т. Самульскі далучыўся да Стравінскага. Рознагалоссі паміж Самульскім і Улодакам потым выліўся ў адкрыты канфлікт.

Супраць Г. Стравінскага і Ф. Улодака з Пружан і Бярозы на Сялец і Міхалін выступілі рускія атрады. Праціўнікі рухаліся ў абшары Міхалін – Смалярня – Альба – Дзяды – Сялец, уступаючы ў сутычкі. У ноч на 14 (2) мая атрад Стравінскага, які знаходзіўся каля в. Міхалін, уступіў у бітву. Падрыхтоўку да яе паўстанец І. Арамовіч апісвае так: “Была першая апоўдні, 2 мая. Маскалі разбілі лагер і адпачывалі насупраць міхалінскіх корчмаў… Ад корчмаў разыходзіліся дарогі – дзве ў бор, да Сяльца і Бярозавага Балота, і дзве ў ельнік, да Гуты Міхалінскай і да Шчытна… Падыйшоўшы дарогай ад Гуты Міхалінскай, Стравінскі заняў край лесу перад палянай. Налева ад дарогі стаяла 2-я стралецкая рота Д…, а направа – 1-я … Акінчыца, прыкрываючы дарогу на Шчытна. За Акінчыцам …Сасуліч з 3-й стралецкай ротай, за Д… – Ельскі з касінерскай ротай…”[23]. Пад націскам рэгулярных часцей паўстанцы адступілі да дарог на Гуту Міхалінскую і Шчытна. Рускія сталі наступаць, але, сустрэтыя агнем, адыйшлі да Сяльца, “пакінуўшы трупы, параненых, штуцэры, барабан і коней”[24]. Удзельнік бітвы А. Акінчыц успамінаў: “тыя, хто здолеў уцячы беглі без адзення і зброі да Сяльца і

[15] Сядова, І. Узгад. сач. – С. 5.
[16] Дайлід, П. Касінеры свабоды // Рэха Берасцейшчыны. – 2008. - №1. – С. 3.
[17] Мемуары доктара Аляксандра Акінчыца ў перакладзе Кшыштафа Мінейкі // Рэжым доступу: http://pages.interlog.com/~mineykok/Okin1.html
[18] НГАБ у Гродна. – Ф.1. – Воп. 34. – Спр. 1151. – Арк. 24.
[19] Дайлід, П. Узгад. сач. – С. 3.
[20] Сядова, І. Узгад. сач. – С. 5.
[21] Арамовіч, І. Мары: Успаміны пра партызанскі рух ў Гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. // ARCHE. – 2010. – №12. – С. 28.
[22] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пружанскага раена. – Мн., 1992. – С. 28.
[23] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 29.
[24] Там жа. – С. 29.

Пружан і, уступіўшы ў горад, крычылі ад жаху: “амаль 5 000 мяцежнікаў ідуць па нашых слядах у Пружаны!”[25]. Аднак падчас рускага адступлення з боку Дзядоў ударыў новы маскоўскі атрад. Аддзел адыйшоў, раздзяліўшыся на дзве часткі – С. Акінчыц рушыў да р. Церцеж, а Стравінскі – у Альховае Балота. Паўстанцы страцілі 5 чалавек забітымі і 4 параненымі, а рускія 176 забітымі і 65 параненымі[26]. Царскія ўлады прыводзілі іншыя звесткі. Пружанскі павятовы ваенны начальнік ў данясенні камандуючыму войскамі ў Гродзенскай губерні ўказваў, што праследаваць паўстанцаў без ведання мясцовасці немагчыма: “2 мая. Справа пры карчме Міхалін, паблізу ад мястэчка Сялец Пружанскага павета. 112 чалавек Рэвельскага пяхотнага палка і 20 казакаў пад камандаваннем штабс-капітана Еўдакімава. Забіта 5, паранена 23. Шайка дасягала да 800 чалавек, пад кіраўніцтвам Улодака. Забіта 50. ...2 мая. Там жа 80 чалавек стралковага Рэвельскага пяхотнага палка і 40 казакаў пад камандаю есаула Яўстратава. Забіта 5, параненых 7. Шайка там жа. Страты 50 забітых і 9 параненых”[27].

Пасля Міхаліна Стравінскі перайшоў у лес Вялкі Вугал, куды выйшаў С. Акінчыц, а 17 (5) мая – А. Лянкевіч (Ляндэр) з гродзенскім аддзелам. У канцы мая 1863 г. яны рушылі на Парахоўню, дзе папоўніліся групай Ф. Улодака, які, не злучыўшыся з кобрынскім атрадам Р. Траўгута, 24 (12) мая напаў на Бярозаўскую заставу, дзе знішчыў шлагбаум, мост, забраў грошы, дакументы, затрымаў абоз[28]. Пад Парахоўняй адбылося канчатковае фарміраванне пружанскага атрада Ф. Улодака, агульная колькасць якога дасягнула да 140 чалавек[29].

У канцы мая аб’яднаны атрад пад кіраўніцтвам А. Лянкевіча праз Новы Двор і лесічоўку Цемлева выйшаў да калоніі Папялева і аколіцы Піняжкі, а адтуль – пад Савіцкія корчмы каля в. Котра. Атрымаўшы навіну, што маскоўцы ідуць з Пружан і Шарашова, паўстанцы рушылі да заставы Людвінава (на скрыжаванні дарог ад Новага Двара і Навасёлак да Шарашова). 28 (16) мая сутычкі з рускімі адбыліся каля Людвінава, Савіцкіх корчмаў і в. Котра[30]. 30 (18) мая Лянкевіч атрымаў просьбу аб дапамозе ад Траўгута і слонімскага атрада Ф. Юндзіла і рушыў насустрач ім. Аднак дапамагчы Траўгуту ён не паспеў, а з Юндзілам злучыўся 1 чэрвеня (20 мая)[31]. Паўстанцкае войска з 5 аддзелаў (каля 800 чал.) на чале з А. Лянкевічам удзельнічала ў самай буйной бітве паўстання, якая адбылася 3 чэрвеня (22 мая) 1863 г. пад Мілавідамі (сёння – Баранавіцкі р-н).

Вялікай актыўнасцю вызначаўся атрад В. Урублеўскага, які, з’яўляючыся загадчыкам Сакольскай пісарска-егерскай школы, у красавіку 1863 г. стварыў аддзел з вучняў і аховы Белавевежскай пушчы. Гэты атрад апынуўся на Пружаншчыне летам. 8 чэрвеня (27 мая) праз Новы Двор ён з’явіўся ў Ружанскай пушчы і накіраваўся да в. Лыскава. Так як там знаходзіліся рускія, партызаны спыніліся ў Бярозавым Балоце. Бітва паміж імі абылася пры пераправе праз р. Церцеж (Сцерцеж) ва ўрочышчы Пагарэлае. Удзельнік бітвы Арамовіч пісаў: “Напад быў раптоўны. Палкоўнік Духінскі, які застаўся ззаду..., быў адрэзаны казакамі ад калоны. Камандаванне ... пераняў шэф Урублеўскі. Мясцовасць была лясная, сярод яе цек Сцерцеж, а паралельна рацэ ішла даліна з гольска-ружанскай дарогай. Трохі наўскасяк абедзьве лініі працінала прасека. Калі маскалі ад дарогі рушылі па ёй у бок ракі, Урублеўскі раставіў дзве роты ў гушчарах перад ракой: роту Хувальда справа ад ракі, а Завістоўскага – злева. Рота

---

[25] Мемуары доктара Аляксандра Акінчыца ў перакладзе Кшыштафа Мінейкі

[26] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 29.

[27] Чарапенька, В. Паўстанне Каліноўскага // Матэрыялы факультатыву “Мая пружанская зямліца”.

[28] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пружанскага раена. – Мн., 1992. – С. 28.

[29] Пракаповіч, Н. Хроніка паўстання: вясна 1863г. // Раённыя будні. – 2013. – 10 красавіка. – С. 5.

[30] Zielinski, S. Spis chronologiczny i alfabetyczny bitew i potyczek 1863-1864. – Krakow, 1913. – S. 4.

[31] Зайка, А. Францішак Юндзіл – нескораны паўстанец // Рэха Берасцейшчыны. – 2008. - № 1. – С. 4.

Толкіна і касінеры сталі за Сцерцежам у рэзерве”[32]. У час бітвы пазіцыі тры разы пераходзілі з рук у рукі. Паўстанцы адыйшлі, забраўшы параненых. Але маёр Э. фон Крэмер лічыў пераможцам сябе і ў рапарце “Аб адшуканні паўстанцкіх атрадаў і бітвах з імі” пісаў генералу З. Манюкіну: “...Мы пачалі рабіць безупыннае наступленне... Не бачачы ніякай карысці праследаваць частку разбітай шайкі, я палічыў патрэбным даць адпачынак, прывесці ў парадак свой атрад. Сабраўшы роты, ішлі 14 верст ў мястэчка Ружаны, дзе заначаваў і з цырымоніяй аддаў зямлі забітых ніжніх чыноў...”[33]. Крэмер сцвярджаў, што разбіў атрад у 700 пешых і 40 конных, загінула “127 мяцежнікаў, ...сярод забітых – вайсковы лекар Каліноўскі”[34] (маецца на ўвазе Я. Каліноўскі, які ў 1866 г. жыў у Парыжы[35]). Арамовіч называе іншыя лічбы: у паўстанцаў 13 забітых, 8 параненых, у непрыяцеля – 4 афіцэраў і 130 салдат, якіх пахавалі на беразе ракі[36]. Такім чынам, атрад Урублеўскага не быў разбіты, далейшым месцам яго дыслакацці стаў лес каля в. Астравок. Загадкавай з’яўляецца бітва каля в. Ласасін. Упамінанне аб ёй ёсць у расійскіх крыніцах (рапарт Крэмера). Ва ўспамінах паўстанцаў ні назвы вёскі, ні даты 4 чэрвеня (24 мая) няма (І. Арамовіч, А. Акінчыц, С. Зялінскі, Ю. Бялыня-Халадзецкі). Хутчэй за ўсе, Церцежская і Ласасінская бітвы – адна і тая ж падзея, так як іх апісанні ў розных крыніцах амаль супадаюць. Факт магчымай блытаніны з датамі і геаграфіяй бітваў прызнавалі ўдзельнікі паўстання. Ва ўспамінах Ю. Бялыні-Халадзецкага ўказана, што назвы маглі розніцца ў дакументах, так як яны ў свой час даваліся прыкладна, разам з асноўнай пазеяй пералічваліся месцы сутычак з рускімі пры адступленні ад асноўнага тэатру баёў[37]. Тое ж тычыцца дат.

З-пад Церцежа паўстанцы пайшлі ў бок Ружан, патрапіўшы 10 чэрвеня на рускіх (урочышча Папялярня)[38]. 12 чэрвеня паміж Астраўком і Шчытнам каля Рэпішча да Урублеўскага далучыліся Стравінскі і Лянкевіч. 9 чэрвеня (28 мая) адбыўся бой каля Каралеўскага Маста, дзе атрад Кярсноўскага адбіў тры атакі[39]. 13 чэрвеня аб’яднаныя сілы інспектавалі К. Каліноўскі і А. Гафмейсцер.

16 (4) чэрвеня атрад К. Кабылінскага з 56 чалавек ўвайшоў у Ружаны[40]. Арамовіч сведчыць: “Ягоная (Кабылінскага) выправа ў Ружаны ўдалася, бо там ён заспеў 47 інвалідаў, якія пасля стрэлаў вартавога і падыходу нашых уцяклі на гарышча, выкідаючы ў вокны карабіны. Трое з іх супраціўляліся, але, параненыя, здаліся. У іх забралі 23 карабіны, 2 дубальтоўкі і 2 палашы”[41]. Па дарозе назад у лесе Вялікі Вугал аддзел высачылі атрады падпалкоўніка Блюменталя і маёра Скарабагатава, якія, рухаючыся за ім, выйшлі да паўстанцкага лагера каля в.Лыскава, але былі разбіты[42]. Урублеўскі асабліва ўзнагародзіў байцоў: наламаў галінак каліны і раздаў іх. Кіраўніцтва выступленнем пісала ў Варшаву: “...На гэтых днях у ваколіцах Лыскава ... народныя войскі мелі сутычку са значнымі сіламі царскіх войск. Наш атрад выйшаў пераможцам. Касінеры, адны сяляне, ахопленыя рыцарскім запалам, амаль што поўнасцю разграмілі маскалёў”[43].

---

[32] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 25.

[33] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пружанскага раена. – Мн., 1992. – С. 28.

[34] Там жа. – С. 28.

[35] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 25.

[36] Там жа. – С. 25.

[37] Księga pamiątkowa opracowana staraniem komitetu obywatelskiego w czterdziestą rocznicę powstania r. 1863 – 1864 przez Józefa Białynię Chołodzeckiego. – Lwów, 1904. – S. 56.

[38] Чаропка, В. Рацар свабоды. Валерый Урублеўскі // Беларускі гістарычны часопіс. – 2005. – №5. – С. 45.

[39] Zdański, K. Przyczynki do dziejòw powiatu Brzesko-Litewskiego i ziem nim obętych. – Warszawa, 1936. – S. 80

[40] Zielinski, S. Spis chronologiczny i alfabetyczny bitew i potyczek 1863-1864. – Krakow, 1913. – S. 5.

[41] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 34.

[42] Чаропка, В. Узгад. сач. – С. 45.

[43] Там жа. – С. 45.

Потым атрад перамясціўся ў Белавежскую пушчу і праз балота "Гароды Гедыміна" трапіў да Папялева[44]. Арамовіч піша: "Згаладалыя і змучаныя мы накупілі ў папаялеўскай калоніі правіянту і заснулі ў лесе. ... Мы падзялілі атрад на чатыры часткі. ... Вашкевіч атрымаў 60 чалавек для дзеянняў у Бельскім павеце, Толкін – 60 ... на мяжы Сакольскага павета, Сасулічу далі 120 чалавек для дзеянняў на поўдні ... і Стравінскаму 120 ... на поўначы Ваўкавыскага павета... Духінскі і Урублеўскі са Стравінскім перайшлі праз раку Нараў каля Борак Пружанскіх да Масцішча"[45].

Сітуацыю ў Пружанскім павеце характарызуе рапарт Крэмера ад 26 чэрвеня 1863 г.: "У кароткі час я ўпэўніўся, што з ліку ... чыноўнікаў г.Пружаны, няма ніводнага надзейнага чалавека, які б ... не прымаў удзелу ў мяцежы, да такой ступені ў горадзе і павеце пасяліўся беспарадак, які быў дапушчаны праз слабое кіраванне. Цяжка будзе аднавіць парадак, ... калі ўсе чыноўнікі не будуць заменены іншымі... Уся іх маса злітая ў агульнае праз розныя роднасныя сувязі ці пад пагрозамі мяцежнікаў, з якімі яны свабодна маюць зносіны да сённяшняга часу. Усе служачыя асобы з'яўляюцца ўдзельнікамі мяцежных змоў, узброеных бандаў, але за недахопам юрыдычных доказаў, застаюцца на сваіх пасадах..."[46].

Для лакалізацыі паўстанцаў з лета 1863 г. улады сталі ствараць сялянска-мяшчанскую міліцыю. З рапарта Крэмера ад 20 верасня 1863 г. вядома, што ў Пружанскім павеце і Белавежскай пушчы каравулы знаходзіліся ў вёсках Труханавічы, Смаляніца, Аранчыцы, Клетна, Гарадзечна, Піняжкі, Белы Лясок, Каралеўскі Мост, у Шарашове і інш[47]. У Ружанскай пушчы зрабілі "Паляцкую трыбу" – прасеку ў лесе, дзе стаялі расійскія каравулы[48].

8 жніўня атрад І. Хадакоўскага з 50 чалавек з Пашкоўскіх Астраўкоў рушыў на Поразава. Яго шлях ляжаў праз в. Баяры, дзе паўстанцы трапілі на пасты расійскіх войск і пасля бою адыйшлі. 9 жніўня адбылася бітва каля Пашоўскіх Астраўкоў[49]. Адыход атрада прыкрываў Урублеўскі з 40 кобрынскімі стралкамі. Частка аддзелу на чале са Стравінскім праз Боркі дабралася да р. Нарва і спынілася пад в. Галены, куды потым выйшаў Урублеўскі. 15 жніўня яны перамясціліся пад в. Глыбокі Кут. У гэты час тактыка паўстанцаў змянілася: атрады разбіліся на групы па 20 – 30 чалавек. Для ўздыму партызанкі ў Шарашова адправілі "Марэля", а Белавежскую пушчу – "Галабурду" (Я. Генюша). Арамовіч пісаў: "Марэль хутка вярнуўся, пасля таго як спаліў у Шарашове дом яўрэя, абвінавачанага ў шпіёнстве і пакаранага разам з трыма іншымі асобамі павешаннем"[50]. 16 (3) ліпеня інсургенты павесілі настаяцеля царквы ў в. Котра Р. Рапацкага і царкоўнага старасту К. Шведа "за здрадніцтва і шпіянаж на карысць рускіх[51]. Некалькіх чалавек знішчылі ў в. Лыскава. Такія дзеянні не дазваляюць характарызаваць паўстанне толькі са станоўчага боку і пацвярджаюць факт рознага стаўлення мясцовага насельніцтва да выступлення.

Каля Глыбокага Куту партызаны знаходзіліся два тыдні. 30 жніўня тут з'явіліся рускія на чале з маёрам Шульжэнкам. Арамовіч не называе статы, але ўспамінае, што селянін апавядаў, як казак, праязджаючы праз вёску, крыкнуў: "Мошенники! Ничего не сказали, а наших сотню убили!"[52]. Паводле Шульжэнкі, у рускіх страт не было, мяцежнікі складалі атрад у 300 чалавек (рэальна каля 180), з якіх 31 загінуў[53]. Аддзелы былі разбіты таксама у Галенах і Папялеве.

---

[44] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 39.
[45] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 39.
[46] НГАБ у Гродна. – Ф.1. – Воп. 34. – Спр. 533. – Арк. 1 – 1 адв.
[47] Музей-сядзіба "Пружанскі палацык" // Калекцыя "Дакументы". – НВ – 000074 – С. 1 – 5.
[48] Rozanow, M. Powiat Prużański (szkic historyczny). – Prużana, 1935. – S. 24.
[49] Zielinski, S. Spis chronologiczny i alfabetyczny bitew i potyczek 1863-1864. - Krakow. – 1913 – S. 8.
[50] Арамовіч, І. Узгад сач. – С. 52.
[51] Сядова, І. Загадка Котранскай царквы // Раённыя будні. – 2013. – 20 сакавіка. – С. 5.
[52] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 56.
[53] Чаропка, В. Узгад. сач. – С. 46.

Да восені 1863 г. асноўныя сілы паўстанцаў былі разбіты ці распусціліся. Камандуючы войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-маёр Ганецкі 2 верасня 1863 г. пісаў ў Вільню: "...у Пружанскім і Ваўкавыскім паветах блукалі апошнія чатыры шайкі: Улодака, Млотака-Стравінскага, Юндзіла і Урублеўскага, які лічыўся кіраўніком усіх іх"[54].

З-пад Глыбокага Куту Урублеўскі перайшоў на балотны востраў пад в. Чадзель, які "вылучалі цудоўныя дубы"[55] (магчыма, урочышча Нікар). Правіянт атрад браў з мясцовага фальварка. Потым ён перабраўся ў Свіслацкую пушчу[56], дзе раздзяліўся. Урублеўскі перавёў сілы пад Боркі ў Белавежскую пушчу і праз Папялева і Піняжкі рушыў на Шарашова. Але ў мястэчку былі рускія і атрад адступіў. "...Пясчаны гасцінец цягнуўся бясконца. Мы цярпелі ад голаду і смагі. Некаторыя, аслабленыя, падалі. Перад світанкам абмінулі Гарадзечна і спыніліся ў пушчы. На яе ўскрайку мы адпачылі ў спадзеве на тое, што ўдзень маскалі не ўбачаць нашых слядоў на пяску"[57]. Так апісваў адступленне Арамовіч. 12 верасня атрад выйшаў у Кобрынскія лясы, а потым – у Польшчу.

Як адзначалася, стаўленне да паўстання насельніцтва Пружаншчыны было розным. А. Акічыц сцвярджаў, што "сярод нас было многа сялян, якія былі ўзброены самаробнай зброяй"[58], падчас следства ў астрозе "сядзела уся шляхта павета"[59] (М. Скачыньскі з Галенаў, Л. Крашэўскі з Доўгага, М. Біранбаум з Пружан, Шусціцкі з Шарашова, У. Ляшкевіч з Палоннага Груду, Ю. Вішэўскі[60], А. Віславух, С. Астрамека[61] і інш).

З лета 1863 г. у Пружанах працавала спецыяльная вайсковая камісія па справах "мяцежнікаў". Яна змяшчалася ў доме Кярсноўскага па вул. Новасялецкай[62]. Каб трымаць арыштаваных, акрамя турмы задзейнічалі тры прыватныя дамы[63].

Дапамогу адміністрацыі ў выкрыцці паўстанцаў аказвалі як свядомыя прыхільнікі расійскай ўлады, так і тыя, хто праследаваў меркантыльныя інтарэсы. 4 лістапада 1863 г. начальніку Гродзенскай губерні быў адпраўлены рапарт аб дзейнасці пружанскага яўрэя Ш. Кагановіча, які прадставіў павятоваму начальніку Крэмеру спісы ўдзельнікаў выступлення. У дакуменце гаварылася, што, калі Кагановічу будзе выдадзена ўзнагарода і "оказано должное содействие и защита от преследования злоумышленников, то он может обнаружить все тайные действия мятежников"[64]. У даносе фігуравалі прозвішчы гараджан Біранбаума, Блінскага, Крыцноўскага, Шмуля[65]. Па заяве селяніна І. Глушко арыштавалі шляхціца Ф. Дзяконскі з маёнтка Крыніца[66] (у жніўні 1864 г. вызвалены ў Гродна[67]). У турме апынуўся павятовы ўрач А. Акінчыц "за бытность в мятежной шайке и неявку к властям по возвращению из оной"[68]. За ўдзел у паўстанні пакаралі шляхціцаў Ф. Ізбіцкага, У. Казябродскага, Э.

---

[54] Суднік, С.Валер Антоні Урублеўскі ў паўстанні 1863 – 64 гг. // Лідскі летапісец. – 2006. - № 36.

[55] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 56.

[56] Zdański, K. Przyczynki do dziejòw powiatu Brzesko-Litewskiego i ziem nim obętych. – Warszawa, 1936. – S. 80.

[57] Арамовіч, І. Узгад. сач. – С. 58.

[58] Мемуары доктара Аляксандра Акінчыца ў перакладзе Кшыштафа Мінейкі

[59] Пракаповіч, Н. Паўстанцкі лекар // Раённыя будні. – 2013. – 13 лютага. – С. 5.

[60] Rozanow, M. Powiat Prużański (szkic historyczny). – Prużana, 1935. – S. 25.

[61] Мемуары доктара Аляксандра Акінчыца ў перакладзе Кшыштафа Мінейкі

[62] Rozanow, M. Powiat Prużański (szkic historyczny). – Prużana, 1935. – S. 25.

[63] Пракаповіч, Н. Імя ў паўстанні – Аляксандр Акінчыц // Краязнаўчая газета. – 2013. - №8. – С. 4.

[64] НГАБ у Гродна. Ф.1. – Воп. 34. – Спр. 1081. – Арк. 1 – 1 адв.

[65] Музей-сядзіба "Пружанскі палацык" // Калекцыя "Дакументы". – НВ – 000108 – С. 1 – 2.

[66] Папко, В. Рэха паўстання ў весцы Крыніца // Раённыя будні. – 2008. – 17 верасня. – С.5.

[67] Папко, В. Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX – XX стст. – Брэст, 2009. – С. 47.

[68] Карповіч, А. Акінчыцы: імкненне да свабоды // Рэха Берасцейшчыны. – 2008. - №1. – С. 5.

Корфа, Б. Крываблоцкага, А. Ількоўскага, С. Пацэвіча, А. Быхаўца, С. Дзянгілеўскага, С. Бранта[69] і інш. Страціў маёнтак Стараволя бацька пейзажыста С. Жукоўскага Юльян[70]. З'ехалі за мяжу В. Швыкоўскі, Г. Дашкевіч, І. дэ Ларзак і інш. Сярод пакараных былі сяляне: І. Лукоўскі, А. і М. Рудзьманы, В. Сяргейчык, А. Бялевіч[71] і інш. У Сібіры апынуўся пружанскі ксёндз Гансеўскі, які ў хаваў у касцёле зброю[72].

Разам з сур'ёзнымі разбіральніцтвамі па справах паўстанцаў,назіраліся злоўжыванні і перагібы, што было звязана з шырокімі паўнамоцтвамі павятовых начальнікаў. Былі зафіксаваны выпадкі самастойнага вынясення прысудаў, прыняцця рашэнняў аб закрыцці касцёлаў і г.д. Напрыклад, пружанскі начальнік Эліс патрабаваў выслаць двараніна У. Юнга за напісанне беспадстаўнага прашэння, а маёр Бубноў пасля таго, як нявінаватасць некаторых асоб была даказана гродзенскай следчай камісіяй, прасіў не вяртаць іх ў Пружаны, а выслаць з сем'ямі "бо я лічу іх шкоднымі"[73]. Спрэчнай з'яўляецца расправа над жыхарамі аколіцы Піняжкі, якая была ліквідавана 8 верасня 1863 г. па ініцыятыве Крэмера "за відавочнае спачуванне мецяжу"[74]. Аколіца мала чым адрозніваліся ад іншых населеных пунктаў, дзе спыняліся паўстанцы. Нават праз некаторы час яе жыхары не маглі зразумець, што стала прычынай іх высылкі. У звароце арыштаваныя піняжкаўцы прасілі ўлады правесці дадатковае следства "зусім не ведаючы прычын і не адчуваючы сябе ў чым-небудзь вінаватымі"[75].

Такім чынам, з другой паловы лета паўстанцкі рух на Пружаншчыне пайшоў на спад, апошнія атрады былі ліквідаваны восенню1863 г., а ўдзельнікі і спачувальнікі былі пакараны.

---

[69] Сядова, І. Вуліцы майго дзяцінства. Чырвонаармейская. Частка 1 // Раённыя будні. – 2010. – 5 мая. – С. 5.

[70] Пракаповіч, Н. Пейзажыст Станіслаў Жукоўскі – ураджэнец Пружаншчыны // Рэха Берасцейшчыны. – 2009. - №1. – С. 9.

[71] Зайка, А. За зямлю, за волю. Постаці паўстання 1863 – 1864 гг. у нашым краі // Рэха Берасцейшчыны. – 2008. - №1. – С. 6.

[72] Пракаповіч, Н. Музейныя экспанаты расказваюць: Да 130-годдзя з пачатку будаўніцтва касцела ў Пружанах // Краязнаўчая газета. – 2012. – 33. – С. 6.

[73] Радзюк, А. Рэпрэсіўная палітыка царызму на беларускіх землях у 1863 – 1864 гг. // ARCHE. – 2010. – №12. – С. 147.

[74] Радзюк, А. Зьнішчэнне шляхецкіх ваколіцаў на Гарадзеншчыне у 1863 – 1864 гг. // ARCHE. – 2010. – №12. – С. 156.

[75] Там жа. – С. 156.

*М. Носко*

**РЕПРЕССИИ ПОВСТАНЦЕВ 1863 – 1864 ГГ. В ГРОДНЕНСКОЙ ГУБЕРНИИ**

В историографии советского периода сложились своеобразные штампы, выполнявшие прежде всего идеологическую роль. В большинстве случаев выступления против царской власти преподносились как прогрессивные и народные, а действия русского правительства расценивались как реакционные и негативные. В подобном свете рассматривалась история восстания 1863 – 1864 гг. Сложившиеся стереотипы во взглядах на это событие перенесены во многие современные издания. По мнению историка Я.И. Трещенка, «история польского январского восстания 1863 г. на белорусских землях принадлежит к числу наиболее мифологизированных, тенденциозно искаженных событий белорусского прошлого». «Хотя это восстание происходило исторически сравнительно недавно, уже в эпоху массовой прессы, электрического телеграфа и железных дорог, трудно назвать еще одно такое событие, при освящении которого так откровенно попирались бы бесспорные факты и подменялись грубыми бездоказательными домыслами»[1]. К их числу относится мнение о том, что восстание 1863 – 1864 гг. является национально-освободительным движением белорусского народа против российского владычества, а его руководители – национальные белорусские герои. В тоже время виленский генерал-губернатор М.Н. Муравьев, подавивший восстание, выступает в роли «вешателя», а русские солдаты, защищавшие мирных жителей от произвола мятежников, – «карателей». В школьных учебниках и исторических исследованиях описывается «муравьевский террор» по отношению к повстанцам, называются цифры сосланных в Сибирь, на умалчивается количество замученных повстанцами мирных жителях. Между тем, расправы над православным духовенством и крестьянством носили массовый характер.

В силу определенных причин невозможно перечислить имена всех людей, пострадавших от рук мятежников в 1863 г. Обратим внимание на наиболее трагические страницы событий, происходивших на территории Гродненской губернии, в состав которой входила Брестчина.

Одним из первых мучеников этого периода стал священник Константин Прокопович – настоятель православного храма г. Суража Белостокского уезда Гродненской губернии. За месяц до трагических событий отец Константин получил предупреждение об опасности. Причиной ненависти к нему со стороны повстанцев послужил следующий случай. За неделю перед праздником Святой Троицы, действующий возле Суража повстанческий отряд был разбит ротой русских солдат. После боя капитан и несколько офицеров были приняты и накормлены в доме отца Константина. Этого факта было достаточно для того, чтобы местная шляхта возненавидела православного священника. В ночь с 22 на 23 мая 1863 г. повстанцы через разбитое окно проникли в дом и стали искать священника, который успел спрятаться в конюшне. Тяжело избив жену, дочь и 16-летнего сына Льва, ученика Литовской духовной семинарии, над которым издевались, грозя повесить, повстанцам удалось отыскать и священника. Вытащив на двор, они стали его мучить: рвали волосы, нанесли более ста ударов ружьями и кольями, топтали ногами и выстрелом ранили в бок. Едва живой, окровавленнный и истерзанный мученик был повешен возле дома. Перед смертью сотец Константин просил дать ему возможность помолиться, на что повстанцы ответили: «Какой твой Бог? Вы ни что иное как собаки, ваша вера тоже собачья». Завершив злодеяние, мятежники стали выкрикивать: «Теперь у нас не будет

[1] Трещенок, Я.И. История Беларуси: В 2 ч. Ч. 1. Досоветский период: Учебное пособие. – Могилев: МГУ им. А.А.Кулешова, 2004. – С. 216.

схизматиков; теперь у нас настоящая Польша». По воспоминаниям сына Льва в случившемся несчастье активное участие принял католический ксендз Моравский[2].

Трагический случай произошел со священником Романом Ропацким, настоятелем православного храма с. Котра Пружанского уезда. 3 июля 1863 г. отец Роман, возвращаясь после сенокоса домой, был схвачен мятежниками и подвергся издевательствам. Перед смертью повстанцы предложили ему выпить водки и закурить. Священник отверг это предложение и был повешен. Три дня висело тело мученика, так как повстанцы запретили его хоронить. Прибывшие соседние священники смогли совершить погребение отца Романа Ропацкого[3].

25 апреля 1863 г. повстанцы явились к священнику Житлинской церкви Слонимского уезда Николаю Ступницкому. Сначала его ограбили его, а затем, поиздевавшись, обрили бороду. Подобное насилие было совершено над священником Споровской церкви Кобринского уезда Адамом Рожковским[4].

27 апреля в с. Деревная Кобринского уезда повстанцы схватили священника Феодора Страшкевича, который отказался дать им лошадей, связали и избили его. Затем, не дав попрощаться с семьей, увезли. По дороге, угрожая расстрелом или повешением, склоняли его присоединиться к повстанческому отряду, однако в соседнем селении отпустили. От пережитых травм и моральных потрясений отец Феодор тяжело заболел и с трудом мог исполнять свои пастырские обязанности[5].

Немало пришлось претерпеть священнику м. Свислочь Волковысского уезда Александру Гомолицкому. За несколько недель до прихода мятежников на домах православных жителей появились изображения виселиц со списком лиц, которые будут повешены. 17 мая отряд из 36 человек появился в Свислочи. Священника Александра вывели на площадь, где предъявили обвинение в распространении московской пропаганды, угрожали повесить. Затем повстанцы забрали у него лошадь и ушли. Второй раз – 21 мая – повстанцы окружили дом священника, а затем, ворвавшись внутрь, устроили погром. Они вытащили отца Александра на площадь, где зачитали обвинение. После этого случая священник вынужден был скрываться. Однако повстанцем удалось отыскать его в третий раз для исполнения смертного приговора. Несмотря на просьбы жителей местечка о помиловании, поляки оставались непреклонны. Когда все было приготовлено к повешению, нищий поднял ложную тревогу криками: «Москали идут!». Повстанцы скрылись, жизнь священника Александра Гомолицкого была спасена[6].

28 мая в с. Великорита повстанцы разыскивали священника Кухановича, чтобы его повесить. Спасло священника то, что он успел спрятаться в церкви, закрывшись изнутри. Ночью 29 мая 50 конных повстанцев напали на священника Гинтовта в м. Дрогичин Бельского уезда. Его вытащили за волосы на улицу, требуя сумму в 1000 рублей, после чего, стараясь напугать, стреляли холостыми патронами из оружия, а саблей нанесли две раны в голову[7].

Ночью 29 июня мятежники напали на м. Домачево Брестского уезда и занялись грабежом. Обнаружив священника Александра Дружиловского, который с семьей прятался в огороде, стали издеваться над ним. От побоев отец Александр пролечился целый месяц[8].

---

[2] Литовские Епархиальные Ведомости. – 1863. – № 11. – С. 379 – 381.

[3] Памяти графа М.Н.Муравьева, усмирителя польского мятежа в 1863 г. и восстановителя русской народности и Православной Церкви в Северо-Западном крае России. – Вильно, 1898. – С. 33 – 34.

[4] Утрата, С., диакон. Восстание 1863-1864 гг. и церковная жизнь в Белоруссии (Кандидат. дис.). – Жировичи, 2000. – С. 64.

[5] Литовские Епархиальные Ведомости. – 1863. – № 10. – С. 331 – 332.

[6] Утрата, С., диакон. Восстание 1863-1864 гг. и церковная жизнь в Белоруссии (Кандидат. дис.). – Жировичи, 2000. – С. 66.

[7] Литовские Епархиальные Ведомости. – 1863. – № 12. – С. 412 – 417.

[8] Литовские Епархиальные Ведомости. – 1863. – № 17. – С. 655 – 657.

Не пощадили повстанцы пожилого протоиерея Иосифа Снитко. 6 июля конный отряд напал в м. Влодава Брестского уезда. Мятежники разграбили дом священника, забрали ценные вещи и деньги. С награбленным имуществом они скрылись за р.Буг[9].

Помимо священников от рук повстанцев пострадало много крестьян и гражданских служащих, которые не поддержали восстание. Как известно, в состав отрядов в основном входила польская шляхта. По данным В.М. Зайцева, в Минской губернии среди повстанцев только 15,1% составляли крестьяне и мещане, в Могилевской – 15,8 %, в Витебской – 13,3 %. В Гродненской губернии это соотношение было выше – 34,8 %[10]. Следует отметить, что крестьянское сословие в отрядах в основном было представлено дворовой прислугой, лакеями и обедневшей шляхтой, внесенной в разряд государственных крестьян. Белорусское крестьянство в большинстве не поддержало восстания, осознавая, что повстанцы преследуют, прежде всего, сословно-корысные цели польской шляхты, мечтавшей о возрождении привилегий и вольностей, утерянных с распадом Речи Посполитой. С помощью кровавого террора повстанцы стремились привлечь население белорусских губерний к участию в восстании. С этой целью они создавали небольшие отряды от 5 до 15 человек. В их состав входили «жандармы-вешатели», отличавшиеся особой жестокостью, которые проводили грабежи и расправы над мирными жителями, в том числе женщинами и детьми. Например, жандарм Повлинский повесил беременную женщину, а ее четырехлетнего сына прибил гвоздями к дереву. Всего на его совести насчитывалось 30 замученных людей. А жандарм Коронин повесил 29 крестьян, в числе которых было 4 женщины[11]. Особой жестокостью отличался отряд помещика Кобринского уезда Нарбута, который угрожал крестьянам повешением, если они не поддержат повстанцев, а многих крестьян Брестского уезда наказывал плетьми[12]. Были случаи насильственного захвата крестьян во время полевых работ для пополнения отрядов, при этом тех, кто проявлял сопротивление, приговаривали к смерти[13].

Крестьянин д. Клепачи Слонимского уезда Матфей Макаревич, отрицательно отзывавшийся о восстании, был ненавидим повстанцами. 1 июля 1863 г. его схватили и, не дав помолится Богу, повесили напротив церкви на воротах священнической усадьбы[14].

Крестьянин с. Котра Пружанского уезда Константин Швед 3 июля был повешен вместе со священником Р.Ропацким. Причиной смерти послужили смелые слова осуждения польского восстания[15]. В м. Шерешево 20 повстанцев из отряда Рогинского под предводительством ксендза отняли у местных жителей несколько подвод с провизией, забрали деньги из волосного правления, повесили троих крестьян, двух евреев и сожгли пивной завод[16].

Учитель Лысковского народного училища Волковысского уезда Фридрих Вишгольц проводил обучение детей на русском языке, что вызывало недовольство повстанцев. Не подчинившись их требованию снять царские портреты в училище и перейти на польский язык, он был убит помещиком Засуличем. Тело мученика три дня пролежало на базарной площади, так как никто не решался нарушить волю

---

[9] Памяти графа М.Н.Муравьева, усмирителя польского мятежа в 1863 г. и восстановителя русской народности и Православной Церкви в Северо-Западном крае России. – С. 23 – 24.

[10] Зайцев, В.М. Социально-сословный состав участников восстания 1863 г. (Опыт статистического анализа). – М., 1973. – С. 145.

[11] Петербург и Варшава // Вестник Западной России. – 1864. – № 7. – С. 123 – 124.

[12] Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863 - 1864 гг. в пределах Северо-Западного края. – Ч. 2. – Вильно, 1915. – С. 399.

[13] НИАБ в г.Гродно. – Ф. 296. – Оп. 1. – Д. 141. – С. 1 – 1 об.

[14] Епископ Иосиф. Гродненский православный церковный календарь или православие в Брестско-Гродненской земле в конце XIX века. Изд.2-ое. Т.1. – Воронеж, 1899. – С. 69.

[15] Гродненские Епархиальные Ведомости. – 1909. – № 27. – С. 282.

[16] Корнилов, И.П. Воспоминания о польском мятеже 1863 года в Северо-Западном крае. – СПб., 1900. – С. 39.

мятежников, запретивших его хоронить. На четвертый день вдова покойного, испросив разрешение у местного помещика Здислава Быховца, похоронила тело мужа на поле за местечком. При этом Быховец сказал вдове: «Закопай там, где псы воют»[17]. Крестьянин м. Лысково Игнатий Кулеша, служивший при винокуренном заводе имения Харовщина, в мае 1863 г. был повешен повстанцами в лесу. Кулеша обозвал управляющего, который являлся поляком по национальности, глупым мятежником. Этого оказалось достаточно для смертного приговора[18]. В м. Новый Двор Волковысского уезда 4 июля повстанцы планировали казнить отставного солдата Иосифа Раткевича, но его не оказалось дома. Тогда они повесили его жену Клару[19]. Подоросский волосной писарь Волковысского уезда Альбин Волочкович 16 августа был схвачен повстанцами и уведен в д. Даликевичи, где после истязаний его повесили в саду крестьянина Ивана Новицкого. Рядом с Волочковичем повесили и Новицкого[20]. Житель м. Россь Волковысского уезда Пётр Кузьмич, не согласившийся вступить в повстанческий отряд, 17 августа был повешен[21].

Крестянин с. Новоселки Кобринского уезда Григорий Полетило, исполняя обязанности волосного старшины, открыто выступал против восстания и призывал крестьян не бояться мятежников и оставаться верными русскому правительству. Григорий сообщил в Кобрин военному начальству о действиях местного повстанческого отряда. Через чиновников-поляков это стало известно мятежникам. 30 мая, когда Г.Полетило возвращался домой, его схватили и повесили. Спустя три дня тело мученика похоронили на сельском кладбище[22]. От рук убийц пострадали жители д. Гошево Кобринского уезда Михаил Луцко и Алексей Михнюк, которых 19 сентября повесили[23]. Крестьянскую девушку, гнавшую на пастбище волов, изнасиловали. Потом двое пойманных преступников были казнены в г. Кобрин[24].

Крестьянин д. Бродятина Брестского уезда Фома Прокопчук 17 мая был повешен повстанцами на дереве[25]. В д. Лишницы Брестского уезда Василий Светюк призывал односельчан не поддаваться на призывы повстанцев. За это 28 мая 1863 г. шесть карателей из отряда Нарбута схватили Василия и, связав, повели в с. Великориту. По дороге его избивали, а когда привели к месту, повесили возле волосного правления. Во время казни один из палачей тянул тело страдальца за ноги вниз. После этого повстанцы схватили волосного старшину Евдокима Хомичука и нанесли ему 400 ударов плетьми, а крестьянам Ивану Светюку и Ивану Хапалюку – по 300. Лившуюся из ран кровь присыпали пеплом, чтобы не мешала продолжать издевательства[26]. Крестьянин д. Подбельск Брестского уезда Иероним Седун, который, являясь сторожем Беловежской пущи в местности Грани, хорошо ориентировался в лесу, знал о расположении повстанческого отряда Рогинского. Это обстоятельство имело трагические последствия. Опасаясь, что Иероним сообщит о местонахождении отряда русским, в ночь с 18 на 19 августа 1863 г. повстанцы повесили его в сарае. Вместе с

---

[17] Гродненские Епархиальные Ведомости. – 1909. – № 27. – С. 284.

[18] Там же. – С. 285.

[19] Гродненские Епархиальные Ведомости. – 1909. – № 29. – С. 298.

[20] Там же. – С. 297.

[21] Там же. – С. 298.

[22] Утрата, С. Восстание 1863-1864 гг. и церковная жизнь в Белоруссии. – С. 70 – 71.

[23] Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863 - 1864 гг. в пределах Северо-Западного края. – Ч. 1. – С. 301 – 302.

[24] Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863 - 1864 гг. в пределах Северо-Западного края. – Ч. 2. – Вильно, 1915. – С. 400.

[25] Утрата, С. Восстание 1863-1864 гг. и церковная жизнь в Белоруссии. – С. 73.

[26] Литовские Епархиальные Ведомости. – 1863. – № 12. – С. 412 – 413.

Следующая сцена рассказа описывает Калиновского в Минске. Он снова печатает прокламации с подписью Яська-гаспадар. Во время работы типографии её находят жандармы. И вот в этом месте у Александровича есть предложение, которое без спектакля вряд ли было кому понятным. Вдруг ни с того, ни с сего, возникает некий генерал Лосев[33]. При самом внимательном прочтении рассказа до этого места нет ни одного упоминания о Лосеве. Кто это такой, непонятно. А в спектакле полковник (а не генерал) Лосев является ближайшим сподвижником Муравьёва. Лосев по отношению событий 1863 г. фигура достаточно значимая. он очень много сделал для поимки многих значимых участников восстания.

Последний сюжет рассказа, связанный с Калиновским, описывает его в тюрьме: «В кандалах российского самодержавия лежит защитник трудящихся Калиновский». В тюрьме Калиновский написал два письма, которые с помощью аппарата смогли прочитать путешественники во времени. Александрович цитирует их, называя одно письмом к «Бацькаўшчыне Беларусі», а другое – к «Беларускаму народу»[34]. Это «Письма из-под виселицы». Однако не в оригинале, а в редакции Ластовского, в которой вставлены слова «белорусы» и «белорусская земелька» вместо «мужыкі» и «Марыся, чарнаброва галубка»[35]. Факт написания Калиновским этих писем известен, поэтому его использовали как учёные, так и деятели искусства и литературы, правда, до определённого времени «Письма из-под виселицы» цитировались не в оригинале, а в редакции Ластовского[36].

Интересным представляется также ситуация на эшафоте: «Зачитали приговор. Калиновский дал наказ народу вести борьбу с барщиной, с царским самовластьем и распрощался с ним»[37]. Т.е. уже на Лукишской площади в присутствии российской администрации Калиновский призывает вести борьбу с «царским самовластьем», и администрация на это никак не реагирует. Хотя по воспоминаниям известно, что даже крик Калиновского «У нас нет дворян, все равны» был пресечён находившимися рядом представителями официальных властей[38].

То, что базой для рассказа Александровича послужил спектакль, сомнений не вызывает. На это обратили внимание сразу после выхода фантастического рассказ. Так, в газете «Савецкая Беларусь» З. Бядуля давал рецензию на номер «Маладняка», в котором был помещён рассказ Александровича. В рецензии сказано: «“Палёт у мінулае” А. Александровича оригинально задуман, но выполнен немного примитивно. Видимо, автору канвой служили не столько исторические материалы о Калиновском, сколько виденная им на сцене пьеса Мировича, который ради эффектности порой отходил от исторической правды. Мы тут автора “Палёту у мінулае” строго судить не будем, потому что овладеть зрело таким сюжетом может только автор с хорошо натренированным пером, а Александрович, если не ошибаемся, имеет всего 18 лет от роду»[39].

Встаёт вопрос, а чем было вызвано такое стремление создать из реального человека некую икону? И почему именно из Калиновского? Если посмотреть на то, какие стихотворения, помимо любовной лирики и описаний природы, были популярны в то время, то окажется, что журналы печатали много стихов о революции, сопротивлении трудящихся угнетателям, т.е. о неких революционных событиях.

---

[33] Александровіч, А. Указ. соч. – С. 50.

[34] Там же. – С. 51.

[35] Там же. – С. 51.

[36] о редактировании Ластовским «Писем из-под виселицы» см. Гронский А.Д. Кастусь Калиновский: конструирование героя // Беларуская думка. – 2008. – № 2. – С. 82 – 87.

[37] Александровіч, А. Указ. соч. – С. 52.

[38] По воспоминаниям А. Мосолова после возгласа Калиновского «полицмейстер покачал ему головой и попросил замолчать». См.: К. Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. – С. 208.

[39] Бядуля, З. Пад сьпеў навальніцы. «Маладняк» № 5. // Савецкая Беларусь. – 1924. – 16-га верасьня, аўторак. – № 214 (1211). – С. 2.

Естественно, революционер не может без террора, иначе он был бы не революционер. А Калиновский после активных мероприятий Муравьёва понял, что «остался единственный способ поддержать повстанческий дух – безжалостный террор в отношении всех трусов и предателей. Правительство Калиновского организует революционный трибунал и отряды кинжальщиков, которые выполняли приказы этого трибунала. И как только перепуганная местная шляхта начала собирать между собой подписи на "всеподданнейший адрес" [...] российскому царю [...] красный трибунал уже наметил свои жертвы»[40]. Революционный террор в то время был неким мерилом «правильности» и казался естественным. Так в полемике того времени, которая возникла относительно поэмы «Босыя на вогнішчы», Д. Жилунович высказался о строчке «Каго зловіш – разарві / Хто ня наш – таго даві» в том духе, что сознательный революционер не может иметь таких лозунгов. На что его оппонент М. Морозовский ответил: «А я скажу, что у т. Жилуновича память короткая. И имел, и может иметь! Когда революции угрожала смертельная опасность от белогвардейщины, то рабочие и крестьянство [...] "босота" [...] благословляла рабочую власть на массовый красный террор и активно помогала им в этом»[41].

Кроме положительного на тот момент образа террориста, которым являлся Калиновский, в его образ были внесены и некоторые коррективы, напрямую связывающие повстанца с советской действительностью. Так, Калиновский у Александровича боролся не за крестьян, а за трудящихся. Он назван именно «защитником трудящихся»[42], под руководством которого повстанцы идут «на защиту трудящихся»[43]. Александрович в этом не одинок, например у И. Цвикевича в описании деятельности Калиновского появляются «восстание трудящихся масс», «классовые враги» и «классовая борьба»[44]. Кроме того, Калиновский принадлежал к «красному» крылу повстанцев, которое иногда конфликтовало с «белым» крылом. Если вспомнить недавно закончившуюся на тот момент гражданскую войну, в которой воевали красные против белых, то акцентирование внимания на конфликтах между «красными» и «белыми» периода 1863 г., тогда образ Калиновского становится ещё более советским.

Таким образом, фантастический рассказ Александровича является данью веяния времени или обычной модой на конкретные образы. В первой половине 1920-х гг. в СССР остро встала проблема мемориализации Октябрьской революции, видимо, поэтому начался и поиск предтеч, которые должны били быть своими для каждой новой советской нации. Причём образ такого предтечи обязательно должен был обладать рядом эталонных характеристик. Если же таких характеристик не хватало, то их просто додумывали, чтобы привести образ реального исторического персонажа в эталонное соответствие с образом «пламенного революционера».

---

[40] Цьвікевіч, І. Кастусь Каліноўскі (к 60-ці годзьзю яго сьмерці). Біографічна-гістарычны нарыс. – С. 13.

[41] Маразоўскі, М. Белы дом только журыцца... (Аб «Босыя на вогнішчы» і аб меншавіцкіх акулярах) // Полымя. Беларуская штомесячная часопіс літаратуры, політыкі, культуры, эканомікі й публіцыстыкі. – 1922. – № 1 (сьнжань). – С. 96.

[42] Александровіч, А. Указ. соч. – С. 51.

[43] Там же. – С. 48.

[44] Цьвікевіч, І. Кастусь Каліноўскі (к 60-ці годзьзю яго сьмерці). Біографічна-гістарычны нарыс. – С. 15.

## ДАДАТАК

## ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ АБ МЕМАРЫЯЛІЗАЦЫІ ПАДЗЕЙ ПАЎСТАННЯ 1863–1864 гг. НА ТЭРЫТОРЫІ КОСАЎСКАГА ПАВЕТА у 1928–1930 гг.

Прыведзеныя ніжэй дакументы выяўлены ў фондзе Брэсцкага акруговага ўпраўлення Саюза стральцоў, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці. Яны перакладзены з польскай мовы на беларускую, суправаджаюцца каментарыямі і публікуюцца ўпершыню. Дакументы ўяўляюць сабой завераныя копіі пратаколаў пасяджэнняў грамадскай камісіі (1928–1929 гг.), якая займалася ўшанаваннем памяці паўстанцаў 1863–1864 гг. на тэрыторыі Касаўскага павета Палескага ваяводства. Таксама змешчаны акты асвячэння памятных крыжоў і помнікаў, пратаколы допытаў і апытанняў відавочнікаў падзей паўстання. Значная частка дакументаў прысвечана абставінам узнікнення помнікаў паўстанцам у ваколіцах мястэчка Косава і вёскі Ласасін. Прыведзеныя ў тэксце ацэначныя сцвярджэнні пра паўстанне, яго кіраўнікоў і ўдзельнікаў адпавядалі тагачаснаму ўзроўню грамадскай думкі, гістарыяграфіі – паўстанне кваліфікавалася выключна польскім. Мерапрыемствы па мемарыялізацыі падзей паўстання актыўна выкарыстоўваліся польскімі ўладамі, грамадскімі арганізацыямі (Саюзам стральцоў у прыватнасці) у агульным рэчышчы паланізацыі заходнебеларускіх зямель. Як сведчыць адзін з прыведзеных пратаколаў пасяджэння камітэта па ўпарадкаванні магіл паўстанцаў ад 10 снежня 1928 г., устаноўка памятных крыжоў, помнікаў набывала "важнае выхаваўча-маральнае значэнне для народа і польскасці тут, на крэсах". Дакументы размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці.

Пратакол № 1

арганізацыйнага пасяджэння, што адбылося 20 верасня 1928 г. у Мерачоўшчыне Касаўскага павета на Палессі ў складзе старшыні Станіслава Рудніцкага – намесніка старасты Касаўскага павета, Алойзы Мораўца – паручніка польскай арміі, і Гераніма Скжыньскага – інспектара гміннага самакіравання Касаўскага павета.

Вышэй згаданы склад камітэта з прычыны вылучанай 18 жніўня б. г. [бягучага года] сваёй ініцыятывы ўшанавання памяці герояў 1863 г., што загінулі на тэрыторыі Касаўскага павета, маючы на ўвазе, што 1) у мінулым спутаны ланцугамі няволі народ патаемна чэрпаў дух з успамінаў светлага мінулага і геаічнай барацьбы за незалежнасць, 2) нядаўна шэрыя магілы герояў, раскіданыя шырока па нашай зямлі, месцы паломніцтваў нашай моладзі, мы засланялі травой і пустазеллем, каб прыкрыць і схаваць ад вока захопнікаў[1], беззваротна прайшоў з моманту, як прагналі захопнікаў з польскай зямлі, 3) што магілы загінуўшых герояў у незалежнай Польшчы павінны расцвісці кветкамі, таму камітэт сцвярджае, што знайшоў ужо час ушанавання памяці герояў, і ў напрамку гэтай думкі пастанаўляе:

1. Звярнуцца з ласкавай просьбай да пана старасты Чарноцкага быць апекуном камітэта будаўніцтва помніка паўстанцам 1863 г.

[1] У дакументах тэрмінамі "захопнік", "захопнікі" пазначаны расійскі царызм, царскія войскі.

2. Неадкладна прыступіць да збору ахвяраванняў на гэтую мэту і з узносаў насельніцтва ўсяго Косаўскага павета пры дапамозе розных установаў і грамадскіх арганізацый паставіць помнікі на магілах паўстанцаў, якія загінулі ў 1863 г., пахаваны на мясцовых могілках у м. Косава і мясцовасці Ласасін.

Адначасова пастанавілі склікаць наступнае пасяджэнне 5 кастрычніка 1928 года.

Старшыня Станіслаў Рудніцкі,

члены: паручнік Моравец, Г. Скжыньскі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 13.*

Пратакол № 2

пасяджэння камітэта па будаўніцтве помніка польскім паўстанцам, якія загінулі ў Косаўскім павеце, што адбылося 21.IX.1928 г.

Прысутнічалі: 1) Станіслаў Рудніцкі – старшыня ўправы камітэта,

а таксама члены: 2) Геранім Скжыньскі і 3) паручнік Алойзы Моравец.

Адзінагалосна пастанавілі прызваць у склад камітэта для яго павелічэння Ваўжыкоўскага, пасла Сейма Польскай Рэспублікі, і Антонія Ганебаха, рэдактара тыднёвіка “Polesie”, пра што паведаміць згаданым з просьбай стаць членамі ўправы.

Старшыня Стан. Рудніцкі,

члены: Г. Скжыньскі, паручнік А. Моравец.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 14.*

Пратакол

запісаны з п. [панам] Кухтай Міхалам 11 кастрычніка 1928 г. у канцылярыі павятовага каменданта паліцыі ў прысутнасці Рудніцкага Станіслава, Скжыньскага Гераніма і паручніка Мораўца Алойзы ў справе змагання і польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў 1863 годзе.

Згаданы Кухта Міхал паказвае:

Нарадзіўся 6 верасня 1853 года у Косаве-Палескім у нябожчыкаў – бацькі Яна і маці Казіміры з Цясельскіх. Хадзіў 2 гады ў школу ў Косаве, дзе нас вучыў польскай мове настаўнік-нябожчык Главацкі Юзэф, пазнейшы паўстанец 1863 года. Па веравызнанні з'яўляюся праваслаўным, уніятам. Умею чытаць і пісаць.

Адносна змагання і загінуўшых у 1863 г.:

У час паўстання 10-гадовым хлопцам быў у хаце каля маці. Пра пачатак паўстання даведаўся ад Канстанцыі і Бенедзікты Цэнткоўскіх, дочак былога ў той час праваслаўнага папа Сцяпана Цэнткоўскага і матушкі Марылі. Усе ў названай сям'і Цэнткоўскіх былі палякамі-ўніятамі, асабліва матушка Марыля. У маі 1863 г., дзень дакладна не памятаю, даведаўся, што атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Лукашэвіча, які налічваў 60 чалавек, стаіць у лесе Гарадзішча, размешчаным за 1 км на паўднёвы ўсход ад Косава. Даведаўся пра гэта таму, што дзяўчына Бенедзікта Цэнткоўская выслала мяне з лістком да п. [пана] Лукашэвіча і растлумачыла месца, дзе ён верагодней за ўсё размяшчаўся. У Косаве тады спыніўся расійскі прыстаў па прозвішчу Буш, які аднак быў авеяны польскім духам, як і усё Косава і ваколіцы. Я пабег з лістком і пасля праходжання 3-х пікетаў застаў Лукашэвіча, які сядзеў каля століка ў лесе. Лісток аддаў і без здарэння вярнуўся з адказам. З таго часу пастаянна быў пасярэднікам паміж паўстанцамі і дзяўчатамі Цэнткоўскімі, насіў паўстанцам ежу, бялізну, навіны і розныя патрэбныя рэчы. Час ад часу прысылаў паўстанцам ежу і адзенне п. [пан] Астраменцкі Міхал, упаўнаважаны гр. [графа] Пуслоўскага ў Мерачоўшчыне. Гэта працягвалася 5 тыдняў, бо Лукашэвіч чакаў атрады пад кіраўніцтвам п. [паноў] Улодка[2] і Млотка[3] (імёнаў не памятаю) з Беластоку. Аднойчы, будучы ў настаўніка Главацкага, даведаўся, што 2 атрады, якіх чакалі з Беластоку, былі ўжо блізка. Начаваў тады ў настаўніка Главацкага. Пад раніцу Главацкі разам з 3-ма паўстанцамі з атрада Лукашэвіча падаўся ў Гарадзішча і разам з цэлым атрадам рушыў на Гулін. У той самы дзень каля 10 гадзін прыбылі да Мерачоўшчыны каля 300 казакаў, таму я адразу пабег з навінай да Гуліна і там ужо застаў разам усе 3 атрады, г. зн. Лукашэвіча, Улодка, Млотка. Адразу пасля паведамлення Лукашэвічу гэтай навіны ўсе 3 атрады пайшлі на Мілавіды. Калі вяртаўся, то сустрэў таксама за Косавам казакаў, якія пасяпшаліся за паўстанцамі ў бок Івацэвічаў. Мяне затрымалі казакі і запыталі, адкуль вяртаюся і ці не бачыў паўстанцаў, на што адказаў, што шукаў згубленых авечак, а паўстанцаў нідзе не бачыў, то быў адпушчаны. Тры дні пасля вышэй апісанага выпадку даведаўся, што пад Мілавідамі на балотах паўстанцы ўступілі ў бой з расійскімі атрадамі, якіх ужо там тады падцягнулі больш, здаецца, што нават была артылерыя. На другі дзень вечарам у Косава з-пад Мілавідаў прывезлі 8 параненых паўстанцаў, сярод якіх быў Красінскі (імя не памятаю) з Альберціна, паранены ў бок і пасечаны па ўсім целе так, што не было свабоднага месца ад ранаў памерамі з далонь, што сам бачыў. Прысутнічаў пры тым, як Красінскі потым расказваў, што быў паранены і прыкінуўся забітым, калі набеглі казакі і адзін з іх стаў яму на жывот, а другі спрабаваў зняць з яго боты. Тады Красінскі не мог вытрымаць – цяжка ўздыхнуў, што пабачылі казакі і пачалі секчы шаблямі аж да страты прытомнасці.

Памёр ад ранаў Красінскі крыху больш чым праз тыдзень і быў пахаваны ксяндзом Багдановічам на гарадскіх могілках за кошт узносаў мясцовых косаўскіх грамадзян.

Праз 7 тыдняў астатнія параненыя выздаравелі і былі адвезены ў Слонім. Не ведаю, што было з рэшткай атрадаў Лукашэвіча, Улодка і Млотка, чуў толькі, што былі разбіты. Праз прыкладна 3 тыдні пасля боя пад Мілавідамі адбыўся большы бой у

[2] Фелікс Улодак (Шчасны) – землеўладальнік, кіраўнік пружанскага паўстанцкага атрада.
[3] Густаў Стравінскі (Млотак) – былы паручнік расійскай арміі, кіраўнік ваўкавыскага паўстанцкага атрада.

Бярозавым балоце паміж Гутай, Міхалін і Бялавічамі, каля 8 км ад Косава. Гэтаму бою папярэднічалі меншыя баі і дробныя сутычкі ў ваколіцах каля 3 км на паўднёвы ўсход ад Косава, адкуль аднак параненых не прывозілі, бо ў асноўным былі дабіты на месцы казакамі. Пры гэтым памятаю, што ў пэўным месцы паўстанцы пры пераходзе праз дарогу Косава-Няхачава прайшлі тылам наперад, чым зблыталі казакаў. Праз некалькі дзён пасля гэтага факта і шэрагу баёў у вышэй згаданых месцах адбыўся большы бой на Бярозавым балоце, у час якога кіраўнік атрада паўстанцаў Лукашэвіч, але не той, пра якога гаварылі папярэдне, а які змагаўся пад Мілавідамі, быў паранены ў жывот і ўпаў у кусты. На ляжачага натыкнуўся расійскі салдат Скотніцкі (імя не памятаю) і закалоў штыком насмерць. Труп Лукашэвіча быў прывезены, здаецца, лесніком Грэцкім, які расказваў пазней, што сам чуў, як закалолі Лукашэвіча, і паказваў месца здарэння.

Лукашэвіч быў пахаваны патаемна на гарадскіх могілках у Косаве намаганнямі арганіста Юзэфа Цясельскага. Разам з Лукашэвічам быў прывезены і пахаваны труп яшчэ аднаго паўстанца, прозвішча якога не ведаю. Што да іншых загінуўшых у баях на Бярозавым балоце і ў лясах на паўднёвы ўсход ад Косава, нічога мне невядома.

Магіла Красінскага знаходзіцца на каталіцкіх могілках пры іх паўднёва-ўсходнім баку на адлегласці каля 3,5 м на паўднёвы ўсход ад вялікага дуба і драўлянага крыжа, каля 2,5 м ад бярозы, што стаіць каля самага плоту. Магіла Лукашэвіча знаходзіцца каля 1 м на паўднёвы захад ад папярэдняй, а магіла паўстанца невядомага прозвішча – 1 м на паўднёвы захад ад магілы Лукашэвіча. На магіле Красінскага быў пастаўлены крыж у рост чалавека, а на іншых магілах няма. Увесь час жыву ў Косаве і ведаю, што магілы ад часу іх з'яўлення ніколі не былі парушаны. Вышэй згаданыя даныя памятаю вельмі дакладна і магу па любому жаданню заўсёды паўтарыць.

На гэтым пратакол скончаны, прачытаны і падпісаны.

Міхал Кухта.

Пратакол склаў Моровец. Прысутныя ў час допыту Станіслаў Рудніцкі,

паручнік Моравец, Г. Скжыньскі

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 10–12.*

Пратакол паказанняў

Мы, ніжэй падпісаныя жыхары горада Косава-Палескае Кухта Міхал, 76 гадоў, і Зукоўскі Пётр, 52 гады, 29 кастрычніка 1928 г. прыбылі на рымска-каталіцкія могілкі ў Косаве і пачалі шукаць магілы 3-х польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў 1863 годзе ў змаганні з захопнікам у Косаўскім павеце і пахаваны на могілках – Красінскага, Лукашэвіча і невядомага па прозвішчу.

Пасля працяглага пошуку на мясцовасці прыйшлі мы да перакanання і сцвярджаем, што магілы вышэй згаданых загінуўшых герояў знаходзяцца каля магілы каталіцкага ксяндза, пахаванага ў 1858 годзе, а не ў месцы папярэдне памылкова

ўказаным адным са знаёмых Міхала Кухты, які тады не ўлічыў, што могілкі каля 35 гадоў таму назад былі пашыраны.

Прысутныя пры пошуку магіл: намеснік косаўскага старасты Станіслаў Рудніцкі – кіраўнік камітэта па ўпарадкаванні магіл польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў 1865 годзе, і бурмістр горада Косава Баляслаў Маліноўскі.

Міхал Кухта Зукоўскі Пётр

Б. Маліноўскі Ст. Рудніцкі

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 9.*

Акт

адкрыцця і асвячэння помніка польскім паўстанцам 1863 г., што загінулі ў змаганні за незалежнасць, у павятовым мястэчку Косава на Палессі

Адбылося 11 лістапада 1928 г. у 12 гадзін 45 хвілін на каталіцкіх могілках у Косаве ў 10-ю гадавіну незалежнасці Польскай Рэспублікі ў часы кіравання

трэцяга Прэзідэнта дзяржавы прафесара, доктара Ігнацыя Масціцкага, Першага Маршалка Польшчы Юзэфа Пілсудскага, старшыні Рады Міністраў, доктара Казімежа Бартля, міністра ўнутраных спраў, генерала Славой-Складкоўскага, міністра веравызнанняў і грамадскай асветы, прафесара Казімежа Світальскага, палескага ваяводы, інжынера Яна Крагельскага, старасты Косаўскага павета Стэфана Чарноцкага, бурмістра мястэчка Косава Баляслава Маліноўскага,

у прысутнасці прадстаўнікоў дзяржаўных улад, органаў самакіравання і вайскоўцаў

следчага суддзі Катлубая, суддзі Станіслава Франкоўскага, інспектара Антонія Бярнацкага, земскага камісара Юзэфа Мількевіча, школьнага інспектара Ежы Лукашэвіча, начальніка казённага ўпраўлення Казімежа Дворніцкага, начальніка казённай касы Зыгмунда Юхневіча, начальніка паштовага ўпраўлення Адама Радзецкага, інспектара па акцызах і дзяржаўных манаполіях Томаша Макарэвіча, натарыуса Казімежа Каменскага, сакратара Косаўскага сейміка Войцеха Квасеборскага, інспектара ПВУ [Палескага ваяводскага ўпраўлення] Вітольда Зінкевіча, камісара бальнічнай касы Кухарскага, афіцэра паручніка Вольшлегера, каменданта дзяржпаліцыі Міхала Пагоскага, а таксама членаў сейміка.

Было адкрыта і асвечана надмагілле, устаноўленае за кошт добраахвотных узносаў намаганнем камітэта пад апекай старасты Чарноцкага ў складзе: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, намеснік старасты; члены – Геранім Скжыньскі, інспектар гміннага самакіравання; Алойзы Моравец, паручнік польскай арміі; Міхал Ваўжыноўскі, пасол Сейма; Антоній Ганебах, сакратар Брэсцкага сейміка.

Помнік як сімвал любові да Бацькаўшчыны з нагоды 10-й гадавіны незалежнасці Польшчы ўзводзіцца польскім героям паўстання 1863 года – Красінскаму, Лукашэвічу і з невядомым прозвішчам, якія на зямлі Палесся 60 гадоў назад палажылі ў ахвяру Бацькаўшчыне свае маладыя жыцці, імкнучыся атрымаць незалежнасць.

Акт асвячэння правёў мясцовы ксёндз-дэкан Драздоўскі.

У доказ гэтага вышэй згаданы акт падпісаны прысутнымі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 3–5.*

Пратакол

пасяджэння камітэта па ўпарадкаванні магіл паўстанцаў, якія загінулі ў Косаўскім павеце, што адбылося 10 снежня 1928 г.

Прысутнічалі: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, члены: Геранім Скжыньскі і паручнік Алойзы Моравец.

Адзінагалосна зацверджана:

1. Так як Косаўскі павет мае важнае гістарычнае значэнне для Польскай дзяржавы як калыска кіраўніка Тадэвуша Касцюшкі, бо гэты вялікі паляк[4] нарадзіўся на тэрыторыі Косава, любіў усё жыццё гэтую зямлю, трэба любыя дзеянні польскіх паўстанцаў, народных паўстанняў і т. п. замацаваць у выглядзе помнікаў, памятных дошак і іншага, што будзе мець апрача ўсяго важнае выхаваўча-маральнае значэнне для народа і польскасці тут, на крэсах, таму пры першай магчымасці паставіць памятныя крыжы ў месцах, дзе былі баі ці сутычкі паўстанцаў з захопнікам, а месцамі тымі з'яўляюцца ваколіцы Косава і Ласасіна Косаўскага павета.

2. Калі адмерзне зямля, таксама неабходна паставіць на фундамент помнік на магіле 40 польскіх паўстанцаў, што ляжыць на палях Ласасіна – помнік, які ўжо зроблены і знаходзіцца на захаванні ў Ружанскай гміне.

3. Пастаўлены ўжо камітэтам 11.XI.1928 г. на каталіцкіх могілках у Косаве помнік на магіле 3-х польскіх паўстанцаў, што загінулі ў 1863 г., з надыходам вясны трэба абгарадзіць.

4. Упаўнаважыць старшыню камітэта п. [пана] Рудніцкага ўрэгуляваць рахункі і наяўнасць за выкананне помнікаў і памятных крыжоў, а таксама агароджаў, звязаных з акцыяй, што распачалася выконвацца камітэтам.

5. Памятны крыж побач з Косавам трэба паставіць на гадавіну паўстання, г. зн. 22 ці 23 студзеня 1929 года.

[4] Менавіта так у тэксце дакумента.

Старшыня Станіслаў Рудніцкі,

члены: паручнік Моравец, Г. Скжыньскі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 15.*

Акт

асвячэння памятнага крыжа з надпісам "W tych okolicach miały miejsce potyczki powstańców polskich z najeźdcą w 1863 roku" ("У гэтых ваколіцах былі сутычкі польскіх паўстанцаў з захопнікам у 1863 годзе")

Гэта адбылося 23 студзеня 1929 года ў 15 гадзін на адлегласці каля 3 км ад мястэчка Косава пры дарозе мястэчка Косава – чыгуначная станцыя Косава ў часы кіравання

трэцяга Прэзідэнта дзяржавы прафесара, доктара Ігнацыя Масціцкага, Першага Маршалка Польшчы Юзэфа Пілсудскага, старшыні Рады Міністраў, доктара Казімежа Бартля, міністра ўнутраных спраў, генерала Славой-Складкоўскага, міністра веравызнанняў і грамадскай асветы, прафесара Казімежа Світальскага, палескага ваяводы, інжынера Яна Крагельскага, старасты Косаўскага павета Стэфана Чарноцкага, бурмістра мястэчка Косава Баляслава Маліноўскага,

у прысутнасці прадстаўнікоў дзяржаўных улад, органаў самакіравання і вайскоўцаў.

Быў асвечаны памятны крыж, устаноўлены за кошт добраахвотных узносаў намаганнем камітэта пад апекай старасты Чарноцкага ў складзе: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, намеснік старасты Косаўскага павета; члены – Геранім Скжыньскі, інспектар гміннага самакіравання; Алойзы Моравец, паручнік польскай арміі; Міхал Ваўжыноўскі, пасол Сейма; Антоній Ганебах, рэдактар тыднёвіка "Polesie" (Брэст).

Крыж як сімвал любові да Бацькаўшчыны ўзводзіцца з нагоды 66-й гадавіны Студзеньскага паўстання ў месцы, дзе былі сутычкі польскіх герояў паўстання 1863 г. з расійскім захопнікам.

Акт асвячэння правёў мясцовы ксёндз-дэкан Фелікс Драздоўскі.

У доказ гэтага вышэй згаданы акт падпісаны прысутнымі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 24, 1–2.*

Акт

асвячэння мемарыяльнага помніка з надпісам “Prochom 40 powstańców polskich poległych w 1863 roku w walkach z najeźdcą – mieszkańcy powiatu” (“Праху 40 польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў змаганні з захопнікам – жыхары павета”)

Адбылося 26 мая 1929 г. у 14 гадзін 30 хвілін на адлегласці каля 2 км ад асады Шчытна Ружанскай гміны Косаўскага павета на Палессі побач з дарогай Шчытна-Бярозаўка ў часы кіравання

трэцяга Прэзідэнта дзяржавы прафесара, доктара Ігнація Масціцкага, Першага Маршалка Польшчы Юзэфа Пілсудскага, старшыні Рады Міністраў, доктара Казімежа Бартля, міністра ўнутраных спраў, генерала Славой-Складкоўскага, міністра веравызнанняў і грамадскай асветы, прафесара Казімежа Світальскага, палескага ваяводы, інжынера Яна Крагельскага, старасты Косаўскага павета Стэфана Чарноцкага, прадстаўнікоў Ружанскай гміны войта Мікалая Макарэвіча, пісара Юзэфа Ванеўскага

у прысутнасці прадстаўнікоў дзяржаўных улад, органаў самакіравання і вайскоўцаў.

Быў асвечаны мемарыяльны помнік, устаноўлены за кошт добраахвотных узносаў намаганнем камітэта пад апекай старасты Чарноцкага ў складзе: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, намеснік старасты Косаўскага павета; члены – Геранім Скжыньскі, інспектар гміннага самакіравання; Алойзы Моравец, паручнік польскай арміі; Міхал Ваўжыноўскі – пасол Сейма; Антоній Ганебах, рэдактар тыднёвіка “Polesie” (Брэст).

Помнік ўзводзіцца на магіле 40 польскіх герояў паўстання 1863 года, якія загінулі ў змаганні з расійскім захопнікам на палях Шчытна і Ласасіна.

Акт асвячэння правёў ксёндз-пробашч рымска-каталіцкай парафіі ў Ружанах Альбін Ройша.

У доказ гэтага вышэй згаданы акт падпісаны прысутнымі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 6–8.*

Інфармацыйныя паведамленні каменданта пастарунка польскай дзяржаўнай паліцыі ў Шчытне Косаўскага павета (1929 г.)

На мяжы земляў, якія з аднаго боку належалі жыхарам вёскі Шчытна, з другога боку – жыхарам вёскі Ласасін, ва ўрочышчы Церцежа, на адлегласці 2,5 км ад асады Шчытна, 200 метраў ад гасцінца, г. зв. Шчыцянкі (стары тракт Слонім-Пружаны), знаходзіцца магіла паўстанца 1863 г. Гэтая магіла вясной 1928 г. была абгароджана, пастаўлены крыж. На крыжы зроблены надпіс “Tu spoczywają powstańcy polscy polegli w

walce z najezdcą w roku 1863-cim za naszą wolność i waszą” (“Тут пахаваны польскія паўстанцы, якія загінулі ў змаганні з захопнікам у 1863 г. за нашу і вашу свабоду”). Унізе надпіс “Cześć ich pamięci” (Пашана іх памяці”).

З боку гасцінца магіла засланяецца дрэвамі, так што слаба бачная. Колькасць асоб, пахаваных у магіле, нельга дакладна ўстанавіць. Найбольш зручна даехаць да магілы па гасцінцы.

Ст. п. [старшы пастарункавы]     Посьпех

Распытаны пра гэтыя акалічнасці Шабуня Юзэф, які пражывае ў асадзе Курылаўка, паказаў.

Польскае паўстанне 1863 г. памятаю, быў тады хлопцам 14-15 гадоў і жыў ў асадзе Шчытна, дзе цяпер знаходзіцца пастарунак паліцыі. Памятаю польскіх паўстанцаў, гэта было ніякае не рэгулярнае войска, а былі гэта грамадзянскія людзі, па-рознаму апранутыя і ўзброеныя. Са зброі мелі г. зв. крэмянёўкі, а некаторыя мелі пісталеты, што тады называлі “штуцэрамі”. Часта таксама прыходзіла тады расійскае войска, кавалерыя, і распытвала пра палякаў, бо тыя знаходзіліся тут у навакольных лясах, якія тады былі вельмі вялікімі і шырока раскінутымі. Аднаго разу завязалася тут у гэтых лясах бойка паміж палякамі і расійскімі войскамі. Мне здаецца, што гэта былі казакі. Бой працягваўся некалькі гадзін, а стрэлы былі ў нас добра чутнымі. На тым месцы, дзе зараз яшчэ відаць магіла, было шмат польскіх трупаў, якіх пахавалі ў адной агульнай магіле, кладучы адзін на другога. Забітых тады было больш 50, хаця не ўсе засталіся ў той магіле, таму што пэўную частку сваякі забітых аднойчы ноччу пазабіралі, так што ў магіле маглі застацца каля 40. Збоку магілы знаходзілася сасна, на якой было выразана, колькі і каго там пахавалі. Пазней хтосьці спілаваў тую сасну. Больш па гэтай справе не магу нічога сказаць.

Непісьменны

Паказанні запісаў  ст. паст. Посьпех.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка  Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 16.*

Копія

Пратакол допыту

Я, ст. пастарункавы Посьпех Станіслаў, камендант пастарунка дзяржаўнай паліцыі ў Шчытне, 6 жніўня 1929 г. дапытаў ніжэй указанага ў справе магіл паўстанцаў 1863 года, які паказаў [наступнае].

Мяне завуць Маразевіч Іван, сын Лявона, 74 гады, жанаты, праваслаўны, непісьменны, селянін, пражываю ў вёсцы Клепачы Ружанскай гміны Косаўскага павета, па справе, аб якой пытаюць, мне вядома наступнае.

Маладым хлопцам служыў у Манцэвіча, які быў ляснічым у дзяржаўным лесе – у Ружанскай пушчы – і жыў у тым месцы, дзе зараз знаходзіцца леснічоўка Бярозаўка. Манцэвіч быў палякам. Манцэвіч любіў паляваць і я часта хадзіў з ім у лес. Памятаю, што пры дарозе, якая ідзе праз Ружанскую пушчу з м. Ружаны да Пружан, г. зн. пры шашы і палявой дарозе, знаходзілася магіла, на якой быў крыж. Не раз бачыў, што Манцэвіч даглядаў гэтую магілу, што мяне зацікавіла, таму пытаў Манцэвіча, хто ляжыць у той магіле. Манцэвіч расказваў мне, што тут ляжаць польскія паўстанцы, забітыя казакамі ў час паўстання. Таксама мне паведаміў, што дубальтоўка, якую мае, належала аднаму паўстанцу, які пахаваны ў гэтай магіле. Як дастаў ён гэтую дубальтоўку, пра гэта не пытаў. Манцэвіч расказваў мне, што тыя паўстанцы заблудзіліся ў лесе, уцякаючы пасля нападу на іх казакаў пад Шчытнам і Ласасінам, і замест абозу, які знаходзіўся ў ваколіцы Яніна Лыскаўскай гміны, прыбылі сюды, іх казакі злавілі і забілі. Паводле расказу Манцэвіча, паўстанцаў было 2 ці 3. Апошні раз гэтае месца наведваў перад сусветнай вайной і бачыў, што крыж яшчэ быў, хаця ўжо зусім спарахнелы. А магіла зарасла травой і асела, г. зн. зраўнялася з зямлёй. Паколькі зараз на гэтым месцы знаходзіцца лес, мог бы гэтае месца знайсці. Было гэта на адлегласці менш-больш 1 км ад Бярозаўкі ў напрамку Ружан. Пра іншыя магілы, акрамя магілы, на якой у б. г. [бягучым годзе] быў пастаўлены помнік у ваколіцы Ласасіна, не чуў, хаця ў гэтых лясах амаль 30 гадоў быў лесніком.

Больш не магу нічога сказаць. Прачытана.

Непісьменны

Дапытаў ст. пастарункавы Ст. Посьпех

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 25.II.1930, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 20.*

Копія

Пастарунак дзяржаўнай паліцыі

ў Шчытне Косаўскага павета

8.VIII.1929 г.

№ 1600/1474

Магіла паўстанцаў – справаздача.

Да пана павятовага старасты ў Косаве

Дзеля выканання ўказання ад 11.VII.29 г. па сутнасці справы заяўляю, што нягледзячы на энергічныя апытанні ў ваколіцах Ласасіна не пацверджана больш ніякай магілы паўстанцаў 1863 года. А апытанні паказалі, што ў Ружанскай пушчы, побач з леснічоўкай Бярозаўка, на ўзроўні 21 км шашы Ружаны-Пружаны, у паўкіламетры ад шашы, пры старым гасцінцы Ружаны-Смаляніца павінна знаходзіцца магіла 2 ці 3 паўстанцаў. Пра акалічнасці гэтага быў дапытаны Маразевіч Іван, што пражывае ў Клепачах. Апытаннямі жыхароў бліжэйшых хутароў Пружанскага і

Ваўкавыскага паветаў пацвердзіў, што паказанне Маразевіча Івана можна лічыць праўдзівым, бо старэйшыя людзі гэтых хутароў памятаюць у месцы, указаным Маразевічам, магілу з крыжом, хаця таго месца ніхто зараз паказаць не можа. А беручы пад увагу распалажэнне дарог, магчымым з'яўляецца тое, што згаданыя паўстанцы, разбітыя часткі атрада з-пад Шчытна і Ласасіна, хацелі прабрацца пад Янін, дзе паводле інфармацыі павінен знаходзіцца абоз паўстанцаў, маглі заблудзіцца і натыкнуліся на казакаў. Маразевіч Іван гаворыць, што паколькі на гэтым месцы яшчэ ёсць лес, то ён мог бы тое месца знайсці. Заяўляю, што Маразевічу 74 гады і пешшу не можа адправіцца, бо тое месца аддалена ад вёскі Клепачы больш чым на 20 км.

Камендант пастарунка

ст. пастарункавы Ст. Посьпех

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 25.II.1930, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 18.*

Пратакол № 5

пасяджэння камітэта па ўпарадкаванні магіл польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў 1863 г. у Косаўскім павеце, і будаўніцтве помнікаў, што адбылося 17.VIII.1929 г.

Прысутнічалі: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, члены: Геранім Скжыньскі і паручнік Алойзы Моравец.

Парадак дня:

1. Дапаўненне ў назве камітэта.
2. Вольныя прапановы.

1. Зацверджана з 25.VIII. б. г. [бягучага году] называць мясцовы камітэт, зыходзячы з таго, што ініцыятарам-заснавальнікам і арганізатарам з'яўляецца кіраўнік акругі Стралецкага саюза Станіслаў Рудніцкі, заснавальнікам і арганізатарам ёсць камендант акругі Стралецкага саюза Геранім Скжыньскі, заснавальнікам і арганізатарам з'яўляецца павятовы камендант фізічнага выхавання і дапрызыўной падрыхтоўкі, паручнік польскай арміі Алойзы Моравец, наступным чынам:

   "секцыя пад апекай старасты Чарноцкага пры кіраўніцтве акругі Стралецкага саюза ў Косаве-Палескім па ўпарадкаванні магіл польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў Косаўскім павеце ў 1863 годзе ў змаганні з захопнікам, і будаўніцтве ім помнікаў".

2. Зацверджана правесці фатаграфаванне помнікаў, магіл і крыжоў польскім паўстанцам у Косаве і Ласасіне.

[подпісы]

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 10.IX.1929, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 17.*

Копія

Пратакол

Я, войт Ружанскай гміны Макарэвіч Мікалай, 1 верасня 1929 г. разам з жыхаром вёскі Клепачы мясцовай гміны Маразевічам Іванам прыбыў на месца, указанае тым жа Маразевічам, дзе павінна знаходзіцца магіла польскіх паўстанцаў 1863 г. Пры гэтым на месцы высветліў, што пра існаванне магілы сведчаць 2 увагнутасці зямлі, адна ўвагнутасць ад пахаваных там прахаў, а другая ад крыжа, які не знойдзены. Гэтае месца было абсыпана зямлёй і на магіле ўбіта адпаведная паля. Пры капанні зямлі натыкнуліся на косці, якія былі складзены ў магілу.

Вышэй узгаданая магіла знаходзіцца на ўзроўні 21 км шашы, што праходзіць з Ружан да Пружан, у баку леснічоўкі "Бярозаўка" (1 км ад шашы).

На гэтым пратакол скончаны і падпісаны.

Войт гміны М.Макарэвіч

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцэлярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 25.II.1930, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 19.*

Акт

асвячэння памятнага крыжа з надпісам "Tu spoczywa 2-ch nieznanych z nazwiska powstańców polskich, poległych w 1863 r. w walkach z najeźdcą" ("Тут пакаяцца 2 невядомыя па прозвішчу польскія паўстанцы, якія загінулі ў 1863 г. у змаганні з захопнікам")

Гэта адбылося 26 студзеня 1930 года ў _ гадзін _ хвілін у 67 гадавіну Студзеньскага паўстання, каля 21 км шашы, што праходзіць з Ружан да Пружан, пры леснічоўцы Бярозаўка, у 1 км ад шашы Ружанскай гміны Косаўскага павета на Палессі, у часы кіравання

трэцяга Прэзідэнта дзяржавы прафесара, доктара І. Масціцкага, Першага Маршалка Польшчы Юзэфа Пілсудскага, старшыні Рады Міністраў, доктара Казімежа Бартля,

міністра ўнутраных спраў Юзефскага, міністра веравызнанняў і грамадскай асветы, доктара Славаміра Чэрвінскага, палескага ваяводы, інжынера Яна Крагельскага, старасты Косаўскага павета, інжынера Стэфана Чарноцкага, прадстаўнікоў Ружанскай гміны – войта гміны Мікалая Макарэвіча, пісара гміны Юзэфа Ванеўскага,

у прысутнасці прадстаўнікоў дзяржаўных улад, органаў самакіравання і вайскоўцаў.

Быў асвечаны памятны крыж, устаноўлены за кошт добраахвотных узносаў намаганнем секцыі па ўпарадкаванні магіл польскіх паўстанцаў, якія загінулі ў Косаўскім павеце ў змаганні з расійскім захопнікам, і будаўніцтве ім помнікаў пры кіраўніцтве акругі Стралецкага саюза ў Косаве-Палескім пад апекай старасты Стэфана Чарноцкага ў складзе: старшыня – Станіслаў Рудніцкі, кіраўнік акругі Стралецкага саюза; члены – Геранім Скжыньскі, камендант акругі Стралецкага саюза; Алойзы Моравец – паручнік польскай арміі.

Крыж быў пастаўлены на магіле 2-х польскіх герояў паўстання 1863 года, невядомых па прозвішчах, якія загінулі ў змаганні з расійскім захопнікам пры абароне незалежнасці і гонару польскага народа.

Акт асвячэння правёў ксёндз-пробашч рымска-каталіцкай парафіі ў Ружанах Альбін Ройша.

У доказ гэтага вышэй згаданы акт як далейшы працяг прац Стралецкага саюза Косаўскага павета па ўпарадкаванні магіл і будаўніцтве помнікаў героям 1863 г. падпісаны прысутнымі.

Пацвярджаю адпаведнасць арыгіналу [кіраўнік канцылярыі Косаўскага староства, Косава-Палескае, 25.II.1930, подпіс].

[пячатка Косаўскага староства]

*Пераклад з польскай мовы*

*ДАБВ. – Ф. 364. – Воп. 1. – Спр. 22. – Л. 22–23.*

***Прадмова, каментарыі і пераклад з польскай мовы***
***А.М. Вабішчэвіча***

